Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 4
КРАСАВІК




МЕНСК — 1929

*М. ЛЯУКОЎ*

# Аб чыстцы партыі

„Паказных членаў партыі—пісаў Ленін—нам не патрэбна і задарма. Адзіная дзяржаўная партыя ва ўсім сьвеце, якая дбае не аб павялічэньні колькасьці членаў, а аб падвышэньні іх якасьці, аб ачыстцы партыі ад „прымазаўшыхся", ёсьць наша партыя—партыя рэвалюцыйнае рабочае клясы.

Мы ня раз рабілі перарэгістрацыю членаў партыі, каб выгнаць гэтых „прымазаўшыхся", каб заставіць у партыі толькі сьвядомых і шчыра адданых камунізму. Мы карысталіся і мабілізацыямі на фронт і суботнікамі, каб ачысьціць партыю ад тых, хто хоча толькі „карыстацца" з выгады ад становішча членаў дзяржаўнай партыі, хто ня хоча несьці цяжару самаахвярнай работы на карысьць камунізму".

У 1922 г. на пасяджэньні камуністычнай фракцыі зьезду мэталістаў ён гаварыў пра чыстку: „Пасьля таго як мы пачалі чыстку партыі і сказалі сабе: „шкурнікаў, што папрымазваліся да партыі, злодзеяў—далоў"—стала ў нас лепш. Сотні тысяч прыблізна мы выкінулі, і гэта добра, але гэта толькі пачатак. На Зьезьдзе партыі мы гэтае пытаньне абгаворым як сьлед і тады, я думаю, тыя дзесяткі тысяч, якія цяпер арганізуюць камісіі і ніякай практычнай работы не праводзяць і ня ўмеюць праводзіць падпадуць таму-ж самаму. Вось калі мы такім чынам пачысьцімся, наша партыя будзе займацца фактычнай работай".

А на кангрэсе Камінтэрну ён так вучыў: „Камуністычныя партыі ўсіх краін, дзе камуністы вядуць сваю работу легальна, павінны праводзіць пэрыядычныя чысткі (перарэгістрацыі) асабістага складу партыйных арганізацый, каб сыстэматычна ачышчаць партыю ад нямінуча прымазваючыхся да яе дробна-буржуазных элементаў".

З гэтага можна бачыць, што чыстка партыі на ўсіх этапах разьвіцьця нашай партыі была адным з сродкаў, пры дапамозе якога партыя захоўвала чыстату і адзінства сваіх бальшавіцкіх шэрагаў, што яна (чыстка) *у сучасных умовах напружанай работы па будаўніцтву сацыялізму пастаўлена перад намі як адна з важнейшых і адказьнейшых задач, бяз правільнага вырашэньня якой партыя ня зможа ў далейшым больш пасьпяхова разгортваць барацьбу па перамозе капіталістычных элемэнтаў.*

## Задачы чысткі

Надыходзячая гэнеральная чыстка партыі нямюжа быць абмяжована толькі вычышчэньнем з яе шэрагаў непатрэбных элементаў і спагнаньнямі на тых, хто яшчэ можа пазбавіцца сваіх недахопаў. Гэта асноўная, але не адзіная задача чысткі. Для партыі зьяўляецца асабліва важным і патрэбным разам з гэтым высьвятліць (у часе чысткі)

пытаньні аб тым—пры якіх абставінах і як праходзяць у партыю варожыя ёй элемэнты, як і пад уплывам якіх прычын дапушчаецца выкрыўленьне клясавай лініі ў рабоце паасобных ячэек, якое кіраўніцтва ячэйкамі з боку Райкомаў, а таксама, якія прычыны спрыяюць разлажэньню некаторых членаў партыі. Гэта значыць, што пры частцы мы павінны праверыць работу кожнай партыйнай арганізацыі ў горадзе і вёсцы, кожнай ячэйкі, кожнага партыйца; праверыць іх сувязь з шырокімі масамі беспартыйных рабочых і працоўнага сялянства, іх аўтарытэт сярод шырокіх мас беспартыйных рабочых і працоўнага сялянства і давер‘е апошніх да партыі.

Надыходзячая чыстка партыі, як і ўсе мінулыя чысткі, і перарэгістрацыі павінна быць *зьвязана з задачай шырокага ўцягненьня ў партыю лепшых, праверaных на грамадзкай рабоце, рабочых, батракоў, калгасьнікаў і бядняков, якія „здольны ісьці ў авангардзе рабочых мас па практычным перамаганьні цяжкасьцей сацыялістычнага будаўніцтва, па адпоры дробна-буржуазным ідэйным хістаньням, па ўсямерным падняцьці давер‘я да партыі ўсяе масы рабочых і працоўных вёскі“.*

Роля нашай Ленінскай партыі як авангарду рабочае клясы і кіраўніка сацыялістычнага будаўніцтва на базе нэпу, выключна адказная і цяжкая, таму „нашаю задачаю зьяўляецца *самым настойлівым і рашучым парадкам уцягнуць у партыю тых рабочых і работніц, якія выказваюць найбольшую палітычную стойкасьць у пэрыяды цяжкасьцей, зьяўляюцца сапраўднымі пралетарскімі інтэрнацыяналістамі, асабістым прыкладам спрыяюць росту вытворчасьці і працоўнае дысцыпліны, горача і ўпарта змагаюцца з бюракратызмам, актыўна працуюць над сваім культурным разьвіцьцём і тым самым здольны ўзмацніць Ленінскія шэрагі пралетарскага авангарду“.*

Пры дапамозе чысткі, рабочая кляса, батрацтва і бедната вёскі павінны ўбачыць і ўявіць сабе яшчэ лепш, што партыя патрабуе ад сваіх членаў ідэёвай вытрыманасьці, актыўнасьці і ўстойлівасьці ў барацьбе за сацыялізм, што яны (беспартыйныя рабочыя, батрацтва і бедната) павінны даць для ўзмацненьні партыі такія кадры, якія будуць, як казаў Ленін „не для рэклямы, а для сапраўднай работы“ па сацыялістычнаму будаўніцтву, якія будуць „асабістым прыкладам спрыяць“ гэтаму будаўніцтву, як сказаў Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б).

Чыстка патрэбна партыі не каб настрашыць, а каб вывучыць, што сабой уяўляе кожны партыец. Таму падрыхтоўка да чысткі і чыстка павінны праходзіць пры такіх абставінах і ўмовах, якія-б прымусілі кожнага камуніста праверыць, у першую чаргу, самога сябе цяпер і прымусілі-б яго ў далейшым больш уважліва адносіцца да палітычнага і партыйнага жыцьця, глыбей цікавіцца праяўленьнем клясавай барацьбы ў горадзе і вёсцы і прымаць больш актыўны і сьвядомы ўдзел ў гэтай барацьбе, таму чыстка партыі павінна ўзьняць палітычную сьвядомасьць і адказнасьць кожнага партыйца, павінна прымусіць яго працаваць над сабой.

У часе чысткі партыі неабходна паставіць на практычную ногу барацьбу з усялякімі злоўжываньнямі і бытавым загніваньнем, у якіх-бы формах яно не выяўлялася. Патрэбна паказаць рабочым масам, што чыстка партыі і самакрытыка цесна зьвязваюцца, што самакрытыка ў часе чысткі павінна ўдарыць па ўсіх слабых месцах нашай работы.

Пры дапамозе чысткі, такім чынам, *партыя павінна вырашыць падвойна важную задачу, гэта—ачысьціць партыйныя рады ад усяго*

*непартыйнага, гнілога, чужога, і разам з тым дамагчыся рашучага пераломy ў рабоце па ўзмацненьню партыі новымі перадавымі кадрамі прамысловых і сельска-гаспадарчых рабочых, батракоў, лепшых актывістаў калгасьнікаў і беднякоў.*

## Каго вычышчаць з партыі?

На VIII партыйным зьезьдзе ў дакладзе „Пра работу ў вёсцы" Ленін папярэджваў партыю, што „Да нас папрысмоктваліся дзе-ні-дзе кар'ерысты, авантурысты, якія назваліся камуністамі і надуваюць нас, якія палезьлі да нас таму, што камуністы цяпер ва ўладзе"... А ў артыкуле „аб чыстцы партыі" ён вучыў: „Ачысьціць партыю патрэбна ад мазурыкаў, ад бюракратаў, ад нядобрасумленных, ад няцьвёрдых камуністаў, ад меншавікоў, якія перафарбавалі „фасад", але ў душы пазасталіся меншавікамі".

Выходзячы з гэтай Ленінскай устаноўкі, партыя павінна ачысьціць свае шэрагі ад усіх тых, што папрымазьаліся да партыі, што кампрамэтуюць яе і перашкаджаюць у рабоце. Гэта значыць, што партыйныя арганізацыі (у горадзе і асабліва ў вёсцы) пазінны выявіць і тым дапамагчы камісіям па чыстцы выкінуць з партыі тых, хто сапраўды актыўна перашкаджае разгортваньню самакрытыкі, хто сьвядома скрыўляе лінію партыі, скарыстоўваючы свае знаходжаньне ў партыі; вычышчаць усіх тых, хто сьвядома перашкаджае калектывізацыі і вытворчаму каапэраваньню вёскі, хто падтрымлівае сувязь з варожым элемэнтам (нэпманам, кулаком, спэкулянтам), хто не пакінуў і ня хоча пакінуць рэлігійных забабонаў; вычышчаць усіх тых. хто абмешчаніўся і разжыўся—гэта тых, каму „свая хата", карты, гарэлка і іншыя непадобныя рэчы даражэй за партыю і партыйныя абавязкі. *Выкінуць з партыі ўсіх сацыяльна чужых і клясава небясьпечных асоб, якія ў часе абвостранай клясавай барацьбы прадаюць інтарэсы партыі і дапамагаюць нэпману, кулаку, спэкулянту.*

*Усю работу па ачыстцы партыйных шэрагаў ад чужых і безнадзейна разложаных элемэнтаў падпарадкаваць асноўнаму—зрабіць шэрагі партыі адзінымі, дысцыплінаванымі, здольнымі, яшчэ больш пасьпяхова праводзіць справу сацыялістычнага будаўніцтва* і тым *„рашуча ўдарыць па тых элемэнтах, якія ў пэрыяд узмоцненай барацьбы партыі з бюракратызмам і шырокага разгортваньня самакрытыкі паўтараюць троцкісцкую хлусьню пра бюракратызацыю партыі,* тым самым выяўляючы свой адрыў ад партыйнага жыцьця, ад рабочых мас", *ударыць па тых элемэнтах, якія бяруць пад сваю абарону правы ўхіл і прымірэнцаў, ударыць па правым ухіле і прымірэнцтву з ім, як самаму небясьпечнаму ў сучасных умовах.*

## Чыстка партыі і арганізацыя мас

Чыстка партыі—работа надзвычайна важная і надзвычайна цяжкая і складаная. Пасьпяховае яе выкананьне залежыць ад таго, у якой мерцы партыйныя камітэты і кантрольныя камісіі з'арганізуюць навокал гэтай работы партыйную масу, як арганізуюць шырокі актыўны ўдзел рабочае клясы і працоўнага сялянства.

У свой час Ленін пісаў: *„Чысьціць партыю, улічваючы ўказаньні беспартыйных працоўных—справа вялікая. Яна дасьць нам сур'ёзныя вынікі. Яна зробіць партыю значна больш моцным авангардам клясы, чым раней, зробіць яе (партыю М. Л) авангардам, больш моцна зьвязаным з клясай, больш здольнай весьці яе (клясу М. Л.) да перамогі сярод поўна якіх цяжкасьцей і небясьпекі"* далей:

*„Ёсьць мейсцы, дзе чысьцяць партыю, апіраючыся галоўным чынам на вопыт, на ўказаньні беспартыйных рабочых, кіруючыся іх указаньнямі, улічваючы думку прадстаўнікоў беспартыйнай пралетарскай масы. Вось гэта самае каштоўнае, самае важнае. Калі-б нам сапраўды ўдалося такім чынам ачысьціць партыю ад верху да нізу, „не зважаючы на асобы“, заваяваньні рэвалюцыі былі-б вялікія“.*

А ў пастанове Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) чытаем: *„Як да справы ўзмоцненай вярбоўкі рабочых, так і да справы рашучай чысткі партыі ад ідэёва і сацыяльна чужых элемэнтаў неабходна прыцягваць самыя шырокія беспартыйныя рабочыя масы. Гэты ўдзел беспартыйных рабочых, а ў вёсцы—беспартыйных сялян, асабліва-ж батрацтва і беднаты, мусіць быць сапраўды актыўным, сапраўды масавым. Для партыі гэта дапамога беспартыйнай масы працоўных мае выключна вялікае значэньне, як важнейшая дапамога ва ўсёй справе сацыялістычнага будаўніцтва, на чале якога ідзе камуністычная партыя“.*

Прыцягненьне шырокіх мас беспартыйных рабочых, батракоў і беднаты да чысткі партыі будзе мець вялікае значэньне таму, што—па-першае, у ацэнцы людзей—„да прымазаўшыхся“, да „закамісараўшых“, да „абюракрацеўшых“ дапамогуць указаньні беспартыйнай пралетарскай масы і, па-другое,—такое прыцягненьне беспартыйных мас да чысткі партыі і крытыкі паводзін і дзейнасьці ня толькі паасобных партыйцаў, але і недахопаў у рабоце ўсяе ячэйкі, дасьць магчымасьць лепшым прадстаўнікам гэтых мас уявіць задачы партыі і практычныя мерапрыемствы па іх выкананьні.

Прыцягненьне шырокіх беспартыйных рабочых мас і працоўнага сялянства да чысткі партыі патрабуе ад партыйных арганізацый вялікае напружанае работы і арганізаванасьці партыйных шэрагаў, патрабуе выразнага партыйнага кіраўніцтва. Вось чаму *партыйная арганізацыя ні ў якім разе не павінна ў часе чысткі заставацца ў хвасьце ў беспартыйных.* Наконт гэтага Ленін пісаў „... ня ўсім указаньням масы мы будзем падпарадкавацца, бо маса таксама паддаецца калі-ні-калі... настроям трохі неперадавым“. Гэтага Ленінскага папярэджваньня ніводная ячэйка, ніводзін партыец не павінен забываць ні пры падрыхтоўцы, ні пры самой чыстцы партыі.

Пры гэтым *асаблівую ўвагу ўзяць на „рашучае папярэджваньне ўсялякай магчымасьці з боку варожых элемэнтаў гораду і вёскі скарыстаць чыстку партыі і паасобныя хваравітыя зьявішчы з мэтай дыскрэдытацыі партыі“. Пытаньні чысткі партыі, як і ўся работа партыі, ні ў якім разе не павінны выносіцца на суд нашых клясавых ворагаў.* Наадварот, задача партыйных арганізацый у часе чысткі партыі—*павесьці шырокія масы беспартыйных рабочых і працоўнае сялянства на барацьбу супроць кулака і нэпмана.*

Таму *работа па чыстцы партыі павінна быць арганізавана, як масавая работа, на падставе шырокага разгортваньня крытыкі і самакрытыкі. Чыстка партыі павінна даць магутны штуршок далейшаму разгортваньню крытыкі і самакрытыкі.*

Задача ўсіх арганізацый, усіх ячэек, кожнага камуніста (у горадзе і ў вёсцы) добра зразумець, што *чыстка партыі дасьць больш станоўчых вынікаў пры тых умовах, калі за работу гэтую вазьмуцца ня толькі кантрольныя камісіі, а ўся партыя, калі навокал работы па чыстцы партыі будзе змабілізавана ўвага і актыўнасьць усіх членаў партыі. Самадзейнасьць усяе масы членаў партыі ў чыстцы*

*і пасьпяховае правядзеньне яе магчымы толькі пры ўмовах, калі ў працэсе падрыхтоўкі і правядзеньня па чыстцы будзе забясьпечана поўнасьцю ўнутрыпартыйная дэмакратыя ў ячэйках.* Кантрольныя камісіі парткомы і ячэйкі на гэты момант павінны ўзяць асаблівую ўвагу.

## Падрыхтоўка да чысткі

Падрыхтоўка да партчысткі ў рабоце ўсіх гарадзкіх і вясковых арганізацый павінна заняць асабліва важнае мейсца. На выкананьне дырэктывы ЦК і ЦКК КПБ па гэтаму пытаньню неабходна мабілізаваць увагу і сілы ўсяе партыі.

Трэба ўжо цяпер папярэдзіць галоўныя дзьве небясьпекі, якія стаяць перад партыйнымі арганізацыямі, гэта—недаацэнка важнасьці і надзвычайнай цяжкасьці чысткі з боку партыйнага актыву і, што выцекае з гэтага, адмоўнай сьпешкі ў падрыхтоўцы; недаацэнка настойлівай канечнасьці чысткі з боку шырокіх мас членаў партыі, дзякуючы недастатковасьці высьвятленьня гэтага пытаньня ў партыйным друку. Адсюль ёсьць магчымасьць няправільнага ўспрыняцьця задач чысткі шырокімі партыйнымі масамі. Таму задача ўзмоцненай прапрацоўкі пытаньняў чысткі на партыйных сходах і асьвятленьня ходу прапрацоўкі на старонках газэт—найактуальная задача.

Дырэктывы ЦК і ЦКК КП(б)Б аб тым, каб—„усю правадзімую падрыхтоўчую работу па чыстцы шырока асьвятляць у цэнтральных акруговых і насьценных газэтах, шырока прыцягваючы для асьвятленьня гэтага пытаньня партыйны актыў, рабселькораў, сьценкораў"—пакуль што ў жыцьцё не праламляецца. Кантрольным камісіям і парткомам трэба конча хутка вывучыць актывістаў партыйцаў, якія-б пачалі сыстэматычна пісаць у газэты аб падрыхтоўцы да чысткі. Рэдакцыям газэт у сваю чаргу таксама больш зацікавіцца гэтым пытаньнем і ўжыць неадкладныя захады па арганізацыі высьвятленьня пытаньняў чысткі на старонках газэты.

*На партыйных сходах і ў друку весьці шырокую разьясьніцельную работу аб тым, каб у разуменьні паасобных партыйцаў і ячэек не захоўвалася такая шкодная думка як „сьмецьця з хаты ня выносіць", „сваіх ня выкрываць". Унутрыпартыйная дэмакратыя накладвае абавязак на членаў партыі весьці рашучую барацьбу з такім настроем.*

Улічваючы вопыт мінулых чыстак, трэба конча *падбаць асабліва пра тое, каб абвінавачваньні супроць таго ці іншага партыйца правяраліся наколькі яны адпавядаюць сапраўднасьці. Пры гэтым „ужо цяпер патрэбна ўзяць увагу і папярэдзіць партыйныя арганізацыі аб недапушчальнасьці як у падрыхтоўчай рабоце па чыстцы, таксама і ў працэсе самое чысткі momантаў тутэйшчыны, зьвядзеньня асабістых рахункаў, момантаў склочнасьці".* Партыі патрэбна, каб падрыхтоўка да чысткі і чыстка былі пазбаўлены непрынцыповых падыходаў—шаблону, фармалізму і інш.

Вялікае значэньне для *пасьпяховасьці чысткі ў сэнсе недапушчэньня недахопаў набывае добры падбор і падрыхтоўка кадраў практычных работнікаў*—членаў камісій і іх сэкратароў. Таму трэба прызначыць *максымум увагі вучоту і падрыхтоўцы гэтых кадраў,* згодна дырэктывы ЦК і ЦКК па гэтым пытаньні. Па прыкладзе мінулых чыстак *члены камісій мусяць адпавядаць прыкладна наступным запатрабаваньням—„Бальшавіцкая вытрыманасьць, безганебнасьць", аўтарытэтнасьць, магчыма вялікі партыйны стаж, па магчымасьці гэта павінны быць рабочыя ад варштату.* Пры іншых роўных умовах апошняму патрэбна даваць перавагу.

З прычыны таго, што цяжка будзе падабраць патрэбную колькасьць таварышоў, якія адпавядаюць такім запатрабаваньням *усіх работнікаў, якія прызначаюцца ў склад праверачных троек трэба конча аддаць самай дакладнай праверцы* з складаньнем адпаведных пратаколаў. Пасьля такое праверкі, прызначаных у склад праверачных троек таварышоў, трэба правесьці спэцыяльную падрыхтоўку праз гутаркі аб агульных мэтах і задачах чысткі, аб яе арганізацыйных прынцыпах, аб мэтадах работы, аб падыходзе к розным групам і катэгорыям камуністаў (у савецкіх, вясковых і вытворчых ячэйках).

Арганізацыйна тэхнічнае інструктаваньне праверачных троек і іх сэкратароў набывае вялікае значэньне—ад таго, наколькі яскрава будзе праводзіцца работа троек і пісацца пратаколы пастаноў іх, у значнай ступені будзе залежаць хуткасьць і пасьпяховасьць далейшай работы па разбору жалаб. Таму праверачныя камісіі павінны вывучыць і ўлічыць вопыт ранейшае работы па праверцы і чыстцы партыі, добра прапрацаваць плян свае работы, вывучыць матар'ялы аб становішчы тых арганізацый, дзе будуць праводзіць сваю работу. У дадатак да ўсяго гэтага конча трэба прапрацаваць з членамі камісій вынікі вопытнай чысткі аднэй-двух ячэек па акрузе для вучоту станоўчых і адмоўных вынікаў гэтае чысткі і тым папярэдзіць магчымыя памылкі ў рабоце камісій па частцы.

Кантрольныя камісіі і партыйныя камітэты павінны ў часе падрыхтоўкі і чысткі сачыць за тым, каб ў паасобных ячэйках ня здарылася таго, аб чым гаварыў тав. Яраслаўскі на Маскоўскай партканферэнцыі, гэта можа здарыцца дзе-ні-дзе, што горшая частка ў ячэйцы можа выгнаць лепшую частку. Можа гэта здарыцца, калі мы не забясьпечым з самага пачатку цалкам вытрыманы добраякасны склад праверачных камісій, калі незабясьпечым дакладны і ўважлівы кантроль і кіраўніцтва работай праверкі і чысткі з боку ЦК і ЦКК, калі мы забудзем галоўную, асноўную задачу чысткі, калі не разьясьнім усёй партыі, навошта чысьцім, каго чысьцім, за якую „якасьць“ чысьцім.

Не ўважаючы на ўсе цяжкасьці, якія стаяць перад намі ў часе чысткі, мы яе правядзем і ўзмацнім нашу партыю. Праз чыстку партыі мы ўтворым больш здаровыя таварыскія абставіны і давер'е членаў партыі паміж сабою, мы ўтворым больш давер'я працоўных мас да партыі. Праз чыстку партыі мы забясьпечым вядучую ролю індустрыі, гэта значыць—*забясьпечым узмацненьне ў партыі ўплыву гэтых пластоў пролетарыяту. Праз чыстку партыі мы забясьпечым Ленінскае адзінства партыі.*

---

*Я. ФЭЙГЕЛЬСОН*

# Дзесяць год Камуністычнага Інтэрнацыяналу (1919—1929 г.)

У ліку іншых традыцый Другога Інтэрнацыяналу, з якімі рашуча парваў Трэці Інтэрнацыянал, ёсьць і традыцыя зьвязаная з характарам розных урачыстасьцяў і юбілеяў. Для сучаснага (пасьляваеннага) Другога Інтэрнацыяналу кожны юбілей зьяўляўся повадам для арганізацыі пампэзна-бутафорскае дэманстрацыі: для аднабаковага падкрэсьліваньня „посьпехаў і дасягненьняў“; для пільнага скрыцьця слабасьцяў руху; для загушоўваньня і абходу найбольш вострых і хворых пытаньняў. Правадыры гэтае прастытуванае міжнароднае „агэнтуры буржуазіі ў рабочай клясе“ на сваіх інтэрнацыянальных, асабліва юбілейных кангрэсах звычайна нічога ня мелі супроць, каб сыграць камэдыю з урачыстаю клятбою адданасьці справе пралетарыяту, з заклікамі да „рашучае барацьбы“ за „жаданую перабудову грамадзтва“ і ўсё гэта часам з пышным убіраньнем сваіх прамоў у левую quasi—марксыцкую фразэалёгію. А потым „пасьля сьвятца“, пабрынкаўшы на міжнароднай трыбуне рэвалюцыйнамі бражджушкамі, усе гэтыя Вандэрвэльды, Банкуры і Баўэры, зьвярнуўшыся дамоў, пачыналі „чарговыя справы“ па ўзмацненьню капіталістычнага ладу, па ратаваньню яго ад пралетарскае рэвалюцыі, якая стукаецца ў дзьверы...

Зусім па іншаму і з іншымі мэтамі сьвяткуе свае „юбілеі“ Камуністычны Інтэрнацыянал. Для яго „юбілей“—генэральны агляд рэвалюцыйнай арміі міжнароднага пралетарыяту: цьвярозы падлік сваіх сіл і сіл ворага; бясстрашна правадзімае падвядзеньне падрахункаў барацьбы з падлікам гістарычнага вопыту перамог і паражэньняў; бязьлітасная крытыка, няўхільных ва ўмовах вялізарнае схваткі працы і капіталу, памылак пралетарскага авангарду і ў падрахунку ўсяго—новая праверка правільнасьці вызначанае лініі далейшае барацьбы і мабілізацыі вакол яе шырачэйшых пластоў зьняволенага чалавецтва.

## I

Камуністычны Інтэрнацыянал стварыўся ў выніку злучэньня шэрагу асаблівасьцяў ходу гістарычнага разьвіцьця з доўгім ланцугом напружаных натуг перадавых рэвалюцыйных элемэнтаў рабочае клясы.

Сусьветная імпэрыялістычная вайна, крах II Інтэрнацыяналу: Кастрычнік 1917 г. ў Расіі, сусьветны пасьляваенны рэвалюцыйны крызыс—вось такія асноўныя *аб'ектыўныя прадпасылкі*, што зрабілі магчымым і неабходным стварэньне III Інтэрнацыяналу, прадпасылкі арганічна зьвязаныя з рашаючым фактам—фактам надыходу эпохі міжнароднае пралетарскае рэвалюцыі.

Упартая, якая цягнулася шмат гадоў, барацьба бальшавікоў з апартунізмам усіх відаў і адценьняў; стварэньне левага крыла ў нетрах даваеннага Другога Інтэрнацыяналу; барацьба з сацыял-шавінізмам у

пэрыядзе імпэрыялістычнае бойні; паступовая консалідацыя ў зьвязку з гэтай барацьбой лепшых элемэнтаў Заходня-Эўрапейскага рабочага руху вакол расійскіх бальшавікоў; рэвалюцыйная мабілізацыя гэтых элемэнтаў на аснове лёзунгаў, узгалошаных Кастрычнікаўскім пераваротам—такі ў асноўным зьмест доўгага і мардоўнага працэсу дасьпяваньня *суб'ектыўнага фактару*, рэалізаваўшага аб'ектыўна дасьпеўшую патрэбу ў стварэньні новага—III Інтэрнацыяналу.

Урэшце: маніфэст бальшавіцкага ЦК ад 1-XI—1914 году: Сакавіковая 1915 г. канфэрэнцыя РСДРП, што адбылася ў красавіку 1915 г. у Бэрне, Міжнародная канфэрэнцыя жанчын работніц і Інтэрнацыянальная юнацкая канфэрэнцыя; Цымервальд (верасень 1915 году) і Кінталь (красавік 1916 г.)—такія рознае ступені важнасьці, асноўныя *тычкі на шляху* перадгісторыі Камінтэрну.

4 сакавіка 1919 г. канстытуваўся і ўстаноўчы кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыяналу. „Гэтая вялічэзнае важнасьці падзея адбылася ў аднэй з заляў Крэмлю, дзе сабралася чалавек сорак дэлегатаў, большаю часткаю расійскіх, альбо былых палітычных эмігрантаў з Расіі. Даўно ўжо ўсе сапраўдныя рэвалюцыянэры ўсіх краёў з нецярплівасьцю чакалі нараджэньня новага Інтэрнацыяналу. І тым часам, ніводнага афіцыйнага прадстаўніка ад пралетарыяту лацінскіх, англасаксонскіх краёў Заходняй Эўропы і Амэрыкі ня было на гэтым зьезьдзе, які сустрэла пагарджаючым рогатам сусьветная буржуазія і яе лісьлівыя лёкаі, рэнэгаты Другога Інтэрнацыяналу.

Расія, разадраная на кавалкі, аслабшая, абяскроўленая трыма гадамі імпэрыялістычнае бойні і двума гадамі грамадзянскае вайны, задыхалася ў жалезных абцугох контр-рэвалюцыйных армій, здавалася, была пры апошнім часе канцу. І вось, гэтая паміраючая расійская рэвалюцыя асьмельваецца заклікаць іншыя народы да сацыяльнае рэвалюцыі. Якая недарэчнасьць! Якое вар'яцтва!

У Лёндане, у Парыжы, у Нью-Ёрку буржуазныя і так званыя „сацыялістычныя" газэты рагаталі да сьлёз, апавядаючы пра дзіцячую выхадку „нікчэмнага гуртку экстрэмістаў", што пазьбіраліся ў Маскве. Яны заяўлялі, што гэта проста новы блэф, надуманы Леніным, апошні манэўр бальшавікоў перад пагібельлю [1]).

Але ня толькі сярод ворагаў панаваў тады скэптыцызм у дачыненьні пэрспэктыў нанаў створанае міжнароднае пралетарскае арганізацыі. У шэрагах самога рэвалюцыйнага авангарду былі элемэнты (і зусім не малыя лікам), якія лічылі передчасным стварэньне ў сакавіку 1919 г. Камуністычнага Інтэрнацыяналу, матывуючы гэта слабасьцю сусьветнага камуністычнага руху, наяўнасьцю яшчэ ў шырокіх рабочых мас рэфарміцкіх ілюзій і неразуменьнем з боку гэтых мас неабходнасьці стварэньня III Інтэрнацыяналу. Менавіта такія погляды разьвіваў на І кангрэсе дэлегат мацнейшае Зах.-Эўрапейскае камуністычнае арганізацыі—нямецкі—М. Альбэрт, выконваючы наказ, што далі яму правадыры нямецкіх камуністаў—Р. Люксембург і Л. Тышко. Факты надворнага парадку былі як быццам за гэты пункт погляду. Да І кангрэсу, толькі ў аднэй краіне—у пралетарскай Расіі—у Камінтэрна была рабочая партыя ў сапраўдным сэнсе гэтага слова.

У другіх краінах па сутнасьці справы былі ўсяго толькі маламоцныя, у сваёй большасьці нават арганізацыйна слаба аформленыя, „грамады прапаганды камунізму", якія рабілі толькі першыя крокі па шляху аўладаньня масамі. А ўсё-ткі вельмі памыліліся тыя таварышы,

[1]) Камуністычны Інтэрнацыянал № 11-VI—1920 г. Арт. Ж. Садуля „III Інтэрнацыянал".

якія на I кангрэсе перасьцерагалі ад небясьпекі перадчаснага стварэньня Камінтэрну: яны яўна *недаацэньвалі тэмпу* нарастаньня рэвалюцыйнага руху і зьвязанае з гэтым няўхільнасьці бурнага росту пралетарскага Інтэрнацыяналу, які нараджаўся.

Як-бы яно ня было, але цяпер, калі гэты апошні падводзіць падрахункі свайму першаму дзесяцігодзьдзю, вельмі мэтазгодна і неабходна з пункту гледжаньня дапасаваньня правільнага гістарычнага крытэрыю ўспамянуць *выходны пункт* разьвіцьця Камінтэрну, улічыць тое, з *якімі сіламі* распачаў ён выконваць сваю сусьветна-гістарычную місію. І тады станецца нясумненным першы падрахунак пройдзенага дзесяцігадовага шляху: ад невялічкіх прапагандыцкіх груп—да сусьветнае камуністычнае партыі, якая раскінула па ўсёй зямной кулі свае філіялы, аб'яднаўшая ў сваіх 43 сэкцыях загартаваную армію перадавых байцоў, што складаюць кадры, каторыя дзесяткамі тысяч нітак зьвязваюць Камінтэрн з гушчаю рабочае клясы, і якія сваёй упартай штодзеннай работай падрыхтоўваюць мабілізацыю *большасьці* пралетарыяту вакол лёзунгаў Камінтэрна.

## II

Вышэй мы падкрэсьлілі неабходнасьць захаваньня гістарычнае пэрспэктывы, неабходнасьць стасаваньня правільнага маштабу ацэнкі падрахункаў барацьбы і работы III Інтэрнацыяналу. У зьвязку з гэтым трэба з усёй рашучасьцю падкрэсьліць недапушчальнасьць разгляду падрахункаў дзесяцігодзьдзя з пункту погляду тых ілюзорных суб'ектыўных чаканьняў тэмпа ходу падзей, якія ўзьнiклі ў гады вялічэзнага ўзьлёту сусьветнае рэвалюцыйнае хвалі. Ад гэтых ілюзій Камінтэрн цалкам даўно вызваліўся. Аднак, у яго шэрагах сустракаліся, а часам сустракаюцца і да гэтага часу, такія гора „рэвалюцыянэры“, якія не працяўшыся сутнасьцю і характарам перажываемай эпохі, маюць нахіл плакліва скардзіцца на тое, што гісторыя „падманіла“ іх веру ў хуткі развал II Інтэрнацыяналу, іх чаканьні пераможнага трыумфальнага паходу з краю ў край пралетарскае рэвалюцыі, іх перакананасьць у тым, што будаўніцтва сацыялізму ў першай краіне рабочае дыктатуры пойдзе простым шляхам, а не цяжкімі вакольнымі шляхамі НЭП'у.

Ясна, што ад „скаргаў“ такога роду да рэвізіі ўсёй прынцыповай пазіцыі Камінтэрну толькі адзін крок. І сапраўды, на гэтай глебе ў некаторых нястойкіх, не здалеўшых вызваліцца ад старага ідэёвага сацыял-дэмакратычнага барахла, членаў Камінтэрну зьяўляліся сумненьні ў правільнасьці ленінскае ацэнкі эпохі, як „эпохі распаду і краху ўсёй сусьветнай капіталістычнай сыстэмы“, сумненьні з бязумоўнай няўхільнасьцю даводзіўшыя сумненных у балота II Інтэрнацыяналу. На гэтых сумненьнях варта спыніцца, бо няма для Камінтэрну прынцыпова і практычна больш важнага пытаньня, чымся пытаньне аб правільнасьці яго асноўнае стратэгічнае ўстаноўкі, што выходзіць з ацэнкі сучаснае эпохі, як эпохі сусьветнае пралетарскае рэвалюцыі.

Ці давялося Камінтэрну ў ходзе гістарычнага разьвіцьця зрабіць якія-небудзь карэктывы ў некаторыя яго першапачатковыя ацэнкі, пляны і меркаваньні?—Так, давялося. Вазьмеце старыя, 1919-1920 г. г., нумары „Камуністычнага Інтэрнацыяналу“, перагарнеце іх, прагледзьце зьмест артыкулаў і вы ўбачыце, што аднэй з характэрных іх асаблівасьцяў зьяўляецца *перавялічэньне тэмпу* разгортваных падзей.

Вось, напрыклад, колькі цытат з кіруючых артыкулаў таго часу: „На студзень 1920 году II Інтэрнацыянал падрыхтаваў свой урачысты

кангрэс у Жэневе... Небаракі! Ім, як відаць, і няўцям, што надыходзяць іх апошнія дні. Яны ня бачаць, што іхнаму II Інтэрнацыяналу, па праўдзе кажучы, ня доўга засталося жыць".

Так, сухотны хворы іншы раз напярэдадні свае сьмерці нечакана ўстае з ложку і пачынае будаваць самыя прыветныя пляны на будучае. А ў гэты час сьмерць з касою стаіць ужо ў яго за плячыма...

5 сьнежня 1919 г. на Зьезьдзе незалежных сацыял-дэмакратаў у Нямеччыне—у Лейпцыгу 227 галасамі супроць 54 пастаноўлена выйсьці з II Інтэрнацыяналу і завязаць зносіны з III Камуністычным Інтэрнацыяналам.

Гэта—факт вялізнае гістарычнае важнасьці. Гэта—апошні ўдар прагніўшаму і гінучаму на вачох II Інтэрнацыяналу. Ад гэтага ўдару II Інтэрнацыянал не паправіцца.

Гэта—канец II Інтэрнацыяналу [1]).

„Пажар грамадзянскае вайны шугае па ўсёй Эўропе... Рух ідзе так шыбка, што можна з перакананасьцю сказаць: праз год мы пачнем ужо забывацца, што ў Эўропе была барацьба за камунізм, бо праз год уся Эўропа будзе Камуністычнай. І барацьба за камунізм пераносіцца ўжо ў Амэрыку, а, мабыць, і ў Азію і ў іншыя часьці сьвету... Пралетарская рэвалюцыя будзе пераможнаісьці з краю ў край. Сямімільнымі крокамі яна будзе іншы раз переступаць адразу нават не праз адну, а праз дзьве і больш лік межаў" [2]).

Ужо ў 1921 г. на III кангрэсе Камінтэрну Ленін падкрэсьліў памылкі нашых першапачатковых меркаваньняў аб тэмпу падзей (гл. том XVIII, ч. I, стар. 297). Асабліва рэзка гэтае пытаньне было пастаўлена пашыраным Пленумам ВККІ (сакавік—красавік 1925 г.), дзе тав. Зіноўеў у сваім вядомым дакладзе, прысьвечаным праблемам бальшавізацыі кампартый, казаў пра тое, што „ад марксызму, асабліва ад Ленінізму, які зьяўляецца марксызмам нашых дзён, мы атрымалі тэорыю сусьветнае рэвалюцыі... Але ёсьць дзьве праблемы, вырашэньне якіх не заключана ў самой тэорыі, таму што вырашэньне гэтых праблем па самой сутнасьці справы магчыма толькі на аснове гістарычнага вопыту. Гэта, папершае, пытаньне аб *тэмпу* пралетарскае рэвалюцыі, *аб шыбкасьці* яе разьвіцьця наогул—аб яе тэрмінах.

Гэта, па-першае, пытаньне аб маршруце, аб палітычнай гэаграфіі яе. Што датыкаецца тэмпу, тэрмінаў разьвіцьця пралетарскае рэвалюцыі, дык вопыт ня толькі Камінтэрну, але і першага Інтэрнацыяналу і ўсяе работы такіх людзей, як Маркс і Ленін, паказвае нам, як цяжка было абыйсьціся ў гэтай галіне без памылак. На падставе ўжо маемага ў нас саміх вопыту мы пераканаліся, з якой асьцярогаю трэба адносіцца да пытаньня аб тэрмінах сусьветнае рэвалюцыі, як часта і лёгка, з прычыны зразумелае нецярплівасьці рэвалюцыянэра, можна памыліцца, азначаючы вельмі пасьпяхова тэрміны падзей. Не дарма-ж менавіта ў гэтай галіне памыляўся ня толькі Ленін, але і Маркс [3]). „Мы павінны проста глядзець праўдзе ў вочы. Мы павінны прызнацца, што пытаньне аб тэрмінах рэвалюцыі падлягае далейшаму перагляду. Мы раней іншы раз лічылі час на месяцы, цяпер мы прымушаны лічыць яго на гады" [4]).

Паўстае цяпер пытаньне: ці мяняе гэта, ці хоць-бы паслабляе ў якой-небудзь ступені правільнасьць ленінскага аналізу эпохі, як эпохі

[1]) „Камуніст. Інтэрнац." № 7-8 Лістапад—Сьнежань 1919 г. арт. „Інтэрнацыянал паміраючы і Інтэрнацыянал усходзячы". Стар. стар. 1009 і 1013.
[2]) „К. І. № 1, 1919 г. Май ст. „Пэрспэктывы пралетарскае рэвалюцыі", стар. 41 і 44.
[3]) Пашыр. Пленум ЦККІ. 1925 г. Стэнаграфічная справаздача, стар. 33.
[4]) Пашыран. Пленум ВККІ. Стэнагр. справаздача 1926 г. с. 79.

сусьветнае пралетарскае рэвалюцыі? На гэтае пытаньне з усёй выразнасьцю павінен дацца адмоўны адказ. Ніякімі слоўнымі подступамі, ніякімі сацыял-дэмакратычнымі сафізмамі нельга абвяргнуць таго навукова-устаноўленага факту, што стадыя манапалістычнага капіталізму давяла супярэчнасьці паміж творчымі сіламі і буржуазнымі творчымі дачыненьнямі—па-першае, і клясавыя антаганізмы—па другое, да такое ступені, што сацыяльная рэвалюцыя аб'ектыўна зьяўляецца зусім насьпелым плодам гістарычнага разьвіцьця.

Панове сацыял-дэмакраты, яшчэ ў 1917—23 г. г. маглі „практычна" на ўласным вопыце пераканацца, што сусьветная рэвалюцыя не фантан, ня зданЬ „выдуманая ўтапістамі-бальшавікамі", а вельмі адчулая рэальная канкрэтнасьць, што дала ня мала няпрыемных, часам страшных, перажываньняў меншавіцкім філістэрам усіх краёў і народаў.

Але-ж за выключэньнем Расіі рабочыя паўстаньні ўсюды канчаліся крахам? Гэта правільна. Аднак, адкуль, з якіх палажэньняў навуковага сацыялізму вынікае, што сусьветная рэвалюцыя павінна перамагчы адным махам, адным ударам? Яшчэ III кангрэс у аднэй з сваіх рэзалюцый [1]) вельмі добра разьясьніў нецярплівым прыяцелям Камінтэрну што „толькі дробна-буржуазнае бязглузьдзе можа бачыць крушэньне праграмы Камуністычнага Інтэрнацыяналу ў тым факце, што Эўрапейскі пралетарыят ня скінуў буржуазію ў працягу вайны, ці зараз-жа пасьля скапчэньня вайны. Курс Камуністычнага Інтэрнацыяналу на пралетарскую рэвалюцыю зусім ня значыць дагматычнага дапасаваньня рэвалюцыі да пэўных каляндарных датаў ці абавязковасьці мэханічна зрабіць рэвалюцыю ў пэўны тэрмін".

У бягучы пэрыяд гістарычнага разьвіцьця, які характарызуецца адносным (эканамічным і сацыяльна-палітычным) узмацненьнем капіталізму, выцьцё жоўтых лыцараў з II Інтэрнацыяналу і рэнэгатаў камунізму аб краху стаўкі Камінтэрну на сусьветную рэвалюцыю дасягнулі асаблівае сілы і распушчанасьці. Гэтае выцьцё лішні раз сьведчыць пра поўны адыход сацыял-дэмакратыі ад марксызму, аб арганічнай няздольнасьці яе пранікнуць за надворную відочнасьць зьявішчаў („посьпехі і дасягненьні" буржуазнага грамадзтва), каб разглядзець за гэтай падманнай, знадворнай відочнасьці *сутнасьць* зьявішчаў, якая заключаецца ў няўхільным насьпяваньні вялічэзнае сілы антаганізмаў і ўмоў надыходзячага аграмаднага абвастрэньня клясавае барацьбы. Памянёнай поўнай тэарытычнай нядужасьці II Інтэрнацыяналу V і VI Кангрэсы Камінтэрну супроцьпаставілі ўсебаковы, цьвярозы навуковы аналіз ходу разьвіцьця пасьляваеннага капіталізму з тым, які сьцьвярджае ўсім гістарычным вопытам мінулых гадоў, вывадам, што „стабілізацыя капіталізму ня можа ня быць частковай, часовай і гнілой", якая падрыхтоўвае ўсе прадпасылкі для новага магутнага ўздыму рэвалюцыйнае хвалі.

Абдумваючы пройдзены дзесяцігадовы шлях, Камінтэрн ня мае ніякіх падстаў мяняць у чым-небудзь сваю агульна-прынцыповую устаноўку, сваю ацэнку сучаснае эпохі. Яна цалкам захоўвае ўсё сваё тэарэтычнае і практычнае значэньне.

З другога боку, гэта, канечне, ні ў найменшай ступені не супярэчыць таму, што гісторыя дала карэктыву нашаму першапачатковаму меркаваньню пра тэмп і пра канкрэтны ход сусьветнае рэвалюцыі: „Рух пайшоў ня так просталінейна, як мы чакалі", ход гісторыі здаўся больш марудным, складаным, пакручастым і гэта зьяўляецца адным з важнейшых вурокаў мінулых дзесяці гадоў.

---

[1]) „Аб сусьветным становішчы і задачах Камінтэрну".

Псыхолёгічна зусім зразумелыя і лёгка аб'ясьнімыя тыя настроі рэвалюцыйнае нецярплівасьці, якія ўзрушалі кіруючыя кадры Камінтэрну ў абстаноўцы разбушаванага рэвалюцыйнага мора першых пасьляваенных гадоў. З тэй пары праблема пралетарскае рэвалюцыі з навялікшай канкрэтнасьцю жывога гістарычнага вопыту выявілася, як праблема вялічэзнае цяжкасьці, якая патрабуе ад пралетарыяту для свайго вырашэньня магутнага напруджаньня сіл. Вораг здаўся мацнейшым, як мы думалі, праявіў большую здольнасьць да прыстасаваньня і супраціўленьня, як гэта можна было думаць. Не ўважаючы на гістарычную засуджанасьць, кляса буржуазіі, падагнатая інстынктам самазахаваньня, здалела сканцэнтраваць для адпору пралетарыяту ўсе свае, назапашаныя дзесяцігодзьдзямі, матар'яльныя і ідэалёгічныя рэсурсы, здолеў праявіць найвялікшую настойлівасьць, клясавую мудрасьць, спрытнасьць, умельнасьць манэўраваньня. З другога боку, і II Інтэрнацыянал гэта „адкінутая сіла буржуазіі", паказаў сваю здольнасьць шалёна супраціўляцца працэсу рэвалюцыянізаваньня мас, здольнасьць чэпка ўтрымліваць тыя камандныя вышыні, якія ён захапіў яшчэ ў перадваенныя годы свае гегемоніі ў пралетарскім руху.

Тым большую ролю ў такіх умовах набывае работа Камінтэрну па падрыхтоўцы да рэвалюцыі найшырэйшых мас міжнароднае рабочае клясы!

### III

Было-б зусім мала, каб абмежавацца толькі простай кастатацыяй тэй акалічнасьці, што Заходня-Эўрапейскай буржуазіі ўдалося супроцьпаставіцца першай хвалі сусьветнае рэволюцыі. Неабходна паставіць пытаньне аб *прычынах* гэтага зьявішча на тое, каб адказаць на яго пад кутам гледжаньня вучоту гістарычнага вопыту мінулага дзесяцігодзьдзя.

Стадыя манапалістычнага капіталізму, як было ўжо намі адзначана, стварыла асноўныя прадпасылкі для сацыяльнае пралетарскае рэвалюцыі. Далей, імпэрыялістычная вайна 1914—1918 г. г. прывяла да стварэньня рэвалюцыйнае сытуацыі, без якое, як казаў Ленін, рэвалюцыя па агульнаму правілу немагчыма.

„Якавы, кажучы наогул, прыметы рэвалюцыйнае сытуацыі?" Пытаўся Ў. І. [1]) і адказваў: „Мы напэўна не памылімся, калі пакажам тры наступныя галоўных прыметы: 1)... крызыс палітыкі пануючае клясы... 2) абвастрэньне больш чымся звычайнае поўнае нястачы і бедаваньня прыгнечаных кляс. 3) Значнае падвышэньне дзякуючы паказаным прычынам актыўнасьці мас... „Бясумненна, што ў шэрагу краін у 1918—1923 г. г. сусьветная вайна і яе вынікі зрабілі паказаную толькі што „згрупованасьць аб'ектыўных зьмен, якія завуцца рэвалюцыйнай сытуацыяй". Цяпер падамо яшчэ адну цытату з Леніна, якая дае разумець пастаўленае намі пытаньне: „Ня з усякае рэвалюцыйнае сытуацыі вынікае рэвалюцыя, а толькі з такое сытуацыі, калі да пералічаных вышэй аб'ектыўных зьмен далучаецца суб'ектыўная: далучаецца здольнасьць рэвалюцыйнае клясы на рэвалюцыйныя масавыя дзеі, такія моцныя, каб зламаць (ці надламаць) стары ўрад, які ніколі, нават і ў эпоху крызісаў, не „ўпадзе", калі яго ня „скінуць".

А ці стаўся пралетарыят у 1918—23 г. г. здольным „на рэвалюцыйныя масавыя дзеі"? Так. Але ці былі гэтыя „масавыя дзеі" дастатна моцнымі і арганізаванымі, каб „зламаць", „скінуць" капіталізм? Не (за выключэньнем Расіі).

---

[1]) Ленін, т. XIII, стар. 139—140.

У чым заключаліся прычыны такое заслабое для пераможнае рэвалюцыі падрыхтаванасьці яе „суб'ектыўнага фактару"? У дачыненьні сіл паміж контр-рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыяй і арганізаваным рэвалюцыйным авангардам. З аднаго боку, былі старыя, моцныя, найлепш арганізаваныя, меўшыя „выспрабаваны" кадр функцыянэраў, шматгадовымі сувязямі ў рабочай клясе, разгалінаваным добра агітацыйна-прапагандысцкім апаратам, багатай прэсай і г. д, рэфармісцкія партыя і профсаюзы, а з другога боку—толькі што ўзьнікшыя, ці якія яшчэ толькі знаходзіліся ў працэсе свайго ўзьніканьня маладыя камуністычныя партыі, рабіўшыя яшчэ да таго часам няйвялікшыя памылкі.

У вогуле ў 1918—19 г. г. у Нямеччыне, калі фактычным гаспадаром краіны зрабіўся пралетарыят, сацыял-дэмакратыя, умела выкарыстаўшы сваю сабраную дзесяцігодзьдзямі моц, унесла хістаньні і нерашучасьць у адну часьць рабочае клясы, сілаю зброі белагвардзейскіх атрадаў Носке задушыла другую часьць, каб урэшце самахвотна перадаць уладу ў рукі буржуазіі.

У гэтыя-ж гады, у Італіі ў момант крайняга развалу буржуазнага дзяржаўнага апарату, найлепшы, бурны рэвалюцыйны рух мас, які дасягнуў да 1920 году свайго апогэю, быў сарваны палітычнай бесхарактарнасьцю адных („левых") сацыялістычных правадыроў і простай здрадаю другіх.

Толькі імгненным мэтэорам блiснула і хутка згасла Савецкая Вэнгрыя, у значнай меры дзякуючы слабасьці і памылкам маладой Вэнгерскай Кампартыі, якая ня здолела перамагчы здраду сацыял-дэмакратаў.

У Англіі моцны стачачны рух, адчыніўшы для ангельскага пралетарыяту шырокія пэрспэктывы рэвалюцыйнае барацьбы, разьбіўся аб кансэрватызм, трусьлівасьць і здраду кіраўнікоў трэд юніонаў.

У тэй, ці іншай ступені, з тымі ці іншымі варыяцыямі, сказанае можна пашырыць на ўсе Заходня-Эўрапэйскія краіны, дзе ў 1918—21 г. г. разгарэлася полымя рэвалюцыі. Усё гэта гаворыць пра тую трагэдыю, якую перажыў рабочы рух першых пасьляваенных гадоў, калі, паводле слоў рэзалюцыі III кангрэсу К. І., „пралетарыятам розных краёў было праяўлена столькі энэргіі, гатоўнасьці да барацьбы, самаахвяры, што іх з лішкам хапіла-б на пераможную рэвалюцыю, каб на чале рабочае клясы стаяла моцная, цэнтралізаваная і гатовая да дзейнасьці міжнародная камуністычная партыя, але дзякуючы прычынам гістарычнага мінулага на чале эўрапэйскага пралетарыяту ў часе вайны і зараз-жа пасьля яе стала арганізацыя Другога Інтэрнацыяналу"...[1])

Некалькі інačай праходзілі падзеі пры новай рэвалюцыйнай хвалі 1923 г. Паражэньне гэтага году (у Нямеччыне, Баўгарыі і Польшчы) таксама аб'ясьняецца заслабою падрыхтаванасьцю „суб'ектыўнага фактару" з тэй, аднак, папраўкай, што да гэтага часу, ня так як 1918—1919 г.г., ужо існавалі масавыя камуністычныя партыі, а з другога боку (як гэта было ў Нямеччыне), міжнародная і ўнутраная абстаноўка, якая тады склалася, нанесла моцны ўдар сацыял-дэмакратыі, „якая паслабела падчас рэвалюцыйнага крызісу, нават часткова дэзарганізавалася. І ўсёткі на долю пролетарыяту выпалі зноў цяжкія паражэньні.

Дакладны аналіз з вурокаў 1923 г., зроблены Камінтэрнам, канчаткова паказаў, што Нямецкае, Баўгарскае і Польскае паражэньне рабо-

[1]) Тэзысы III кангрэсу аб сусьветным становішчы і задачах Камуністычнага Інтэрнацыяналу.

чае клясы зьявілася ў значнай меры вынікам буйнейшых апартуністычных памылак, зробленых адпаведнымі кампартыямі. 1923 год ускрыў усё няўмельства, усю непадрыхтаванасьць іх да кіраваньня рэвалюцыйнымі бойкамі.

Давedзеныя вышэй факты набываюць асабліва паказальнае значэньне пры ўлічваньні тэй акалічнасьці, што ніколі яшчэ ў гісторыі рэвалюцыйныя партыі асобных краёў ня мелі такога дасканалага кіруючага міжнароднага штабу, які мела кампартыя ў Камуністычным Інтэрнацыянале, на чале якога стаялі выспрабаваныя расійскія бальшавікі. І тут з усёй яскравасьцю трэба зразумець, *што рэвалюцыйныя партыі не зьяўляюцца на „сьвет божы“ адразу падрыхтаванымі да вырашэньня* вялікіх задач. Успамянем партыю расійскіх бальшавікоў, яны ў 1917 годзе паказалі клясычны прыклад таго, як трэба весьці рэвалюцыю да перамогі.

У зьвязку з гэтым Ленін заўсёды моцна падкрэсьліваў [1]), што калі бальшавізм паказаў прыклад „вытрыманасьці, дысцыпліны, цьвёрдасьці, адзінства волі“ і правільнасьць палітычнае лініі, дык толькі таму, што дзякуючы „шэрагу гістарычных асаблівасьцяў Расіі“ яму ўдалося за доўгія гады свайго разьвіцьця выпрацаваць у сябе усе патрэбныя якасьці. Гэтыя апошнія „ня могуць зьявіцца адразу. Яны выпрацоўваюцца толькі доўгай працай, цяжкім вопытам“, з дапамогаю правільнай рэвалюцыйнай тэорыі, якая сама працінае „плоць і кроў“ авангарду і „канчаткова складаецца толькі ў шчыльнай сувязі з практыкай сапраўды рэвалюцыйнага руху“.

На няшчасьце для пралетарыяту, гісторыя „адвяла“ падчас першых рэвалюцыйных боек, Заходня-Эўрапейскім кампартыям занадта *кароткі тэрмін*, каб яны здолелі выпрацаваць у сабе „патрэбнае і неабходнае“ для цьвёрдага і ўмелага кіраўніцтва пролетарыятам. З другога боку, гісторыя „паклапацілася“ стварыць у З. Эўропе, ня так як у Расіі, такія „асаблівасьці разьвіцьця, якія ў максымальнай ступені перашкаджалі напружнай рабоце Камінтэрну, каб зрабіць яго сэкцыі сапраўды бальшавіцкамі партыямі. Мы ня маем магчымасьці даць характарыстыку ўсім гэтым „асаблівасьцям“. Зазначым толькі на адну істотную акалічнасьць. Le mort saisit le vif (памёршае хапае жывога)“.

„Традыцыі мінулых пакаленьняў як немарасьць стаяць над мозгам жывучых“. Гэтыя Марксаўскія думкі цяпер якраз дарэчы ўспамянуць. Перафразоўваючы Ленінскія словы, можна сказаць, што Камінтэрн пачаў будаваць сусьветную камуністычную партыю не з фантастычнага і ня з спэцыяльна-створанага чалавечага матар‘ялу, а з таго, які яму быў пакінуты „у спадчыну“ усім папярэднім ходам рабочага руху.

Паглядзеце на склад тых, у большасьці сваёй заслаба афармленых плыняй, груп і партый, якія склалі ў 1919-20 г. г. першапачатковую армію Камінтэрну і вы ўбачыце тут вельмі стракатую арыгінальную мазаіку. Мы не памылімся, калі пералічым наступныя пяць важнейшых складных элемэнтаў гэтае „мазаікі“. 1) Тэарэтычна і практычна добра падрыхтаваныя да рэвалюцыйнае барацьбы кадры расійскіх бальшавікоў. 2) Старыя сацыял-дэмакраты, што ўваходзілі ў „левае крыло“ даваеннага II Інтэрнацыяналу, якія, будучы шчыра адданымі рэвалюцыянэрамі, у той-жа час у сваёй большасьці ня здолелі яшчэ рашуча адкінуць ад сябе традыцыі сацыял-дэмакратызму, у асярэдзішчы якога яны набылі сабе марксыцкае „загартаваньне“. 3) Новае пакаленьне пралетарыяў, якое вырасла ў часе і пасьля сусьветнае вайны, пакаленьне поўнае найлепшых рэвалюцыйных магчымасьцяў, але адначасна

[1]) Ленін, гл. т. XVII, стар. 117—120.

не прайшоўшае доўгае навукі клясавае арганізацыі; пакаленьне рэвалюцыйна-нецярплівае, часам нахільнае да анарха-сындыкалісцкіх настрояў, без патрэбнае вытрыманасьці, без разуменьня ролі арганізацыі, дысцыплінаванасьці. 4) Часовыя спадарожнікі з сацыялістычнага і анарха-сындыкалісцкага лягеру; імпрэсыяністы па характару пад непасрэдна моцным уплывам рэвалюцыйнае сытуацыі тых, што ўвайшлі ў шэрагі Камінтэрна. 5) Цэнтрысцкія і адкрыта апартуністычныя элемэнты з II Інтэрнацыяналу, што папралазілі ў Камінтэрн за спэцыяльнай мэтаю „перабыць“ пад яго папулярным сьцягам рэвалюцыйную буру, з тым, каб, калі станецца больш для іх спрыяючая абстаноўка, захаваўшы за сабою масы, зьвярнуцца ў „родныя Палестыны“ II Інтэрнацыяналу.

У рамках нашага выкладу сказанага цалкам хапае, каб зрабіць наступныя вынікі: 1) За выключэньнем партыі расійскіх бальшавікоў, рэшта сэкцыі Камінтэрну ў сваёй большасьці складаліся з элемэнтаў, якія ў тэй ці іншай ступені толькі *набліжаліся* да бальшавізму. 2) Такім чынам, Камінтэрну трэ' было вырашаць вельмі цяжкую задачу па бальшавіцкаму перавыхаваньню сваіх сэкцый. 3) У працэсе гэтае „пэдагагічнае“ работы ўнутры сэкцый зусім няўхільна было праяўленьне розных хістаньняў, нерашучасьці, ухілаў ад бальшавіцкае лініі. 4) Наяўнасьць у Камінтэрне часовых спадарожнікаў (гл. вышэй групы 4 і 5) рабілі няўхільным іх „адсяваньне“, выключэньні, а з другога боку, у пэўныя пэрыяды барацьбы, і іх простые „па ўласнай ініцыятыве“ уцёкі ў другі лягер, на другі бок барыкад.

Як вядома, фактычная гісторыя ўнутранага жыцьця Камінтэрну за мінулае дзесяцігодзьдзе, якраз і характарызавалася паказанымі вышэй рысамі.



## IV

Сацыял-дэмакраты, а іншага разу і палітычныя абываталі ў нашых уласных шэрагах часта нічога ня маюць супроць таго, каб зларадна пахіхікаць над бурным унутраным жыцьцём Камінтэрну: учора правы ўхіл, сёньня левы, учора адсячэньне, сёньня адкол... нейкі хаос... вечнае бушаваньне, каб трохі, дык нясупынная лютая барацьба. А тут яшчэ прыклад Другога Інтэрнацыяналу, дзе так ветла, бяз „бойкі“ адзін з адным размаўляць, дзе жыцьцё цячэ так мірна і добрапрыстойна, адным словам, дзе пануе такая „тишь да гладь—божья благодать“.

Аднак, пралетарскім рэвалюцыянэрам няма падстаў „зайздросьціць“ унутранай „ідыліі“ Другога Інтэрнацыяналу па тэй простай прычыне, што яны, па-першае, добра ведаюць сапраўдную цану гэтай „ідыліі“, а, па-другое—таму, што яны добра заўважаюць тую розьніцу гістарычных умоў, у якіх разьвіваліся і разьвіваюцца II і III Інтэрнацыяналы.

У зьвязку з характарам унутранага жыцьця Камінтэрну ў нашых шэрагах, ёсьць яшчэ адна, апрача адзначаных вышэй, група „ныцікаў“, якія міласьліва „дазваляючы“ Камінтэрну весьці барацьбу з нерашучасьцю і хістаньнямі сваіх членаў, у той самы час выказваюць нездаволеньне „бяспрынцыповасьцю“ гэтае барацьбы. Справа ў тым, што „Выканаўчы Камітэт змагаецца то з правымі, то з левымі, гэта бяспрынцыповасьць; трэба вызначыць сваю лінію раз назаўсёды для ўсіх часоў, а не змагацца сёньня супроць „правае“, а заўтра супроць „левае“ [1]). Гэткім дакорам яшчэ на V кангрэсе далі зьнішчаючы адпор. Вось, што паміж іншага гаварылася ў палітычнай справаздачы В. К. К. І.:




[1]) Гл. V кангрэс К. І., стэногр. справазд., стар. 48.

„Мы ідзем старым шляхам... па якому Ленін вучыў нас ісьці і які аніякім чынам не зьяўляецца „бяспрынцыповым“. Нельга глядзець на рэчы з мяшчанскага пункту гледжаньня: калі ты сёньня супроць правых, а заўтра супроць так званых „ультра левых“, дык сталася, што ты бяспрынцыповы.

Уявеце сабе, што вы кіруеце вайсковым судном і вы павінны прывесьці яго да пэўнае мэты. Перад вамі зона мінных загараджэньняў. У вас няма пляну гэтых загараджэньняў, міны ляжаць то справа, то зьлева. Праз іх вы павінны правесьці вашае судна. І вось капітана, які ставіць сабе гэтую задачу, вы называеце „бяспрынцыповым“, таму што ён паварочвае руль то направа, то налева“ [1]).

Тымчасам менавіта гэтак правіў „бальшавіцкім караблём“ яго капітан, імя якога—Ленін.

У сваёй працы „Дзіцячая хвароба „лявізны“ ў камунізьме“, дзе Ленін імкнуўся перадаць „расійскі вопыт“ Заходня-Эўрапейскім таварышам, У. І. пытаўся: „У барацьбе з якімі ворагамі ўнутры рабочага руху вырас, узмацнеў і загартаваўся бальшавізм!..“ і адказвае: „Папершае, і галоўным чынам, у барацьбе супроць апортунізму, які... быў, натуральна, галоўным ворагам бальшавізму ўнутры рабочага руху. Гэты вораг і застаецца галоўным у міжнародным маштабе. Гэтаму ворагу бальшавізм аддаваў і аддае больш за ўсё ўвагі“ [2]). Але ня толькі ў барацьбе супроць правых ухілаў, не, апроч таго, „Бальшавізм вырас, склаўся і загартаваўся ў шматгадовай барацьбе“ і супроць левых і оць дробна-буржуазнай рэвалюцыйнасьці, якая падобна да анару ці штось ад яго пазычанае, якая адступае ўва ўсім істотным ад умоў і запатрабаваньняў вытрыманае пралетарскае клясавае барацьбы“ [3]). У другім мейсцы цытуемае намі Ленінскае працы проста фармулюецца як задача Камінтэрну, так часта ўжываны намі лёзунг барацьбы *„на два фронты“*: „Гісторыя рабочага руху паказвае цяпер, што ва ўсіх краёх надыходзіць яму (і яно ўжо — пачатак) перажыць барацьбу, што нараджаецца, мацнее, ідзе да перамогі, камунізму перш за ўсё і, галоўным чынам, са сваім (для кожнае краіны) „меншавізмам“... і па другое—у відзе, так сказаць, дадатку з „левым“ камунізмам“ [4]).

Які-ж ухіл больш небясьпечны? Супроць якога нашага „ўнутранага ворага“ павінен быць у асноўным накіраваны агонь бальшавіцкае крытыкі? На гэтыя пытаньні дыялектык Ленін зусім не дае адказу як агульна-выратоўваючага рэцэпту, годнага на ўсе часы, народы і сытуацыі. У момант пісаньня Леніным „Дзіцячае хваробы...“ „памылка левага доктрынёрства ў камунізьме зьяўлялася ў тысячу разоў менш небясьпечнай і менш значнай, як памылка правага доктрынёрства“ [5]). Але зусім ня ў выніку таго, што левы ўхіл параўнаўча з правым наогул заслугоўвае менш пільнае ўвагі, як менш небясьпечны. Не! „Гэта толькі таму так, што левы камунізм—плынь зусім маладая, што толькі-толькі нараджаецца“ [6]).

І, як агульнае рэзумэ, У. І. піша: „Уся справа цяпер у тым, каб камуністы кожнае краіны добра-сьвядома прынялі пад увагу, як асноўныя прынцыповыя задачы барацьбы з апартунізмам і „левым“ доктрынёрствам, так і канкрэтныя асаблівасьці, якія гэтая барацьба прымае

[1]) Гл. V кангрэс К. І., стэнограф. справазд., стар. 48.
[2]) Ленін т. XVII, стар. 124—125.
[3]) Тамсама.
[4]) Тамсама.
[5]) Тамсама, стар. 188.
[6]) Тамсама, стар. 188.

і няўхільна павінна прымаць у кожнай асобнай краіне, адпаведна арыгінальным яе рысам...“ [1]).

Нам здаецца, што ў пададзеных цытатах маюцца асноўныя рысы ленінскае стратэгіі і тактыкі барацьбы з ухіламі. Бальшавізм змагаўся і змагаецца з кожным скажэньнем правільнай лініі, аднакава, адкуль-бы гэтае скажэньне ня ішло: „зьлева“, ці „справа“. У кожны такі момант, у кожнай пэўнай краіне, а часам у „маштабе ня толькі Інтэрнацыянальным, але і сусьветным“, у залежнасьці ад канкрэтных асаблівасьцяў сытуацыі, ад адноснае сілы ўхілаў, бальшавізм павінен здолець сканцэнтраваць свой удар па тым ухіле, які ў складзенай абстаноўцы ёсьць галоўнай небясьпекай для камуністычнага руху. Гэта, канечне, не выключае, абмяркоўвае вядзеньне барацьбы і супроць ухілу другога тыпу. Сёньня гэты апошні, будучы меньш сур‘ёзным заўтра, пры зьмененай абстаноўцы, можа вырасьці ў вялізную сілу. Трэба-ж мець на ўвазе, што калі ультра-левы ўхіл „нярэдка зьяўляўся свайго роду пакараньнем за апартуністычныя грахі рабочага руху“, дык з другога боку і правізна часам ёсьць рэакцыяй супроць ультра-левых захапленьняў. Так „абодвы калецтвы, як казаў Ленін, узаемна папаўнялі адно аднаго“. Усё гэта ня раз мела мейсца ў гісторыі нашых братэрскіх замежных кампартый.

А цяпер каротка спынімся на фактычным ходзе дзесяцігадовай барацьбы Камінтэрну з рознага роду хістаньнямі ў шэрагах яго сэкцый.

*(Канец будзе).*

[1]) Ленін, т. XVII, стар. 178.

*М. МАТЭЛЕВІЧ*

# Другі пленум ЦК КПЗБ

Другі пленум ЦК КПЗБ, які адбыўся ў студзені месяцы, мае вялікае значэньне для партыі і шырокіх рабоча-сялянскіх мас, якія кіруюцца ёю.

Ён адзначыў, што палітычная лінія, вызначаная першым зьездам КПЗБ, правільная і што яна лягла ў аснову працы партыі і яе кіруючых органаў.

Пленум адбываўся ў надзвычайна складаных абставінах. Паглыбляюцца супярэчнасьці часовае, гнілое стабілізацыі капіталізму ва ўсім сьвеце, а ў асаблівасьці ў Польшчы. Абвастраецца клясавая барацьба і расьце рэвалюцыйная хваля. Мы на напярэдні новых імпэрыялістычных войн, а небясьпека ўзброенага нападу на СССР актуальна і рэальна цяпер як ніколі да гэтага часу. Адбываецца далейшая консалідацыя на супроцьлеглых полюсах двух асноўных цяпер у Польшчы грамадзкіх сіл—фашыстоўскага лягеру і рэвалюцыйнага.

### Гаспадарчае становішча Польшчы.

Эканамічны крызіс, які нарастае ў капіталістычным сьвеце, дае сябе вастрэй адчуваць у Польшчы, якая зьяўляецца больш слабым зьвяном у сусьветнай капіталістычнай сыстэме. Не ўважаючы на некаторы рост валавое прадукцыі, далейшае разьвіцьцё польскае прамысловасьці сустракаецца з большымі цяжкасьцямі. Дэфіцыт гандлёвага балянсу за апошні год дасягнуў да 100.000.000 доляраў, што ставіць пад пагрозу ўстойлівасьць польскае валюты і спыняе далейшае паступленьне доўгатэрміновых замежных крэдытаў, без якіх асноўныя галіны польскае прамысловасьці не маюць пэрспэктыў на разьвіцьцё. Польская прамысловасьць не мае мажлівасьці канкураваць на ўвонкавых рынках і адтуль выціскаецца. Больш таго, яна не ў стане вытрымаць канкурэнцыю чужаземных тавараў на ўласным рынку.

Рацыяналізацыя працы адбываецца галоўным чынам праз павялічэньне эксплёатацыі за лік зьніжэньня заработнае платы і падаўжэньня рабочага дню. Фашыстаўскае законадаўства (прымусовы арбітраж, суды працы, закон, які рыхтуецца аб забароне забастоўкі і г. д.)ператварае рабочых у нявольнікаў.

Крэдытная палітыка і непамерныя падаткі канчаткова разбураюць гаспадарку асноўных мас сялян.

Пагаршаецца з дню на дзень становішча шырокіх мас, што і прыводзіць да скарачэньня масавага спажываньня і гэтым самым да звужваньня ўнутранога рынку.

Усё гэта нямінуча цягне за сабою перавытворчасьць, скарачэньне вытворчасьці і рост беспрацоўя, якое дзякуючы голаду зямлі і перанасяленьню ў вёсцы набывае вялізарныя памеры.

## Калёніяльная палітыка фашызму ў Заходняй Беларусі.

Уся гаспадарчая палітыка фашыстоўскага ўраду на Заходняй Беларусі носіць калёніяльны характар. Драпежніцкі разграбляюцца ўсе натуральныя багацьці і нячувана эксплёатуюцца працоўныя масы. Зах. Беларусь у гэты час зьяўляецца ў значнай ступені пастаўшчыком сыравіны і рынкам збыту для апрацоўваючае прамысловасьці цэнтральнае Польшчы. На Зах. Беларусі разгортваюцца толькі тыя галіны прамысловасьці, якія працуюць на вайну. Пабудавана фабрыка самалётаў у Тырасполі і кансервны завод ў Ваўкавыску. Асноўная-ж галіна прамысловасьці Зах. Беларусі—дрэваапрацовачная, перажывае зацяжны крызіс, пры адначасовым драпежніцкім зьнішчэньні лясных багацьцяў.

Рацыяналізацыя працы, якая праводзіцца за кошт пагашэньня становішча працоўных, набывае на Заходняй Беларусі дзякуючы тэхнічнае адсталасьці, характар нябачанае эксплёатацыі. Рабочыя зарабляюць у сучасны час менш, чым у 1925 годзе—у часе вялізарнага эканамічнага крызісу. Заработная плата зьнізілася на 30 проц. у сярэднім. Рабочы дзень прадоўжаны да 12, а мясцамі да 16 гадзін. Разам з павялічэньнем норм выпрацоўкі, адмяняецца фактычна ахова працы, а праца кваліфікаваных рабочых замяняецца працаю жанчын і дзяцей. У некаторых галінах прамысловасьці моладзь, па колькасьці занятых рабочых, грае рашаючую ролю пры чым у кравецкай і гарбарнай вытворчасьці колькасьць маладых рабочых даходзіць 75 проц., а на тартаках і шкляных заводах—40 проц. Заработная плата юнацтва дасягае ў лепшых выпадках толькі 45 проц. заробку дарослага рабочага.

Эксплёатацыя асноўных мас сялянства з боку паноў, абшарнікаў і кулакоў усё ўзмацняецца. Парцэляцыя, комасацыя праводзіцца ў карысьць абшарніка і кулака, пры адначасовым абвастрэньні зямельнага голаду сярод бядняцкае і серадняцкае часткі вёскі. Пазямельны падатак, павялічаны на 100 проц., кладзецца цяжкасьцю галоўным чынам на бяднейшае сялянства. Пануючы голад у Віленскім і Навагрудзкім акругох давёў сто тысячныя масы да поўнага жабрацтва, а шмат тысяч бядняцкіх сямей аддадзены галоднай сьмерці. У шмат якіх раёнах на грунце голаду гуляе тыф.

Працэс Грамады ў Віленскім апэляцыйным судзе ёсьць паўтарэньнем расправы фашыстоўскага лягеру з нацыянальна-вызваленчым рухам. Няшчадна разьбіваюцца рабочыя і сялянскія арганізацыі. Зачыняюцца адна за аднэю нізавыя арганізацыі ТБШ, якія вядуць барацьбу з сацыяльным і нацыянальным уціскам. Зачынена беларуская гімназія ў Радашковічах. Арыштоўваюцца дзесяткі вучняў Віленскае беларускае гімназіі толькі за тое, што яны супроцьстаўляюцца прывіваньню да іх фашыстоўскае ідэолёгіі. Палітыка палёнізацыі, якая адбываецца пры дапамозе касьцёлу, царквы, школы і адміністрацыйнага апарату знаходзіць сваё шырокае ўжываньне. Беларускія школы ліквідуюцца. З 400 школ засталося на Заходняй Беларусі ўсяго толькі з паўтара дзесяткі і тыя двухмоўныя, якія служаць фактычна для прыкрыцьця ўзмоцненае палёнізацыі. Турмы Заходняй Беларусі не пакідаюць запаўняцца сотнямі рабочых і сялян, якія засуджаюцца на 10—12 год катаргі. Масавыя палітычныя працэсы ня сходзяць з парадку дню фашыстоўскіх судоў. Павялічваюцца растрэлы рабочых і сялян (Ландварава, Косава і г. д.).

## Пралетарыят пераходзіць ад абароны ў контр-наступ.

Супярэчнасьці, якія паглыбляюцца праводзімаю за кошт працоўных стабілізацыяй капіталізму, разам з ростам сацыялістычнае гаспадаркі і добрабыту працоўных у СССР—выклікае абвастрэньне клясавае

барацьбы, рост рэвалюцыйнага руху і ўплыву Камуністычнае партыі. Уся Заходняя Беларусь была за апошні пэрыяд шырока ахоплена забастовачным рухам. Стачачная хваля ахапіла амаль усе галіны прамысловасьці Заходняй Беларусі. За мінулы пэрыяд адбыліся ўпартыя стачкі сярод тэкстыльшчыкаў у Беластоку, сярнічнікаў у Пінску, сэзонных рабочых на чыгунцы ў Вільні і Беластоку, тартачнікаў у Беластоцкім і Віленскім акругох, пекароў у Беластоку і краўцоў ва ўсіх гарадох Заходняе Беларусі.

Характэрнай асаблівасьцю гэтых забастовак зьяўляецца іх наступальны, працяжны, масавы і палітычны характар. Асобныя стачкі працягваліся 8—12 тыдняў пры адсутнічаньні штрэйкбрэхараў. Мы мелі шэраг працяжных забастовак у выніку звальненьня дэлегатаў і няпрызнаньня прадпрыёмцамі прафсаюзаў. Некаторыя забастоўкі суправодзіліся сутычкамі з паліцыяй. У Ландвараве ў часе актыўнага выступленьня бастуючых некалькі з іх было паранена. Забастовачная хваля ахапіла і неарганізаваных рабочых, выступленьне якіх насіла стыхійны, але ўпарты характар. Амаль усе стачкі праходзілі пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі.

Характэрным для рэвалюцыйнага руху на Заходняй Беларусі зьяўляецца рабоча-сялянская салідарнасьць і іх узаемная падтрымка, якая выказваецца ў працэсе барацьбы. У шмат якіх мясцох сяляне адгукаліся на забастоўкі рабочых, выносілі рэзалюцыі салідарнасьці і арганізоўвалі матар'яльную дапамогу для бастуючых рабочых (Пінск, Беласток). На рабочых сходах і мітынгах у Вільні, Горадні, Беластоку, Слоніме і інш. гарадох прымаліся рэзалюцыі пратэсту супроць разгрому нацыянальна-вызваленчага руху.

Забастовачны рух ахапіў усю Польшчу. Апошняя лодзінская забастоўка сьведчыць аб гатоўнасьці пралетарыяту да рашучых рэвалюцыйных выступленьняў. Рэзалюцыя пленуму гаворыць, што: „бойкі рабочае клясы ўсё яскравей і часьцей прымаюць характар стрэчных боек, прычым рабочая кляса ў шэрагу мейсц пераходзіць ад абароны ў контр-наступ".

### Небясьпека вайны супроць СССР надзвычайна вялікая.

Пленум паказаў партыі і масам, якія кіруюцца ёю, на небясьпеку блізкае контр-рэвалюцыйнае вайны супроць СССР. Нарастаючы эканамічны крызіс, — адсутнасьць вонкавых рынкаў, штурхае фашыстоўскі ўрад Пілсудзкага да ваеннае экспансіі на Усход,—на Савецкі Саюз. Польскі фашыстоўскі ўрад не здавальняецца акупацыяй Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны. Ён упарта імкнецца да акупацыі БССР і УССР у мэтах захопу новых рынкаў збыту і пашырэньня свае палітыкі эксплёатацыі і ўціску.

Не ўважаючы на рост супярэчнасьцяй паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі—пашыраецца і кансалідуецца кіруемы англа-францускім саюзам антысавецкі блёк. Аб гэтым сьведчыць узмацненьне румынска-польскага ваеннага саюзу, імкненьне ўцягнуць у гэты саюз Вэнгрыю і адкрытае падтрыманьне Польшчы Латвіяй і Эстоніяй у яе анты-савецкай палітыцы. Галоўным арганізатарам ваеннае інтэрвэнцыі супроць Сацыялістычнае Рэспублікі на Захадзе зьяўляецца цяпер Францыя.

Польшча, якая зьяўляецца форпостам імпэрыялістычнага блёку, рыхтуецца да нападу на СССР паскораным тэмпам. Проста нябачна растуць фабрыкі і заводы, якія вырабляюць ваенную амуніцыю. Абсалютна ўсё на Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне мілітарызуецца.

Будуюцца шматлікія масты і дарогі, якія маюць стратэгічнае значэньне. Шырока разгортваюцца ваенныя арганізацыі, у якія ўсімі мерамі ўцягваецца сялянская моладзь.

Пленум паказаў партыі на неабходнасьць мабілізацыі і арганізацыі шырокіх мас для рашучае і энэргічнае барацьбы з ваеннаю небясьпекаю, якая пагражае Савецкаму Саюзу. Кожная акцыя, кожнае выступленьне рабочых і сялян павінны быць цесна зьвязаны з барацьбою супроць падрыхтоўкі вайны з СССР. Партыя павінна ўзмацніць мабілізацыю працоўных Заходняе Беларусі на барацьбу супроць контррэвалюцыйнае вайны, якая набліжаецца супроць СССР, паказваючы масам на цясьнейшую сувязь, якая існуе паміж падрыхтоўкамі да гэтае вайны і ўзмацненьнем сацыяльнага і нацыянальнага ўціску працоўных на Заходняй Беларусі. Рабочыя і сяляне Заходняе Беларусі павінны быць гатовы да барацьбы ў абарону СССР, за перратварэньне імпэрыялістычнае вайны ў грамадзянскую, за вызваленьне прыгнечанае Заходняе Беларусі і злучэньня яе з БССР.

### Партыя і рабочы рух.

Пленум, аналізуючы працэс разьвіцьця рабочага руху, адзначыў шэраг недахопаў і памылак, якія зроблены партыяй у гэтай галіне. Партыі ўсё яшчэ не ўдалося арганізацыйна ахапіць усіх радыкальна настроеных рабочых, якія змагаюцца пад нашымі лёзунгамі, але не заўсёды пад нашым рэвалюцыйным кіраўніцтвам. Партыя амаль адсутнічае на буйных прадпрыёмствах і сярод рабочых тых галін прамысловасьці, якія маюць ваеннае назначэньне. Буйным недахопам у рабоце партыі зьяўляецца, што да гэтага часу ёй не ўдалося мабілізаваць і арганізаваць тартачнікаў і сельска-гаспадарчых рабочых і недастаткова кіраваць іх барацьбою. Нашыя партыйныя арганізацыі не заўсёды ў дастатковай ступені супроцьстаўляліся ў працэсе эканамічнае барацьбы рабочае клясы сацыял-фашыстоўскім верхавінкам так званых клясавых прафсаюзаў і праяўлялі недастатковую ініцыятыву і актыўнасьць у справе самастойнага кіраўніцтва экономічнай барацьбой пралетарыяту.

Раскол у ППС нарадзіў сярод мас ілюзіі, што ППС—Жулаўшчына супроцьстаўляецца фашызму і з ім змагаецца. У сапраўднасьці Яваўшчына і Жулаўшчына ёсьць непасрэднаю часткаю фашызму, але зьдзейсьняюць фашыстоўскую справу рознымі спосабамі. Фашызм, імкнучыся ўзмацніцца сярод рабочае клясы, імкнецца пры дапамозе Явораўшчыны ўцягнуць у свае фашыстоўскія баёўкі рабочыя масы, а пры дапамозе Жулаўшчыны, якая разам з фашыстоўскімі дзеямі, ужывае рэвалюцыйную фразу, паслабіць працэс радыкалізацыі шырокіх мас і ўплыву сярод іх камуністычнай партыі. У рэзалюцыі пленуму сказана, што: „раскол у ППС і зьвязаныя з ім спробы Яварoўшчыкаў стварыць свае асобныя, яскрава-супрацоўніцкія з фашыстоўскім урадам саюзы не азначае, што паміж прафсаюзамі Явароўскага і прафсаюзамі, якія кіруюцца Жулаўшчыкамі існуе прынцыповая розьніца. Паміж іх, гэта значыць, прафсаюзамі Явароўскага і Жулаўшчыкаў існуюць толькі разнагалосьсі аб мэтадах служэньня буржуазіі і барацьбы з рэвалюцыйным рабочым рухам, толькі разнагалосьсі аб тактыцы закабаленьня мас фашызмам“.

Розьніца двух частак ППС на Заходняй Беларусі мае яшчэ меншыя адзнакі бо Жулаўшчына, якая, выступаючы ў Польшчы пад маскай „апазіцыйнасьці“, ва ўмовах Заходняй Беларусі выконвае адначасова і ўсе тыя спэцыяльныя задачы, якія ўскладаюцца буржуазіяй на Явароўшчыну. Партыя заклікае рабочыя масы да няшчаднае барацьбы з абедзьвума

часткамі ППС як у прафсаюзах, так і па-за імі. Прафсаюзы Явароўскага, якія зьяўляюцца агэнтурамі фашыстоўскага тэрору на рабочай вуліцы, павінны быць разьбіты і зьнішчаны. З няменшаю энэргіяй трэба змагацца з сацыял-фашыстамі ўсіх колераў, якія стаяць на чале так называемых клясавых прафсаюзаў, уваходзячых у цэнтральную камісію і якія пад іх кіраўніцтвам ператвараюцца ў органы супрацоўніцтва з фашыстоўскім урадам. Шырокія рабочыя масы павінны быць у гэтых так званых клясавых прафсаюзах арганізаваны вакол рэвалюцыйнага крыла і пад яго кіраўніцтвам змагацца супроць фашызацыі профруху, за стварэньне сапраўды клясавага, рэвалюцыйнага прафруху. Лёзунг аб уваходжаньні ў прафсаюзы Цэнтральнай Камісіі ня можа разглядацца як гэнэральны лёзунг. Ён можа быць ужытым „толькі па адносіне да асобных канкрэтных прафсаюзаў Цэнтральнай Камісіі ў залежнасьці ад іхнае масавасьці, іхнага ўплыву ў масах, а таксама ў залежнасьці ад нашае палітычнае сілы і арганізацыйнага афармленьня нашага ўплыву сярод рабочых мас пэўнага саюзу і пэўнае вытворчасьці".

Арганізацыя і барацьба рабочае клясы павінна кіравацца выключна толькі камуністычнаю партыяю. Партыя павінна праводзіць самастойнае кіраўніцтва прафрухам і барацьбой пралетарыяту, абапіраючыся на шырокія масы рабочае клясы і фабрычна-завадзкія камітэты.

Дзесяткі тысяч сельска-гаспадарчых рабочых і тартачнікаў, якія, дзякуючы сваёй неарганізаванасьці, паддаюцца непамернае эксплёатацыі, павінны быць аб'яднаны пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі ў рэвалюцыйныя прафсаюзы. Гэтая вялікая армія працы павінна быць моцна зьяднаным атрадам і заняць сваё пачэснае мейсца ў рэвалюцыйным лягеры і ўзмацніць рабоча-сялянскі саюз.

Пленум высунуў перад партыяй у галіне рабочага руху шэраг важных задач. Кожная акцыя рабочае клясы павінна быць цесна зьвязана з барацьбою супроць узброенага нападу на СССР. Кожны рабочы павінен усьвядоміць, што справа абароны пралетарскае айчыны зьяўляецца яго кроўнаю справаю.

### Нацыянальна-вызваленчы рух набірае клясавы характар.

Пленум надаў шмат увагі нацыянальна-вызваленчаму руху. Нацыянальная палітыка фашыстоўскага ўраду вызначаецца ў сучасны час падрыхтоўкаю да вайны супроць СССР.

У мэтах узмацненьня свайго становішча на акупаваных землях, якія зьяўляюцца плацдармам у наступнай вайне, фашыстоўскі ўрад Пілсудзкага імкнецца разьбіць нацыянальна-вызваленчы рух і зьнішчыць яго правадыра—Камуністычную партыю.

Робіць гэта ён пры дапамозе белага тэрору, які ўсё ўзмацняецца і шляхам дробных уступак, подкупу і маны.

Белы тэрор у Польшчы, а ў асаблівасьці на Заходняй Беларусі набыў характар масавага фізычнага зьнішчэньня рэвалюцыйных рабочых і сялян і іх авангарду—камуністычнае партыі.

Разам з крывавым тэрорам польскі фашыстоўскі ўрад імкнецца раскласьці нацыянальна-вызваленчы рух унутры. У мэтах узмацненьня сваіх пазыцый на Заходняй Беларусі фашыстоўскія акупанты ўсімі мерамі садзейнічаюць зростаньню беларускіх заможных клясаў у тым ліку і тую інтэлігэнцыю, якая выяўляе інтарэсы кулацтва з фашыстоўскім лягерам. Усе эканамічныя мерапрыёмствы, якія праводзяцца ў сучасны момант фашыстоўскім урадам на Заходняй Беларусі, вядуць да ўсё большага эканамічнага зьяднаньня абшарнікаў асаднікаў і беларускіх кулакоў

і да ўзмацненьня гаспадарчае магутнатьці апошніх за кошт разбурэньня асноўных мас сялянства і эксплёатацыі сельскага пралетарыяту.

Фашыстоўскі ўрад, абапіраючыся на абшарніка-асадніка і на беларускага кулака, пашырае, такім чынам, сваю сацыяльную базу і робіць спробы пры дапамозе ў гэтым манэўраў культурнага, палітычнага і эканамічнага характару прайсьці ў шырокія сялянскія масы.

Гэтая палітыка маны і частковая стабілізацыя нарадзілі хістаньні сярод часткі інтэлігэнцыі і серадняцтва і адыход ад нацыянальна-вызваленчага руху чуждых яму элемэнтаў, якія адбіваюць інтарэсы і настроі беларускіх кулакоў.

Сацыяльныя супярэчнасьці, якія паглыбляюцца ў беларускай вёсцы, робяць нацыянальна-вызваленчы рух усё ў большай меры клясавым цясьней зьвязваюць яго з рэвалюцыйным рухам працоўных пад кіраўніцтвам пралетарыяту. Апошні зьезд ТБШ, які адбыўся пры напалову-легальных умовах, поўнасьцю даказаў, што ўсе тыя з беларускае інтэлігэнцыі, якія выступаюць супроць рэвалюцыйнае барацьбы рабоча-сялянскіх мас і іх кіраўніка Камуністычнае партыі,—знаходзяцца ў лягеры фашыстоўскіх акупантаў. Нацыянальна-вызваленчы рух разьвіўся і разьвіваецца толькі і выключна пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі, якая вядзе працоўныя масы Заходняе Беларусі да сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня. Гэты зьезд, які скончыўся поўнаю перамогаю рэвалюцыйнага лягеру над фашыстоўскім, сьведчыць, што спробы фашыстоўскага ўраду падпарадкаваць радыкальныя арганізацыі пры дапамозе рэнэгатаў нацыянальна-вызваленчага руху Луцкевічаў і Астроўскіх сваёй палітыцы тэрору і імпэрыялістычнай вайны супроць СССР, нясуць паражэньні. Фашыстоўскаму ўраду не ўдалося і ня ўдасца сфашызаваць арганізацыі, якія абапіраюцца на шырокія масы, не ўважаючы на надта шчырыя паслугі беларускіх агэнтаў. Не дапамогуць і чуткі, якія ўзмоцнена распаўсюджваюцца, што вінавайцам разгрому Грамады зьяўляецца адзін толькі Мэйштовіч. Працоўныя Заходняе Беларусі, упэўніўшыся на жыцьцёвым вопыце, ужо ўсьвядомілі, што нацыянальна-вызваленчы рух, які кіруецца Камуністычнай партыяй, разбураецца фашыстоўскім лягерам, складанаю часткаю якога ёсьць заможная частка беларускага народу, у тым ліку і частка беларускае інтэлігэнцыі, якая ідзе разам з фашызмам.

У мэтах ідэолёгічнае падрыхтоўкі мас да вайны супроць СССР і захопу БССР і УССР, а таксама паскарэньня тэмпу палёнізацыі беларускіх і украінскіх працоўных мас—фашыстоўскі ўрад вядзе ўзмоцненую прапаганду ідэй стварэньня вялікадзяржаўнае Польшчы ў фэдэрацыі з „вызваленымі“ ад чырвонага імпэрыялізму Беларусьсю і Украінаю. Фашыстоўскі ўрад імкнецца знайсьці пункты апірышча і ў БССР сярод кулацтва, нэпманаўскае буржуазіі і зьвязанае з імі нязначнае часткі інтэлігэнцыі. Рэзалюцыя пленуму гаворыць, што: „абвастрэньне актыўнае барацьбы гэтых элемэнтаў супроць Савецкае ўлады і палітыкі Кампартыі, што праявіліся таксама ў некаторым узмацненьні нацыянальна-дэмакратычных тэндэнцый сярод часткі беларускае інтэлігэнцыі ў БССР, польскі фашызм выкарыстоўвае ў сваіх мэтах, узмацняючы кампанію супроць БССР, імкнучыся дэзорыентаваць працоўныя масы Заходняй Беларусі і падарваць іх давер'е да палітыкі Савецкае ўлады і КП(б)Б. Задача гэтая для польскага фашызму палягчаецца і тым, што вышэйпаданыя нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі знайшлі свой адбітак нават у выступленьнях асобных членаў партыі і ЛКСМБ, якія прабуюць падаць рэвізію на правільную нацыянальную палітыку, якая праводзіцца КП(б)Б і яе ЦК“.

Пленум паставіў перад партыяй у галіне нацыянальна-вызваленчага руху наступныя задачы: і ў далейшым рашуча і энэргічна змагацца з хістаньнямі ў нацыянальна-вызваленчым руху, з манэўрамі фашыстоўскага ўраду і з рэнэгатамі і прадажнікамі гэтага руху Луцкевічамі і Астроўскімі, якія кіруюць у сучасны час беларускаю часткаю фашыстоўскага лягеру. Група гэтай інтэлігенцыі—перебежчыкаў у лягер фашызма—часова плялася за нацыянальна-вызваленчым рухам і ўвесь час імкнулася прышчапіць гэтаму руху традыцыі дробна-буржуазнага нацыяналізму. Прадстаўляючы інтарэсы кулацкіх і заможных слаёў беларускага сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі, Луцкевіч і К-° рабілі спробы затармазіць нацыянальна-вызваленчы рух і падпарадкаваць яго сваім мэтам, а менавіта: зьвясьці вызваленчую барацьбу працоўных мас на шлях угоды і кампрамісаў з урадам, на шлях мірнай творчай культурніцкай працы ў рамках польскай буржуазнай дзяржавы. Усялякія нацыянал-фашыстоўскія тэорыі Луцкевіча, якія фактычна накіраваны супроць нацыянальна-вызваленчага руху, БССР і Камуністычнай партыі, павінны быць канчаткова выкрыты. Трэба ўлічыць, што хістаньням паддаецца галоўным чынам інтэлігэнцыя, якая зьяўляецца па сваёй сацыяльнай сутнасьці няўстойлівай і хістлівай групоўкай. Партыя і шырокія масы рабочых і сялян павінны цяпер у большай меры чым калі-небудзь быць напагатове і на варце па адносіне да гэтых няўстоўлівых інтэлігэнтных элемэнтаў. У сучасных умовах абвастрэньне клясавае барацьбы, дэфэрэнцыяцыі ў Заходня-беларускай вёсцы—кіруючая роля пралетарыяту гораду і вёскі і яго авангарду—камуністычнае партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху ўзмацняюцца. Неабходна гэта кіраўніцтва яшчэ больш узмацніць.

Каб перамагчы і папярэдзіць усе гэтыя хістаньні ў нацыянальна-вызваленчым руху, трэба на ўсю сілу ўзмацняць саюз рабочых і сялян, цясьней увязваць барацьбу працоўных мас у Захоўняй Беларусі з барацьбою гэтых-жа мас усяе Польшчы, а таксама ўзмацніць работу сярод сельска-гаспадарчых, сэзонных і лясных рабочых, якія ёсьць сувязным зьвяном паміж горадам і вёскаю і апірышчам партыі сярод шырокіх сялянскіх мас.

Партыя павінна ўвайсьці ў гушчу штодзённых патрэб працоўных сялян, арганізуючы іх на актыўныя выступленьні вакол гэтых патрэб. Партыя павінна ўвязаць гэтыя выступленьні вакол частковых штодзённых запатрабаваньняў з канечнымі мэтамі руху і агульна-рэвалюцыйнай барацьбой пралетарыяту і працоўнага эксплёатуемага сялянства супроць падрыхтоўкі нападу на СССР за зваленьне фашысцкае дыктатуры.

Трэба няшчадна выкрываць нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі, якія маюць мейсца сярод паасобных членаў КП(б)Б, якія ідуць аб'ектыўна па лініі падтрыманьня імпэрыялістычных плянаў Пілсудзкага, адначасна разьясьняць масам тую кіраўнічую роль, якую адыгравае УсеКП(б) у пабудове соцыялізму, аб яе няшчаднай барацьбе з правай небясьпекай, яе жалезным Ленінскім адзінстве.

## Барацьба з праваю небясьпекаю.

Пленум працаваў пад знакам бальшавіцкае самакрытыкі, выпраўленьня сваіх памылак і рашучае барацьбы з праваю небясьпекаю і прымірэнчымі адносінамі да яе. Пленум прыняў асобную рэзалюцыю, якая засуждае антыкамуністычную ідэолёгію правае групы Брандлера і прымірэнцаў КПГ і поўнасьцю далучыўся да рашэньняў Камінтэрна і ЦК КПП па гэтаму пытаньню. Пленум канстатаваў, што ўсе памылкі, якія былі зроблены за мінулым пэрыяд, былі пераважна правыя.

Ва ўмовах Заходняе Беларусі, пры наліччы хістаньняў сярод верхавіны серадняцтва і працоўнае інтэлігэнцыі, якая націскае на нашу партыю, пры спробах фашызму пралезьці праз кулацкія элемэнты ў шырокія сялянскія масы, адхіленьні ад правільнае бальшавіцкае лініі магчымы ў большай меры чым калі-небудзь. Партыя, абапіраючыся на шырокія рабоча-сялянскія масы, павінна накіраваць увесь агонь супроць правой небясьпекі ў прыватнасьці супроць нацыянал-апартунізму і з неаслабнаю энэргіяю змагацца з легалісцкімі настроямі па лініі прафруху.

* * *

Пленум канстатаваў, што фракцыйная барацьба, якая ў працягу двух гадоў разьдзірала партыю, бязумоўна паслаблена. Партыя энэргічна змагалася і змагаецца з фракцыйнасьцю, якая выяўлялася за мінулы пэрыяд з боку асобных адказных таварышоў. Партыя пад кіраўніцтвам ЦК зрабіла за пасьлязьездаўскі пэрыяд вялікія дасягненьні па лініі аднаўленьня адзінства партыі і ўзмацненьня партыйнае дысцыпліны. Гэтыя дасягненьні зьяўляюцца вынікам вялікае праробленае працы па гэтаму пытаньню Польскай камісіі VI кангрэсу Камінтэрну і высунутых ёю палітычных і арганізацыйных палажэньняў.

*СТРАКОЎСКІ*

# Шляхі індустрыялізацыі БССР

Кантрольныя лічбы пяцігадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці, якія абгаварваліся на XII-м з'езьде КП(б)Б разам з кантрольнымі лічбамі разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі БССР, адпавядаюць агульным задачам, пастаўленым перад намі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва.

Аднэй з важнейшых установак, якія прыняты ў аснову складаньня кантрольных лічбаў пяцігадовага пляну, зьяўляецца *індустрыялізацыя народнае гаспадаркі краіны*—павялічэньне ўдзельнае вагі прамысловасьці ў народнае гаспадарцы БССР, а разам з тым—пашырэньне пралятарскай базы і ўзмацненьне кіруючае ролі пралетарыяту ў сацыялістычным будаўніцтве. Разьвіцьцё прамысловасьці, яе далейшы рост, павінныісьці па шляху ўсё большага скарыстоўваньня мясцовых сыравінных і энэргэтычных рэсурсаў—мясцовага сельска-гаспадарчага, ляснога і мінэральнага сырцу. Але разам з тым, бяручы пад увагу абмежаванасьць мясцовых прыродных багацьцяў, разьвіцьцё прамысловасьці павінна ісьці таксама і па шляху насаджэньня на Беларусі і тых прадпрыемстваў, якія грунтуюцца на прывазным, вытрымліваючым перавозку, сырцу: воўна, бавоўна, хэмікалі і інш.

Вялізарнае значэньне набывае ва ўсім гаспадарчым будаўніцтве БССР, і асабліва ў прамысловасьці, пытаньне тэмпу будаўніцтва, які павінен адпавядаць задачам хутчэйшага ўздыму краіны, асабліва бяручы пад увагу эканамічную і культурную адсталасьць, выкліканую вякамі прыгнечанасьці. У адпаведнасьці з гэтым тэмп разьвіцьця некаторых галін народнае гаспадаркі БССР, асабліва прамысловасьці, павінен перавышаць сярэдні тэмп разьвіцьця адпаведных галін СССР.

* * *

Дасягнуць патрэбнага тэмпу разьвіцьця прамысловасьці росту яе прадукцыі, колькасьці рабочых, значнага зьніжэньня сабекошту прадукцыі і г. д., магчыма толькі на базе разгорнутага новага капітальнага будаўніцтва. І сапраўды, адно з галоўнейшых мейсц у кантрольных лічбах прамысловае гаспадаркі займае капітальнае будаўніцтва.

Па кантрольных лічбах пяцігодкі мяркуецца ўкласьці ў прамысловае будаўніцтва па ВСНГ 222.739 тыс. руб., а разам з мясцоваю прамысловасьцю ня менш як 260 млн. руб. На новае будаўніцтва па прамысловасьці рэспубліканскай прадугледжваецца 170.085 тыс. руб., а 52.654 тыс.—на рэканструкцыю і капітальныя рамонты. Па кантрольных лічбах у варыянце ВСНГ БССР у лік агульнае сумы капітальных работ уключана таксама каля 20 млн. рубл. на жыльлёвае будаўніцтва.

Разьмеркаваньне капітальных работ па гадох малюецца ў наступным выглядзе:

| Б А З Ы: | 27-28 г. | 28-29 г. | 29-30 г. | 30-31 г. | 31-32 г. | 32-33 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| У тыс. рубл. . . . | 16570 | 29034 | 42668 | 43736 | 48353 | 58948 |

Выкананьне ўсяе пяцігодкі ў пераважнай частцы залежыць ад выкананьня капітальных работ, якія запраэктаваны ў бягучым 1928-29 г. Ад гэтага залежыць і адпаведны рост прадукцыі ў наступныя гады і рост колькасьці рабочых, і капітальнае будаўніцтва, якое грунтуецца на прыбытках прамысловасьці і г. д. У 1928-29 г. пачынаюць будавацца каля 25 новых прадпрыемстваў. З найбольш буйных трэба адзначыць наступныя: фабрыка штучнага валакна ў Магілеве, ільняны камбінат у Воршы, мастаўевы завод, беладзяраэўны завод, дрэваапрацоўчы камбінат у Гомлі, шэраг прадпрыемстваў па харчовай прамысловасьці, па цаглянай прамысловасьці і інш. Апроч таго мяркуецца, што на спэцыяльныя сродкі можна будзе пачаць будаваць гуту ў Гомлі, трыкатажную фабрыку ў Віцебску, абутковую фабрыку і цаментавы завод. Такім чынам, адпраўным годам для выкананьня пяцігодкі ёсьць бягучы год, і на ажыцьцяўленьне запраэктаваных меркаваньняў трэба ўзяць асаблівую ўвагу.

Капітальныя ўкладаньні ў паасобныя галіны прамысловасьці па кантрольных лічбах пяцігадовага пляну, грунтуюцца на прынятай устаноўцы: максымальна разгортваць тыя галіны прамысловасьці, якія базіруюцца на мясцовым сырцу, і адначасова насаджаць прадпрыемствы, якія могуць снабжацца прывазным, вытрымліваючым перавозку, сырцом. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на разгортваньне тых прадпрыемстваў, якія будуць абслугоўваць сельскую гаспадарку, садзейнічаць яе большаму ўздыму і калектывізацыі.

Улічваючы сучаснае эканамічнае становішча БССР, аграрнае перанаселеньне і беспрацоў'е, у выбары новых прадпрыемстваў перавага павінна належыць больш працаёмкім прадпрыемствам.

Вельмі абмежаваная сыравінная база і энэргэтычныя рэсурсы для разьвіцьця цяжкое індустрыі, неабходнасьць усямерна скарыстоўваць для прамысловасьці мясцовую сельска-гаспадарчую сыравіну, пабудова прадпрыемстваў на прывознай транспартабельнай сыравіне і паўфабрыкатах (воўна, бавоўна, тэкстыльная тавары), скарыстаньне мясцовае рабочае сілы, геаграфічнае становішча БССР і шэраг гістарычных умоў, складаюць падставы для разьвіцьця пераважна лёгкае індустрыі.

Такім чынам, пры агульным у СССР пераважным разьвіцьці цяжкое індустрыі, якая вытварае сродкі вытворчасьці, БССР будзе спэцыялізавацца як райён, які вытварае сродкі спажываньня.

З асобных галін прамысловасьці асаблівую ўвагу трэба ўзяць на разьвіцьцё дрэваапрацоўчай, запалкавай, папяровай, харчовай, скуранай, льняной і швэйнай. У мэталёапрацоўчай прамысловасьці трэба разьвіваць сярэдняе машынабудаўніцтва, замацоўваць і пашыраць дасягненьні ў справе сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва. Разьвіцьцё хэмічнае прамысловасьці павінна быць прадугледжана ў напрамку вытворчасьці мінэральных і штучных угнаеньняў, штучнае сырызны і лесахэмічнае прамысловасьці. Нарэшце, адпаведная ўвага павінна быць аддадзена на пашырэньне і разьвіцьцё вытворчасьці будаўнічых матар'ялаў.

У адпаведнасьці з вызначаным капітальнае будаўніцтва па асобных галінах прамысловасьці ВСНГ БССР мяркуецца ў наступным відзе:

| Галіны прамысловасьці | У тыс. р. | Галіны прамысловасьці | У тыс. р. |
|---|---|---|---|
| Тарпяная | 12770 | Гарбарна-абутковая | 10438 |
| Керамічная | 16950 | Шчацінна-шчотачная | 1240 |
| Шклянная | 9735 | Ільняная | 20837 |
| Фарфорава-фаянсав. | 4000 | Пяньковая | 1500 |
| Мэталяапрацоўв. | 21554 | Баваўняная | 15615 |
| Дрэваапрацоўч. | 20502 | Панчошна-трыкатажная | 6891 |
| Запалкавая | 5188 | Кравецкая | 7365 |
| Штучнае валакно | 11590 | Галянтэрэйная | 1901 |
| Лесахэмічная | 2200 | Акулярная | 1127 |
| Іншая хэмічная [1] | 22304 | Кіно-прамысловасьці | 1000 |
| Папяровая [2] | 19636 | Навук. дасьл. працы | 3013 |
| Харч.-смакавая | 12973 | Мэханізацыя лесарасп. | 2410 |

Апроч гэтага прадугледжаны сродкі на сканчэньне пабудовы Асінаўскай раёённай электрастанцыі і пачатак работы па будаваньню другое раённае электрастанцыі, згодна пастановы СНК СССР па дакладзе ўраду БССР.

З гэтых сум, якія вызначаны на капітальнае будаўніцтва па асобных галінах прамысловасьці, пераважная частка (звыш 75 проц.) ідзе на новае капітальнае будаўніцтва.

Усяго мяркуецца пабудаваць за пяцігодзьдзе больш за 130 новых прадпрыемстваў, фабрык і заводаў у БССР. За пяцігодзьдзе значна пашыраюцца існуючыя прадпрыемствы, растуць новыя па існуючых ужо галінах і, нарэшце, нараджаюцца новыя галіны прамысловасьці і прадпрыемствы, да гэтага часу не існаваўшыя ў БССР, як штучнае валакно, галаліт, экстракта-дубільнае, экстракта-каніфольныя, пераапрацоўка торпу, цаментавая і інш.

Па асобных галінах трэба адзначыць наступнае новае будаўніцтва.

*Па тарпяной прамысловасьці,* якая ў пяцігодцы ідзе як самастойная адзінка (трэст Белторп), прадугледжана падрыхтоўка і эксплёатацыя шэрагу новых балот. Апроч торпаздабываньня мяркуецца пабудова новых заводаў па пераапрацоўцы торпу: брыкетнага, коксавальнага, здабываньня сьпірытусу з торпу [3]), торпліт і інш. Такім чынам, тарпяная прамысловасьць будзе разьвівацца, як камбінаваная: разам з торпаздабываньнем будзе мець месца і пераапрацоўка торпу.

***Па мэталаапрацоўчай прамысловасьці*** ў пяцігодцы, апрача сканчэньня будаўніцтва заводу сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва ў Гомлі, які пачаты ў мінулым годзе, будуць пабудаваны наступныя прадпрыемствы: завод сярэдняга машынабудаўніцтва, які будзе мець

[1]) У тым ліку: фасфарытная, супэрфасфатная, косьцеапрацоўчая, выраб хэмічнай крэйды, серкавуглятленная, лакапалітурная, галалітавая, ацэтонная, мылаварная і экстракта-дубільная.

[2]) Разам з паліграфічнай.

[3]) „Я решительно против всякой траты картофеля на спирт. Спирт можно (это уже доказано) и должно делать из торфа. Надо это производство спирта из торфа развить". Ленин, 11 верасня 1921 г. З рэзалюцыі тав. Леніна, паданай ВСНГ кіраўніцтву справамі Савнаркому.

між іншымі цэхі лугавога інвэнтару і абсталяваньня для шляховага будаўніцтва і аўтарамонтныя майстэрні. Існуючыя заводы будуць пераабсталяваны з тым разьлікам, кабператварыць іх у машынабудаўнічыя заводы.

*Керамічная прамысловасьць і мінэральных будаўнічых матар'ялаў* пашыраецца шляхам пабудовы цаглянага заводу, звыш дзесятка цагляных заводаў, некалькіх вапняных заводаў, клінкерных і інш.

Дрэваапрацоўчая прамысловасьць разгортваецца па шляху пабудовы новых прадпрыемстваў, галоўным чынам, больш складанай пераапрацоўкі драўніны. Гэтак, мяркуецца пабудова Камбінату ў Гомлі (абозны цэх, паганялкі грабовыя, паркетная вытворчасьць, скрыначная тара і інш.), некалькі фабрык гнутай мэблі, камбінат у Полацку, фанэрны завод, завод стандартных частак будынкаў, беладзярэўны завод, ф-ка спартыўных прылад і канцэлярскага інвэнтару, а таксама завод па вытворчасьці прэсаванага дрэва (гэміцеллюлёза) і інш. прадпрыемствы.

Па шкляной прамысловасьці будзе пабудаваны мэханізаваны завод па выпраўцы шкла

Хэмічная прамысловасьць будуе шэраг новых прадпрыемстваў: супэрфосфаты і серка-кіслотны завод, два фасфарытных заводы, косьцеапрацоўчы завод (ці асэінавы), завод па вырабу магнэзіі, серкавуглятленны завод, штучнае валакно, экстрактна-дубільны, экстрактна-каніфольны, ацэтонавы завод, галалітавы і інш.

*Па папяровай прамысловасьці* мяркуецца пабудаваць у пяцігодцы два новыя аб'екты: картонную фабрыку і целлюлёзны камбінат.

*Па шчацінкай прамысловасьці* мяркуецца да пабудовы два прадпрыемствы: шчотачная і шчацінная фабрыка.

*Гарбарная і абутковая прамысловасьць* будуюць мастаўевы завод, абутковую фабрыку і хромавы завод. Дробныя заводы, якія прымушаны будуць загінуць пасьля пабудовы новых буйных прадпрыемстваў, будуць рэканструіраваны ў прадпрыемствы новай вытворчасьці (галянтэрэя, шорныя, аўчынныя).

*Па харчовай прамысловасьці* будуць пабудованы новыя крухмальныя заводы, патачна-дэстрынны камбінат, крухмальна-цёрачныя заводы, заводы бульбяных хлоп'яў, два сагавых заводы, макаронная фабрыка, цукерная, маргарынавы завод, па пераробку фруктаў і інш. Разьвіцьцё браварнай прамысловасьці ідзе па шляху аднаўленьня некаторых бязьдзейных заводаў. Вытворчасьць піваварнай прамысловасьці не пашыраецца. Таксама застаецца бяз новага капітальнага будаўніцтва і дрожджавая прамысловасьць.

Асабліва вялікі размах набывае новае будаўніцтва ў *тэкстыльнай прамысловасьці.* Па ільняной будуць пабудованы два буйных прадпрыемствы — Аршанскі часальна-прадзільна-ткацкі камбінат і часальна-прадзільня ў Магілеве,—а таксама некалькі заводаў па пярвічнай апрацоўцы ільна. Па баваўняна-папяровай мяркуецца пабудаваць дзьве прадзільных фабрыкі, дзьве трыкатажных і буйная рэканструкцыя Дубровенскай мануфактуры—давядзеньне яе да 1000 варштатаў, заміж цяперашніх 300. Улічваючы што ў канцы пяцігодзьдзя мяркуецца павялічэньне таварных выхадаў пянькі, для перапрацоўкі яе прадугледжана пабудаваць пяньковую фабрыку.

*У кравецкай прамысловасьці* мяркуецца на працягу пяцігодзьдзя пабудаваць некалькі кравецкіх фабрык. Таксама будуецца яшчэ адна галянтарэйная фабрыка. Нарэшце, яшчэ прадугледжана ў пяцігодцы пабудаваць кіно-фабрыку.

Гэтакая агульная характарыстыка новага капітальнага будаўніцтва, якое павінна забясьпечыць неабходны тэмп разьвіцьця прамысловасьці, галоўнай матар'яльнай асновы сацыялістычнага будаўніцтва.

* * *

У выніку запраэктаванага аб'ёму і тэмпу капітальнага будаўніцтва ўтвараюцца адпаведныя ўмовы для павялічэньня прамысловае прадукцыі, росту рабочае клясы, уздыму прадукцыйнасьці працы, зьніжэньню сабекошту прадукцыі і іншых, як колькасных, так і якасных паказальнікаў працы. Агульны рост прадукцыі ўсяе цэнзавае прамысловасьці БССР вызначан па пяцігодцы па цэнах 1926-27 г. на 319 проц., (з 156 млн. руб. у 1927-28 г. да 653 млн. руб. у 1932-33 г.). Рост прадукцыі па прамысловасьці ВСНГ БССР прадугледжаны за пяцігодзьдзе на 377 проц. (З 116,6 млн. руб. у 1927-28 г. да 556,5 млн. руб. у 1932-33 г.).

Такім чынам, прадукцыя прамысловасьці, падпарадкаванай ВСНГ БССР, павялічваецца больш як у 4,5 разы. Гэткі тэмп прыросту прадукцыі, выпярэджваючы тэмп прыросту прамысловае прадукцыі па СССР, выходзіць з падліку сучаснага эканамічнага становішча БССР, яе эканамічнае адсталасьці і неабходнасьці хутчэйшага ўтварэньня значных пралетарскіх кадраў на заходняй сутыцы СССР з капіталістычным сьветам.

Рост валавой прадукцыі па асобных галінах прамысловасьці і зьмяненьне яе вытворчае структуры ў параўнаньні з сучасным становішчам бачым з наступнае табліцы:

Валавая прадукцыя па адпускных цэнах 1926-27 года.

| Галіны прамысловасьці | У тысячах рублёў. | | Прырост за пяцігодзьдзе у %% |
|---|---|---|---|
| | 1927-28 г. | 1932-33 г. | |
| Тарпяная | 567 | 4402 | 676 |
| Керамічная — у тым ліку | 1599 | 8952 | 460 |
| Цагляная вытворч. | 488 | 2453 | 440 |
| Цаментовая | — | 3200 | — |
| Шкляная | 6522 | 14334 | 120 |
| Мэталёапрацоўчая | 9952 | 31475 | 216 |
| Дрэваапрацоўчая | 24530 | 45855 | 87 |
| Запалкавая | 6182 | 16154 | 161 |
| Выраб штучнага валакна | — | 13200 | — |
| Лесахэмічная | — | 808 | — |
| Хэмічная ў тым ліку | 506 | 18020 | 3461 |
| Фасфарытная | — | 426 | — |
| Косьцеапрацоўч. | — | 1761 | — |
| Галалітавая | — | 4700 | — |
| Ацэтонавая | — | 2240 | — |
| Харчова-смакавая | 13107 | 35171 | 168 |
| Гарбарна-абутковая | 9809 | 49611 | 406 |
| Шчаціна-шчотачная | 2645 | 8222 | 211 |
| Ільняная | 4148 | 29107 | 602 |
| Баваўняна-прадзільн. і ткац. | 2296 | 28989 | 1163 |
| Панчошна-трыкатажная | 2056 | 55770 | 2612 |
| Кравецкая | 14609 | 149502 | 923 |
| Галянтэрэйная | — | 3578 | 762 |
| Акулярная | 1095 | 7096 | 548 |
| Папяровая | 15507 | 31364 | 102 |
| Паліграфічная | 1503 | 4981 | 231 |
| Лесазагатоўкі | 31309 | 36898 | 68 |
| Будаўн. работы Белдзяржбуду | 6078 | 53976 | 788 |
| Усяго без лесазагатовак і будаўнічых работ Белдзяржбуду | 116633 | 556599 | 377 |

Існуючыя галіны прамысловасьці, якія грунтуюцца на мясцовай сырызьне, значна пашыраюць сваю прадукцыю. Да іх трэба аднесьці гарбарна-абутковую, папяровую, харча-смакавую, керамічную, тарпяную, шкляную, дрэваапрацоўчую і інш. З гэтых галін найбольш слабы тэмп разьвіцьця (7 проц.) набывае дрэваапрацоўчая прамысловасьць па прычыне абмежаванасьці сырцу. Але яна разгортваецца на падставе больш складанай пераапрацоўкі таго сырцу, які раней у непераапрацованым выглядзе вывозіўся за межы БССР.

Вялікі тэмп росту запраэктаваны па швэйнай прамысловасьці і тэкстыльна-ільняной, баваўнянай, панчошна-трыкатажнай. Гэтыя дзьве галіны прамысловасьці складаюць у канцы пяцігодзьдзя па прадукцыі амаль 50 проц. усяе прадукцыі прамысловасьці, падпарадкаванай ВСНГ БССР.

Нарэшце, значна пашыраецца мэталёапрацоўчая і хэмічная прамысловасьць, у прыватнасьці мінэральных угнаеньняў, арганізуецца лесахэмічная—экстрактна-дубільная і экстрактна-каніфольная і шэраг новых галін.

Агульная вытворчая структура прамысловасьці ВСНГ БССР к канцу пяцігодкі мяняецца. Павышаецца ўдзельная вага некаторых галін прамысловасьці, якія грунтуюцца на мясцовым сельска-гаспадарчым сырцу—гарбарная, абутковая, харчова-смакавая, ільняная, керамічная, тарпяная і інш. Курс на разгортваньне прадпрыемстваў, якія грунтуюцца на прывозным транспартабельным сырцу, утварае спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця тэксьцільнае прамысловасьці па сырцу-бавоўне і штучным валакне; панчошна-трыкатажнай, баваўняна-прадзільнай, ткацкай. Гэтыя-ж прадпасылкі разам з наяўнасьцю рабочае сілы, садзейнічаюць шпаркаму тэмпу разьвіцьця буйнай швэйнай прамысловасьці.

Нарэшце трэба адзначыць вялікі рост галін, якія абслугоўваюць і садзейнічаюць агульнаму ўздыму і калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

* * *

Буйныя капітальныя работы ў прамысловасьці БССР, амаль поўная за пяцігодзьдзе тэхнічная рэканструкцыя, значны прырост асноўнага капіталу па ўсёй цэнзавай прамысловасьці з 69,1 млн. руб. у 27-28 г. да 978 млн. руб. у 32-33 г. (301 проц.), у тым ліку па прамысловасьці ВСНГБ з 52 млн. да 233,4 млн. руб. (340 проц.), зьяўляюцца грунтам палепшаньня якасных вытворча-эканамічных паказчыкаў і зьніжэньня сабекошту прадукцыі, якое характэрна для пэрыяду сацыялістычнага будаўніцтва.

Ставячы „адным з асноўных мерапрыемстваў, якія забясьпечваюць пасьпяховае разьвіцьцё народнае гаспадаркі і ажыцьцяўленьне праграмы індустрыялізацыі БССР... падвядзеньне ўстойлівай энэргічнай базы“ ў кантрольных лічбах прадугледжана значнае пашырэньне электрабудаўніцтва і большае скарыстаньне тарпяного паліва.

Апроч пабудовы Асінаўскай раёнай электрастанцыі, мяркуецца ў канцы пяцігодзьдзя пачаць яшчэ адну райёную электрастанцыю. Агульны лік цяперашніх электрастанцый павялічыцца з 153 у 27-28 г. да 229 у 32-33 г. Выпрацоўка энэргіі складзе ў 1932-33 г. 239,5 млн. квт. гадзін супроць 37,16 млн. квт. гадз. у 27-28 г., што дае аграмаднае павялічэньне вытворчасьці электраэнэргіі — на 650 проц. Выпрацоўка электраэнэргіі ў тым ліку на фабрычна-заводзкіх электрастанцыях павялічваецца з 18,5 млн. квт. гадзін да 80,0 млн. квт. гадзін. Ужываньне „машынных работ“ у вялікіх разьмерах, таксама патаненьне рэжыму работы іх, павінна стаць абавязковай умовай сапраўднай рацыяналізацыі. Колькасьць выпрацоўваемай электраэнэргіі павялічваецца на аднаго рабочага за пяцігодзьдзе амаль на 60 проц.

Параўнаўча з ростам прадукцыі балянс паліва дае меншы рост, што ў некаторай частцы сьведчыць аб рацыяналізацыі сілавой і паравой гаспадаркі. Гэтак, у 1927-28 г. прамысловасьць ВСНГ спажывала 222,2 тыс. тон умоўнага паліва, а 1932-33 г. мяркуецца скарыстаць 389,6 тыс. тон. паліва. Такім чынам, рост паліва не перавышае ва ўмоўных адзінках прыблізна 75 проц., а рост прамысловае прадукцыі— на 377 проц. Цікава параўняць удзельную вагу асноўных складаемых тапліўнага балянсу прамысловасьці ВСНГ у 1927-28 г. і ў канцы пяцігодкі (ва ўмоўных тонах):

| Віды паліва | 27-28 г. | 32-33 г. |
|---|---|---|
| Дровы | 103,6 | 79,0 |
| Вугаль | 69,0 | 81,7 |
| Торп | 12,9 | 177.4 |
| Нафта | 4,8 | 3,0 |
| Адкіды | 31,9 | 48,5 |
| Усяго | 222,2 | 389,6 |

Калі ў 27-28 г. пераважнае мейсца ў балянсе паліва займаюць дровы, дык у 1932-33 г. найбольшая ўдзельная вага перакладаецца на торп. Колькасьць спажываньня дроў зьмяншаецца ня толькі ў адносных лічбах, але нават, і ў абсалютных. Некаторае павышэньне абсалютных лічбаў наглядаецца па вугалю і адкідах, разам з вялікім павялічэньнем торпаспажываньня, якое па праву павінна займаць першае мейсца.

Буйныя рэканструктыўныя працэсы, якія намечаны да ажыцьцяўленьня ў пяцігодцы, значнае тэхнічнае пераабсталяваньне прадпрыемстваў, дазваляюць запраэктаваць рост прадукцыйнасьці працы на 100% за пяцьгод па прамысловасьці ВСНГ БССР, а па ўсёй дзяржаўнай цэнзавай прамысловасьці ня менш 88 проц. У сувязі з палепшаньнем асноўных тэхніка-эканамічных паказальнікаў у працы прамысловасьці магчыма запраэктаваць зьніжэньне сабекошту прадукцыі на 32 проц. за 5 гадоў.

„Асноўнай умовай зьніжэньня сабекошту павінна быць павышэньне прадукцыйнасьці працы, лепшае скарыстаньне сырцу, яго патаненьне, зьмяншэньне накладных выдаткаў і ўсямерная рацыяналізацыя прамысловай вытворчасьці і яе мэханізацыя“.

Апрача ўзмацненьня электрафікацыі прамысловасьці, значных дасягненьняў у колькасным выдаткаваньні паліва на адзінку прадукцыі, а таксама лепшай структуры балянсу паліва, дзякуючы лепшаму скарыстаньню апошняга,—таксама мяркуецца палепшаньне і іншых тэхніка-эканамічных паказчыкаў, як асновы для зьніжэньня сабекошту прадукцыі, што зьвязана з пераабсталяваньнем цяперашніх прадпрыемстваў і ўвядзеньнем у работу новых. Гэтак, у шэрагу галін прамысловасьці запраэктавана зьмяншэньне выдатку сыравіны на адзінку прадукцыі, разам з тым, павялічэньне высьця гатовае прадукцыі. У харчовай прамысловасьці павялічваюцца выхады дражджэй, піва, ільнянога масла. Гэткае-ж самае становішча наглядаецца і ў іншых галінах прамысловасьці—мэталяапрацоўчай, запалкавай, папяровай, керамічнай, трыкатажнай і інш.

Удзельная вага выдаткаў на рабсілу таксама зьмяншаецца ў сабекошце прадукцыі, пры росьце абсалютнай зарплаты рабочага, што зьяўляецца вынікам агульнай тэхнічнай рацыяналізацыі і лепшага скарыстаньня рабочае сілы на прадпрыемствах.

У адпаведнасьці з паказаным палепшаньнем тэхніка-эканамічных паказчыкаў і агульнага аздараўленьня прамысловай гаспадаркі пры патаненьні сырцу, утвараюцца дастатковыя ўмовы для дасягненьня запраэктаваных лічбаў зьніжэньня сабекошту прадукцыі на 32 проц., што дазваляе, у сваю чаргу, зьнізіць цэны на 25 проц., і павялічыць унутрыпрамысловае накапленьне, якое патрэбна для мэтаў пашыранага аднаўленьня сацыялістычнай індустрыі.

* * *

Разьвіцьцё прамысловасьці, вялікія ўкладаньні ў капітальнае будаўніцтва, рост прадукцыі, уздым прадукцыйнасьці працы і г. д. станоўча ўплывае на палепшаньне становішча рабочае клясы, якое прадугледжана ў кантрольных лічбах пяцігадовага пляну.

Адным з характэрных момантаў кантрольных лічбаў пяцігадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці ёсьць узмацненьне і пашырэньне пралетарскае базы. Колькасьць рабочых па дзяржаўнай цэнзавай прамысловасьці ўзрастае на 136 проц., альбо на 54,5 тыс. чалавек у параўнаньні з колькасьцю рабочых, якія былі заняты ў цэнзавай прамысловасьці ў 1927-28 годзе.

Рост занятых у прамысловасьці ВСНГ БССР рабочых на асобных галінах:

| ГАЛІНЫ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ | Колькасьць рабочых 1927-28 г. | Колькасьць рабочых у 1932-33 г. | Прырост у % за пяцігодзьдзе |
|---|---|---|---|
| Тарпяная | 564 | 2955 | 424 |
| Керамічная | 667 | 1698 | 156 |
| Шкляная | 3300 | 4652 | 41 |
| Мэталёапрацоўчая | 3100 | 5647 | 82 |
| Дрэваапрацоўчая | 4454 | 5878 | 32 |
| Запалкавая | 3217 | 4769 | 48 |
| Выраб штучнага валакна | — | 1050 | — |
| Лесахэмічная | — | 98 | — |
| Іншая хэмічная | 85 | 1124 | 1222 |
| Харчовая | 1623 | 2390 | 47 |
| Махорачная | 177 | 215 | 21 |
| Гарбарна-абутковая | 1279 | 4003 | 213 |
| Шчацінна-шчотачная | 494 | 575 | 16 |
| Ільняная | 2418 | 6060 | 151 |
| Баваўняная | 720 | 4750 | 560 |
| Панчошна-трыкатажная | 405 | 6320 | 1460 |
| Кравецкая | 1593 | 8500 | 434 |
| Галянтэрэйная | — | 647 | — |
| Акулярная | 187 | 543 | 190 |
| Папяровая | 3308 | 40 | 23 |
| Паліграфічная | 280 | 342 | 22 |
| Усяго | 25541 | 65977 | 138 |

Гэткім чынам, асабліва працаёмкімі галінамі прамысловасьці ў канцы пяцігодкі зьяўляюцца кравецкая, панчошна-трыкатажная, ільняная, дрэваапрацоўчая, запалкавая, мэталёапрацоўчая і гарбарна-абутковая прамысловасьць, колькасьць рабочых у якіх складае больш за палову ўсіх рабочых прамысловасьці ВСНГ. Абсалютны рост рабочых ідзе па ўсіх галінах прамысловасьці. Пры такім буйным уцягненьні ў прамысловасьць новых рабочых асаблівае значэньне набывае падрыхтоўка гэтых кадраў да вытворчасьці. Таму XII-й партыйны зьезд асаблівую ўвагу зьвярнуў на гэтае пытаньне: „Перабудова і інтэнсіфікацыя сельскае гаспадаркі, разгортваньне і рэканструкцыя дзяржаўнай і мясцовай прамысловасьці—усё гэта вымагае ад партыі зьвярнуць вялізарную ўвагу на падрыхтоўку і перападрыхтоўку кваліфікаванай, працоўнай, асабліва тэхнічнай сілы, пачынаючы з высока-кваліфікаваных спэцыялістаў канчаючы рабочымі“.

Галоўнымі крыніцамі, якія будуць даваць кваліфікаваную рабочую сілу, ёсьць—падрыхтоўка і перакваліфікацыя беспрацоўных (ЦІП), перападрыхтоўка рабочых, што працуюць у самой прамысловасьці, школы ФЗВ і інш.

Разам з агульным ростам рабочых у прамысловасьці павялічваецца колькасьць работніц і падросткаў. Мяркуецца, што рост колькасьці работніц будзе ісьці як у абсалютных лічбах, так і адносна ўсяго ліку рабочых. Апошняму будзе спрыяць як новая структура прамысловасьці (вялікі рост кравецкай, тэкстыльнай і інш. галін прамысловасьці), так і палепшаньне ўмоў працы, дзякуючы павышэньню тэхнічнага ўзроўню.

Агульны рост колькасьці рабочых на працягу пяцігодкі, перавышаючы адпаведныя лічбы росту па СССР, павінен у некаторай частцы паслабіць беспрацоўе, павялічыць кадры пралетарыяту, палегчыць далейшае кіраваньне сацыялістычным будаўніцтвам.

Рост заработнае платы ў пяцігодцы прадугледжаны на 32 проц. па прамысловасьці ВСНГ, а па ўсёй цэнзавай прамысловасьці на 28 проц. Неабходна адзначыць, што рост заработнае платы будзе адбывацца пры ўмовах уцягненьня ў вытворчасьць новых кадраў рабочых, а таксама пры значным зьмяненьні кваліфікацыі рабочага, дзякуючы тэхнічнаму прагрэсу і рацыяналізацыі, якія цягнуць за сабой замену штукарства рабочага работай машыны. Падлічваючы тое, што разам з павялічэньнем намінальнай заработнай платы будзе ісьці і зьніжэньне цэн на тавары, рэальная заработная плата ўзрасьце ўсяго ня менш, як на 50 проц. Сярод іншых мерапрыемстваў, якія накіраваны на палепшаньне становішча рабочае клясы трэба адзначыць агульнае палепшаньне ўмоў працы на новых фабрыках і заводах, а таксама і на рэканструктаваных. Пры пабудаваньні новых прадпрыемстваў мерапрыемствы па ахове працы будуць непадзельнаю часткаю самога праэкту пабудовы і гэта дае неабходныя ўмовы для сваечасовага забясьпечаньня ўсіх запатрабаваньняў з боку аховы працы. Разам з тым, на прадпрыемствах, якія застаюцца працаваць без вялікіх зьмен рэканструкцыйнага парадку, павялічваюцца выдаткі на ахову працы.

Прамысловасьць зьяўляецца адным з галоўным пабудоўнікаў у справе жыльлёвага будаўніцтва. Прадукцыйнасьць працы, агульнае становішча рабочага, у пераважнай мерцы залежаць ад тых жыльлёвых умоў, у якіх знаходзіцца рабочы. Становячы сваёй задачей барацьбу з жыльлёвым крызісам для рабочых, гаспадарчымі органамі па прамысловай пяцігодцы прадугледжана каля 20 млн. руб. на жыльлёвае будаўніцтва. Бяручы пад увагу, што апроч прамысловасьці пабудоўнікамі зьяўляюцца яшчэ АВК і жыльлёвая каапэрацыя, а таксама і прыватнікі, цяжкае кватэрнае становішча да канца пяцігодкі палепшыцца.

Жыльлёвая плошча павінна быць даведзена да мінімальнай санітарнай плошчы на душу насельніцтва ў рабочых раёнах. Апрача жыльлёвага прадугледжана таксама камунальнае і клюбнае будаўніцтва ў адпаведных памерах.

Нарэшце, сярод галоўных мерапрыемстваў пяцігодкі накірованых на палепшаньне становішча рабочае клясы, трэба вызначыць перавод прадпрыемстваў на сямігадзінны рабочы дзень. На працягу пяцігодкі ўсе прадпрыемствы цэнзавай прамысловасьці будуць пераведзены на сямігадзінны рабочы дзень. Перавод на скарочаны час работы будзе садзейнічаць прадукцыйнасьці працы, зьніжэньню сабекошту прадукцыі, лепшаму скарыстаньню асноўнага капіталу і агульнаму палепшаньню становішча рабочае клясы.

Такім чынам ажыцьцяўленьне пляну прамысловага разьвіцьця паляпшае становішча рабочае клясы. У адпаведнасьці з ростам прамысловасьці, узмацненьнем тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва, няўхільна будзе паляпшацца становішча пралетарыяту пры ўцягненьні новых кадраў рабочых у вытворчасьць, росьце намінальнай і рэальнай зарплаты, палепшаньні вытворчых і бытавых умоў і пераводзе на сямігадзінны рабочы дзень.

* * *

Правядзеньне ў жыцьцё намечаных кантрольных лічбаў пацігадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці адчыняе шлях сацыялістычнага перабудаваньня ўсяе народнаё гаспадаркі БССР. Але разам з тым трэба адзначыць вялікую напружанасьць і вялікія цяжкасьці, якія стаяць на шляху да яго ажыцьцяўленьня. Толькі пры пасьпяховым выкананьні ўсіх частак пляну разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі рэспублікі магчыма выкананьне пляну па прамысловасьці. Разгортваючы прамысловасьць, якая грунтуецца на мясцовым сырцу, пераважна сельскагаспадарчым і лясным, трэба памятаць, што „сельская гаспадарка ёсьць базаю прамысловасьці і яе рост ёсьць ростам харчовае і сыравіннай базы індустрыялізацыі. Працяглы рост індустрыі становіцца аб'ектыўнай немагчымасьцю без адпаведнага росту сельскае гаспадаркі“. Таму адпаведнае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ёсьць грунтам для разьвіцьця шэрагу галін прамысловасьці ільняной, пяньковай, крухмальнай, ацэтонавай і інш.

Выкананьне самога пляну прамысловасьці ў пераважнай частцы залежыць ад выкананьня пляну капітальнага будаўніцтва, асабліва ў першыя гады пяцігодзьдзя. Для выкананьня будаўнічай праграмы першага году патрэбна спэцыяльнае фінансаваньне прамысловасьці БССР у суме 6—7 млн. руб. звыш тых сродкаў, якія прадугледжаны па прамфінпляне.

Захаваньне і выкананьне прадугледжанага тэмпу разьвіцьця прамысловасьці па ўсіх іншых паказчыках, зьяўляецца таксама неабходнай прадпасылкай выкананьня пяцігадовага пляну. Галоўная ўвага ва ўсёй працы павінна быць зьвернута на выкананьне пляну разгортваньня на працягу першых гадоў. Рост прадукцыі, зьніжэньне сабекошту, прыбыткі прамысловасьці, утвараюць неабходныя ўмовы для далейшага „пашыранага аднаўленьня індустрыі на падставе пашыранага аднаўленьня народнае гаспадаркі наогул“.

Недахоп кваліфікаванае рабочае сілы, асабліва недахоп інжынерна-тэхнічных работнікаў будзе перашкаджаць правядзеньню прамфінпляну.

Адзначаючы агульную напружанасьць пляну і магчымыя цяжкасьці, якія будуць стаяць пры яго выкананьні, трэба памятаць, што толькі пры актыўнай дапамозе і падтрыманьні рабочых мас, магчыма будзе выканаць пастаўленыя ў пляне задачы сацыялістычнага будаўніцтва.

---

П. ПАСЮКЕВІЧ

# Як выконваюцца прапановы рабочых

## (З агляду вытворчых нарад)

Яшчэ XIV зьезд УсеКП(б) у сваіх пастановах аб прафсаюзах асаблівую ўвагу аддае на пытаньне работы вытворчых нарад. У гэтых пастановах гаворыцца: „Найлучшей формай втягивания широких рабочих масс в дело практического строительства советского хозяйства, воспитания в них понимания тесной зависимости интересов трудящихся от степени хозяйственных успехов социалистического государства являются *производственные совещания* при фабриках, заводах, и других крупных предприятиях“. Асабліва ўзрастае роля і значэньне В. Н. *) у зьвязку з асноўным курсам партыі на індустрыялізацыю нашай краіны. Вот чаму цяпер па інцыятыве газэты „Правда“ і „Производственного журнала“ праводзіцца агляд работы В. Н. і камісій. Раўналежна з гэтым органы КК-РСІ праводзілі абсьледваньне гэтае работы. Пры абсьледваньні асноўная ўвага бралася на тое, каб прапановы рабочых, унесеныя імі на вытворчыя нарады праводзіліся ў жыцьцё, і ўтварыліся належныя ўмовы для таго, каб думка кожнага рабочага была накіравана на палепшаньне і ўдасканаленьне свайго прадпрыемства. Эканом работа на прадпрыемствах, як адна з важнейшых форм масавае работы, павінна была знаходзіцца пад неаслабным і пастаянным кіраўніцтвам партыйных ячэек і прафорганаў. Абсьледваньне, выявіла наколькі В. Н. зьяўляюцца органамі выхаваўчымі і падрыхтоўваючымі рабочых для кіраўніцтва савецкім будаўніцтвам.

Выбарачным абсьледваньнем ахоплена 10 прадпрыемстваў БССР у розных акругах (Скурзавод „Бальшавік“, фанэрны завод,—Бабруйск, фабрыка акуляраў, панчошная і шчотачная фабрыкі ў Віцебску; цукерная фабрыка і галоўныя чугуначныя майстэрні ў Гомелі; суконная фабрыка, завод цьвікоў у Воршы і чугуначны вузел у Полацку). З агульнай колькасьцю рабочых 5.000 чал.

На падставе гэтага матар'ялу можна мець некаторыя агульныя вынікі, даючыя малюнак гэтай работы.

### I. Зьмест работы вытворчых нарад і вынікі яе.

Работа В. Н. павінна была быць накірована ў асноўным на зьніжэньне сабекошту, падняцьце прадукцыйнасьці працы, палепшаньне якасьці прадукцыі і пашырэньня яе пераходу да 7 гадзін рабочага дню на некаторых прадпрыемствах і на ахову працы.

Дзякуючы дрэнна пастаўленаму вучоту работы В. Н. і В. К. нават у лепшых з іх, няма магчымасьці дасканала падлічыць увесь эфэкт, вынікі

*) У артыкуле скарочаныя В. Н.—вытворчыя нарады, В. К.—вытворчыя камісіі і Ч. К. К.—часовыя кантрольныя камісіі.

работы па палепшаньню якасьці прадукцыі, прадукцыйнасьці працы і г. д. Як правіла В. Н. і В. К. амаль заўсёды недастаткова разьмяжоўваюць работу па асобных пытаньнях паказаных вышэй, а проста займаюцца работай наогул, галоўным чынам, датыкаючыся тых, альбо іншых тэхнічных удасканаленьняў, дзякуючы адсталасьці шмат якіх прадпрыемстваў і саматужнаму яшчэ спосабу вытворчасьці.

Зьніжэньнем сабекошту займаліся як быццам усе абсьледваныя В. Н., за выключэньнем фанэрнага заводу (Бабруйск). Аднак, на шмат якіх прадпрыемствах зусім нельга ўстанавіць вынікам чаго адбылося зьніжэньне сабекошту—ці яно ішло проста за лік прыбытку, ці дзякуючы рацыяналізацыі вытворчасьці („Красный Октябр,“—Орша, панчошная фабрыка—Віцебск). На суконай фабрыцы (Ворша) на пытаньне аб зьніжэньні сабекошту была зьвернута вялікая ўвага, але дзякуючы таму, што па калькуляцыі Трэсту (аб гэтым рабочыя мала інфармаваны) прадажная цана ніжэй сабекошту, дзякуючы чаму фабрыка мела ў 27-28 г. страт на 10.000 руб.

В. Н. лічыць, што былі-б яшчэ большыя страты, каб гэтым пытаньнем не займаліся. Выклікаецца гэта адсутнасьцю сыравіны ў пэўным раёне і тым, што дастаўка яе дорага абходзіцца фабрыцы.

Ёсьць факты пры абгаварэньні пытаньняў сабекошту ігнараваньня адміністрацыяй думак рабочых, калі дырэктар фабрыкі заяўляе, што рабочыя ўсё адно не разумеюць нічога ў лічбах (цукерная фабрыка—Гомель).

Пераход фармоўкі малатарных рухавікоў з адзіночнага на парныя зьнізіў сабекошт з 80 кап. да 50 кап. за штуку („Красный Октябрь“—Ворша). На заводе „Бальшавік“ прынят шэраг прапаноў аб найлепшым выкарыстоўваньні адходаў і адкідаў вытворчасьці: а) выкарыстоўваньне адпудзіны, як паліва, б) утылізацыя адходаў жыроў праз частую чыстку, в) зьмяншэньне прастояў праз узмацненьне мэханічнага цэху кваліфікаванымі сьлёсарамі і г. д., што ў вядомай ступені зьнізіла сабекошт.

На некаторых прадпрыемствах, дзякуючы палепшаньню пастаноўкі працы ёсьць павялічэньне валавой прадукцыі (фанэрны завод—Бабруйск на 19%, суконая фабрыка—Ворша, сакавік—100%, май—111%, жнівень—133%). У іншых прадпрыемствах В. Н. на гэтых пытаньнях не фіксавала ўвагі.

У пытаньні аб якасьці прадукцыі В. Н. займаліся, галоўным чынам, зьмяншэньнем браку, паколькі на цэлым шэрагу прадпрыемстваў гэта мела месца (панчошная і шчотачная фабрыкі—Віцебск). На фабрыцы акуляраў у зьвязку з гэтым, а таксама і для зьмяншэньня прагулаў і для падняцьця прадукцыйнасьці працы, быў пастаўлен конкурс на лепшага рабочага. Першая прэмія—паездка ў Маскву з захаваньнем 2-х тыднёвага заработку таму рабочаму, каторы на працягу 4-х м-цаў ня будзе мець ніводнага прагулу і ніводнай заўвагі, працаваць без браку быць удзельнікам усіх вытворчых нарад. Другая прэмія — гарнітур цаною 68 руб., рабочаму таксама без прагулаў, заўваг, з прадукцыяю сярэдняй якасьці, за значнае зьмяшчэньне колькасьці браку і г. д. Былі ўстаноўлены і прэміі за выкананьне якой-небудзь аднэй умовы беспрагульнасьць, альбо адсутнасьць браку і інш. Усё гэта спрыяла выпраўленьню недахопаў на вытворчасьці. Некаторыя В. Н. заслаба выяўлялі значэньне пытаньня аб якасьці прадукцыі. Так на фанэрным заводзе (Бабруйск) была вынесена В. К. такога роду пастанова: „П. К. отмечает, что после установления стальных плит в клеевом прессе фанера вырабатывается не худшего качества, чем в других заводах Лесбела“—і на гэтым супакоіліся.

У пытаньнях працоўнай дысцыпліны некаторыя В. Н. абмяжоўваліся агульнымі разважаньнямі. Конкрэтных мерапрыемстваў па падняцьцю працоўнай дысцыпліны не распрацоўвалася, калі ня лічыць асьвятленьне ў газэце (Шчотачная фабрыка—Віцебск). На фанэрным заводзе (Бабруйск) В. Н. заслухала даклад аб становішчы працоўнай дысцыпліны і, не ўважаючы на цэлы шэраг дэфэктаў і адмоўных адносін да гэтага пытаньня, прынята пастанова „Принять к сведению".

Слаба пастаўлена працоўная дысцыпліна на цукерні ў Гомелі, недахопы ня зьнішчаны і вакол гэтага пытаньня В. Н. ня была завострана ўвага.

Вось малюнак працоўнай дысцыпліны ў аддзяленьні, дзе загортваюцца цукеркі і дзе працуюць адны дзяўчаты, там вялікі процант партыйцаў і комсамольцаў. У іх маюць месца цынічныя анэкдоты, заўсёды шум, крык, што перашкаджае рабоце, ня слухаюць загадчыка аддзяленьнем, чаму апошні іншы раз не прыслухоўваецца да думкі работніц. Адзначаюцца спазьненьні на работу на цэлую гадзіну. У карамельным аддзяленьні ў час работы абліваюцца вадой, хаваюць нябожчыка, кладучы на стол рабочага, альбо работніцу, адпяваюць яго. Гэтыя моманты маюцца і ў іншых цэхах. Наглядаецца антаганізм паміж асобнымі цэхамі: калі з карамельнай прысылаюць работніцу ў цэх мяккага загортваньня, альбо ў пранічнае аддзяленьне, там ёй не даюць працаваць, лічучы, што яна новая работніца, ёй няма чаго сюды лезьці. Адміністрацыя па гэтым неаднакроць ужывала меры ўзьдзейнічаньня, але належных вынікаў не дастукалася; былі выпадкі, калі здымалі з работы за кражы.

У гэтым выпадку партячэйка таксама не рабіла адпаведных захадаў па зьнішчэньню такіх пачварных зьяў.

Пытаньнямі прадукцыйнасьці працы і аховы працы вытворчыя нарады займаліся менш за ўсё. На фанэрным заводзе (Бабруйск) прадукцыйнасьць працы пабольшылася на 2,6%, аднак дзякуючы не рабоце В. Н., таксама і на другіх прадпрыемствах. Маюцца ўсё-ж такі моманты, калі на прадукцыйнасьць працы павінна быць аддадзена найсур'ёзная ўвага (на скуразаводзе „Бальшавік" зарплата выпярэдзіла прадукцыйнасьць працы на 2,1%, няўважлівыя прагулы павялічыліся на 0,14%).

Што датычыць аховы працы, дык наогул пры кепскім стане аховы працы ў большасьці прадпрыемстваў пытаньне аб палепшаньні ўпіраецца ў неабходнасьць карэннага пераабсталяваньня ўсяго заводу або фабрыкі (суконая фабрыка—Ворша). На скурзаводзе „Бальшавік" па ахове працы падаваліся прапановы: а) аб пабудове асобнай разьдзявальні і душу для дзяўчат; б) аб зьмяншэньні шкоднасьці і забесьпячэньня небясьпекі ў вытворчасьці падана прапанова аб пабудове асобнага памяшканьня для складваньня і гашэньня вапны.

Пытаньне аб пераходзе на 7 гадзін рабочага дню некаторыя В. Н. абгаварвалі (акулярная і панчошныя фабрыкі—Віцебск), пры чым на апошняй гэты пераход ужо зроблен. Такое вялікае прадпрыемства, як завод „Бальшавік", гэтага пытаньня не абгаварваў.

Калі мала ўлічвалася канкрэтная работа В. Н. па паасобных пытаньнях, дык яшчэ ў большай меры не наладжаны падлік таго, якая эканомія дасягнута ў выніку правядзеньня прапаноў В. Н. На такіх прадпрыемствах, як панчошная, шчотачная фабрыкі (Віцебск), цукерня (Гомель) вучот наогул адсутнічае. Гэтай справай В. Н. не зацікавіліся, а В. К. гэтых прадпрыемстваў гэтага пытаньня не падагуліў.

На заводзе „Красный Октябрь" (Ворша) ужывалі за паліва пілавіньне і адкіды дравеснага вугалю, было паменшана ўжываньне дроў, што дало эканомію 938 руб. Калі параўнаць з 27 г. устанаўленьне но-

вага працэсу „траўленьня“ і арганізацыі спэцыяльнай сушылкі на дрот дало эканоміі ў 7440 руб.; скарачэньне адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў на 170% і другія моманты.

На скурзаводзе „Бальшавік“—Менск ад рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў па палепшаньню вытворчых працэсаў (галоўным чынам, замена ручной працы машынай) дало агульную эканомію ў 37.236 руб. у год, з іх 23.808, руб. дзякуючы рэалізацыі прапаноў В. Н. і часовай К. К.

Нешта падобнае да эканамічнага вучоту вынікаў ад рэалізацыі прапаноў В. Н. даюць Галоўныя Гомельскія майстэрні. Па 14 выкананых поўнасьцю прапановах В. К. і В. Н. маецца экономіі ў 6.813 р. 88 к. і мяркуецца па 14 часткова выкананых 7.425 р. 29 кап. Большасьцьжа выкананых адміністрацыяй прапаноў (345), хоць непасрэднай эканоміі, выражанай у грашох і не даюць, але бязумоўна паляпшаюць агульнае становішча прадпрыемства, павышаюць прадукцыйнасьць працы, якасьць прадукцыі і г. д., што цяжка падлічыць.

У большасьці выпадкаў В. К. маюць пляны работы на розныя тэрміны—некаторыя складаюць па квартальна на 3 м-цы, на паўгода і на гадовы пэрыяд. Больш поўнае выкананьне плянаў праведзена тымі, якія складалі на гадовы пэрыяд, аднак, гэта магчыма таму, што пры невялікай параўнальнай колькасьці пытаньняў і пры большым тэрміне—яны былі выкананы ў большым процанце. Ёсьць і такія В. К., дзе плянаў работы па ½ году ня было (фанэрны завод—Бабруйск), а потым складзены плян работы ня выконваўся, а вырашаліся новыя пытаньні, пададзеныя рабочымі на В. Н. Наглядаецца адступленьне ад плянаў работы ўсіх вытворчых камісій паколькі ўзьнікае ў працэсе работы цэлы шэраг новых пытаньняў. Ёсьць і невыкананьні пляну з прычыны слабое работы (Бабруйск—фанэрны завод).

Гэтае адступленьне ад прынятых плянаў у некаторых выпадках бывае нагэтулькі вялікім (Полацкі чыгуначны вузел), калі з 11 пытаньняў пляну абгаварваліся толькі 4, што характарызуе заслабую прадуманасьць пытаньняў, якія ўключаліся ў плян работы.

Што датычыць якасьці плянавых пытаньняў, дык у шмат якіх выпадках яны фіксуюць увагу на такіх асноўных пытаньнях вытворчасьці як 20 проц. зьніжэньне адмінстрацыйна-гаспадарчых выдаткаў, зьніжэньне сабекошту, палепшаньне якасьці працы, рацыяналізацыя працы. Ёсьць і канкрэтныя пляны.

Удзел рабочых у вытворчых нарадах залежыць ад пастаноўкі эканомработы на прадпрыемствах. Там, дзе падбіраюцца найбольш жывыя пытаньні, што цікавяць рабочых, там наведваньне здавальняючае (60—70 проц.). Найбольшы посьпех тут даюць цэхавыя нарады (70—75 проц.) і менш агульна-завадзкія В. Н. (30—40 проц.). Тут часта ўплываюць чыста тэхнічныя моманты: ня добра паведамляюцца рабочыя пра дзень і час вытворчых нарад: гэта ўплывае кепска на актыўнасьць рабочых (галоўныя Гомельскія майстэрні і інш.): або склікаюцца па нядзелях і ў час выдачы заработку (Мэтпрам—Віцебск) Менш за ўсё наведваюць рабочыя ў Полацкім чыгуначным вузьле, прыходзілі толькі тыя рабочыя, якія высунуты ў якую-небудзь падкамісію.

Яшчэ адзін арганізацыйны недахоп досыць стары, заўважваецца ва ўсёй рабоце— гэта імкненьне абмежаваць работу Вытворчай Камісіяй ня выносячы на абгаварэньне вытворчых нарад. Гэтым самым масавая работа ўціскаецца ў вузкія апаратныя рамкі. З гэтым трэба рашуча змагацца і ў сваім кіраўніцтве партыйныя і прафэсыянальныя органы

павінны гэты момант асабліва ўлічваць. Ня трэба забываць што В. К. ёсьць падрыхтоўчы орган для В. Н.

Такім чынам са зьместу і вынікаў работы відаць, што ў рабочых маецца сур'ёзнае жаданьне сваім удзелам і парадамі ўсямерна памагчы справе сацыялістычнага будаўніцтва, але рабоце В. Н. перашкаджае неналаджанасьць і кепская пастаноўка самой работы В. К. і В. Н.

**II. Як выконваюцца прапановы цэхавых і агульна-заводзкіх В. Н. гаспадарчымі органамі, у якія тэрміны і кантроль выкананьня.**

Акромы зьместу работы В. Н. трэба праглядзець як выконваюцца пастановы вытворчых нарад, у якія тэрміны яны зьдзейсьняюцца, як улічваецца і кантралюецца гэтая работа. „Хозяйственники должны внимательно наблюдать и изучать работу производственных совещаний и комисий и выдвигаемые ими предложения. Следует точно, ясно и открыто об'ясьнить причину непринятия тех или иных предложений" (з рэзалюцыі XIV зьезду УсеКП(б). Аб працы прафсаюзаў).

Што мы маем у рэчавістасьці?

Выкананьне пастаноў вытворчых нарад на розных прадпрыемствах ў сярэднім ажыцьцяўляе прапановы на 60—70 проц. Там, дзе больш менш пастаўлен вучот працы В. Н., дзе больш альбо менш ёсьць кіраўніцтва з боку партячэйкі і адпаведнае кіраўніцтва з боку праф-арганізацый, там прапановы вытворчых нарад ажыцьцяўляюцца ў большай меры. Ёсьць моманты і пагардлівых адносін да пастаноў вытворчых нарад з боку гаспадарнікаў, калі партыйна-прафэсыянальныя (нізавыя) арганізацыі ў гэтым напрамку нічога як быццам не маглі зрабіць.

Калі на самым прадпрыемстве ў большай або меншай меры праводзяцца ў жыцьцё прапановы рабочых, дык у трэстах, на вырашэньні якіх перасылаюцца паасобныя пытаньні, назіраецца найбольшае невыкананьне пастаноў В. Н.

У аддзяленьні Лесбелу, куды ўваходзіць фанэрны завод (Бабруйск) быў пасланы шэраг прапаноў для выкананьня, напр., аб устаноўцы дымаходных труб, аб дастаўцы заводу скуры для манжэт, аб вывучэньні паравой гаспадаркі. Аб лёсе гэтых прапаноў ня толькі рабочыя, а і В. К. ня ведаюць, некаторыя пратаколы В. Н. з прапановамі пагубіліся ў аддзяленьні Лесбелу.

У камунальным трэсьце, у які ўваходзіць суконная фабрыка (Ворша) таксама па паўгоду марынуюцца прапановы і па іх ня прымаецца ніякіх мер.

Выпаўненьне прапаноў праходзіць з 7 дзён да 1 году, пры чым зацяжка ў большасьці выпадкаў бывае дзякуючы адсутнасьці патрэбных крэдытаў і мясцовых асыгнаваньняў, або і па тэхнічных прычынах.

Па паасобным прадпрыемствам ажыцьцяўленьне праходзіць у наступным. На фанэрным заводзе (Бабруйск) з 99 прапаноў (пры чым толькі 22 прапановы прайшлі праз вытворчыя нарады, а рэшта паступілі як прапановы В. К), выканана 69 прапаноў; на заводзе „Красный Окцябрь" (Ворша) з 119 прапаноў цэхавых нарад выканана 71, а з агульна-заводзкіх нарад з вынесеных 18 пастаноў выканана толькі 7; на цукерні з 38 выканана 23 прапановы, некаторыя ў момант правядзеньня агляду, пры чым і рэшту мелася магчымасьць правесьці. Але адміністрацыя ігнаруе гэтыя прапановы; на гэтым-жа самым прадпрыемстве адзначаецца вялікая зацяжка ў тэрмінах, калі даецца 2—3 тыдні, а цягнецца 8—9 месяцаў.

У галоўных Гомельскіх майстэрнях з 562 прадпрыемстваў (па цэх. і агульна заводзкіх нарадах) ня выканана 88 прапаноў. На гэтым прадпрыемстве з усіх прапаноў 68 адхілена адміністрацыяй, як немэтазгодныя. ЦКК там правярала гэтыя прапановы і таксама нашла магчымым адхіліць іх. Гэта прапановы па палепшаньні працы якога-небудзь цэха, але якія абсалютна не даюць эфэкту для ўсяго прадпрыемства.

За пэрыяд з 1-га кастрычніка 28 г. цэхавымі і агульна заводзкімі нарадамі зав. („Бальшавік") прынята 46 прапаноў з іх выканана 43, альбо 93,9 проц.

У сярэднім рэалізацыя праводзілася ў працягу ад тыдню да 3-х м-цаў. У мінулым годзе па тэрмінах выкананьня ня было вучоту, а з 1-га кастрычніка 1928 г. уведзены вучотныя карткі—кожная прапанова заносіцца на картку. Картка дае магчымасьць кантраляваць вучот і выкананьне.

Найбольш дрэнна з выкананьнем прапаноў В. Н. на Полацкім чугуначным вузьле. Перш за ўсё трэба сказаць, што за год было ўсяго 2 вытворчыя нарады. Работа, галоўным чынам, абмяжоўвалася вытворчай камісіяй і падкамісіяй („апаратнае" вырашэньне пытаньняў); з 70 прапаноў В. К. і В. Н. выканана толькі 37 (менш за 50 проц.).

На гэтым самым прадпрыемстве мы маем выпадкі, калі выказаныя раней прапановы рабочых адхіляюцца з прычыны немагчымасьці іх выканаць, а потым праводзяцца ад імя адміністрацыі.

Пастановы прынятыя вытворчымі нарадамі і камісіямі звычайна разглядаюцца на фабзаўкомах, пры чым у большасьці выпадкаў пытаньне праходзіць фармальна, пасьля чаго, адбітак пратаколу В. Н. перадаецца адміністрацыі і ў некаторых выпадках Трэсту, калі ён тэрыторыяльна блізка ад прадпрыемства.

Гэты парадак трэба лічыць канечне не асабліва цяжкім. А з зацяжкаю вырашэньня пытаньняў адміністрацыяй застаецца тое самае становішча, аб якім казалася вышэй. Па асобных мер па спрашчэньню парадку прахаджэньне дробных пастаноў нідзе не распрацована.

Вельмі часта пытаньні, узьнятыя рабочымі, зацягваюцца пры вывучэньні і вырашэньні іх вытворчымі камісіямі і нарадамі. Большасьць прапаноў рабочых у галоўных Гомельскіх майстэрнях паступаюць у В. К., якая па характару пытаньняў утварае спэцыяльныя падкамісіі, а тыя ўжо на наступным пасяджэньні В. К. дакладваюць і прымаецца адпаведнае рашэньне для перадачы яго на В. Н., або вельмі часта бывае перадача і падкамісіі. На В. Н. перадаюцца пытаньні найбольш ясныя і бясспрэчныя. Рэшта перад В. Н. перадаюцца або ў экспэртную камісію, або ў вытворчы аддзел (Праўленьне чугункі), або ў ІТС (інжэнэрна-тэхнічная сэкцыя) і яны заўсёды цягнуцца да 4-х м-цаў.

У Полацкім чугуначным вузьле нават кожная дробная прапанова пасылаецца ў Праўленьне дарогі (Масква), што вельмі зацягвае пытаньне.

Спэцыяльнага вучоту пастаноў В. Н. фабрычна-заводзкія камітэты не вядуць, як няма і кантролю. Большасьць наогул слаба правяралі гэтыя пастановы. Некаторыя фабзаўкомы давалі дырэктывы В. К. узяць свае пратаколы і праверыць наколькі ажыцьцяўляюцца пастановы В. Н.; некаторыя практыкавалі на пасяджэньнях В. К. і В. Н., заслухоўваць даклады гаспадарніка, як выконваюцца прапановы В. Н. Другіх форм вучоту і кантролю Ф. З. К. не вядуць. Асабліва дрэнна са справаю па кантролю над пастановамі цэхавых камісій (або прафупаўнаважаных, як на заводзе „Бальшавік").

Што датычыцца адміністрацыі, дык у 2-х выпадках мы маем становішча, калі вучот прапаноў уведзен па адпаведнай карткавай сыс-

тэме (скурзавод „Бальшавік“ і Гомельскія Галоўныя майстэрні). На апошнім прадпрыемстве вылучаны спэцыяльны чалавек ад адміністрацыі, які рэгіструе паступіўшыя прапановы, запісвае дату і г. д. Аднак і тут толькі фармальны вучот, гэты работнік толькі рэгіструе пастановы і калі пытаньне нават доўга цягнецца, то ніхто не праяўляе асаблівай ініцыятывы падштурхнуць яго, каб за яго ўзяліся ці адміністрацыя, ці фабком.

Зусім заслабым трэба прызнаць інфармаваньне рабочых аб прынятых і няпрынятых пастановах В. Н. аб чым катэгарычна прапануецца ў рэзалюцыі XIV зьезду партыі. Па ініцыятыве некаторых фабзаўкомаў (суконная фабрыка „Красный Октябрь“—Ворша, Галоўныя Гомельскія майстэрні, завод „Бальшавік“—Менск) ставіліся даклады адміністрацыі аб выкананьні прапаноў В. Н. На другіх-жа прадпрыемствах адсутнічае і гэткая форма праверкі.

З усяго гэтага мы можам заключыць, што ў цэлым шэрагу асобных прадпрыемстваў наглядаюцца ў лепшым выпадку няўважлівыя адносіны да прапаноў рабочых. Затым трэба прызнаць неабходным і мэтазгодным выдаць дэкрэт, які вызначаў-бы абавязкі Гаспарганаў у адносінах выкананьня прапаноў рабочых і адказнасьці іх перад законам за невыкананьне.

---

*А. САМОНАЎ.*

# Хваробы саматужна-прамысловай каапэрацыі.

Дэфіцытны сырэц—асноўны арганізатар саматужніцкіх мас. Дырэктывы партыі аб каапэраваньні бяднейшых саматужніцкіх пластоў, аб разгортваньні работы ў вёсцы, аб ачыстцы ад сацыяльна-чужых элемэнтаў выконваюцца вельмі слаба.

Усім вядома тая вялікая роля, якую адыгрывае саматужна-прамысловая каапэрацыя ў справе зьмяншэньня таварнага голаду, у справе арганізацыі шырокіх пластоў раскіданых саматужнікаў гораду, мястэчка і асабліва вёскі, у справе вытворчага каапэраваньня і аб'яднаньня ў арцелі дробных вытворцаў і снабжэньня іх у плянавым парадку сырцом.

Даволі успамянуць пастанову Пленуму ЦК КП(б)Б (красавік 1926 г.), у якой сказана: „Пленум ЦК КП(б)Б, сцьвярджаючы рашэньне Бюро ЦК ад 21 студзеня 1926 г. аб саматужна-прамысловай каапэрацыі, адзначае, што ва умовах БССР саматужна-рамесьніцкая *прамысловасьць адыгрывае вялікую ролю* ў справе забясьпячэньня бяднейшай часткі насельніцтва работай (асабліва мястэчковага насельніцтва) як і пры правільным рэгуляваньні праз саюз саматужна-прамысловай каапэрацыі і Наркамгандлю зможа значна павялічыць таварную масу, выкідваемую на рынак—асабліва на вясковы рынак".

Здавалася-б, што тут задачы даволі ясныя і трэба толькі прытрымлівацца правільнай лініі. Аднак на справе мы маем зусім іншае. Замест каапэраваньня бяднейшай часткі саматужнікаў—каапэруюцца ўсе, хто хоча. Асяродкам работы і ўвагі дагэтуль зьяўляецца горад, мястэчка на другім мейсцы і зусім на задворках вёска.

### На шляху найменшага супраціўленьня.

Саматужна-прамысловая каапэрацыя Беларусі пад канец 1928 году налічвае пайшчыкаў да 11.000 чалавек, асноўная маса якіх знаходзіцца ў гарадох (51 проц.), рэшта ў мястэчку (39 проц.) і вёсцы (18 проц.). За апошні год каапэрацыя перажыла асабліва бурны рост. У лічбах гэта будзе рост на 6.798 чалавек ці на 163,5 проц., але мы тут павінны даць ацэнку: ці нармальна праходзіў гэты рост. Лічбы, якія маюцца ў нашым распараджэньні, гавораць пра зусім іншае. Яны гавораць нам, што каапэраваньне ішло галоўным чынам за лік прамысловых аб'яднаньняў, што працуюць на дэфіцытнай сыравіне (абутковы, швэйны, панчошна-трыкатажны сырэц), прычым гэты рост зусім зьмяніў тыя суадносіны, якія былі ў саматужна-прамысловай каапэрацыі паміж арцелямі працуючымі на дэфіцытнай і недэфіцытнай сыравіне. Калі ў 1927 г. у арцелях, што працуюць на дэфіцытнай сыравіне, было 1.134 чал., то ў 1928 г. такога тыпу арцелі аб'яднаюць 5.374 чал.—рост на 374 проц.

За той-жа самы час лік пайшчыкаў у арцелях, што працуюць на недэфіцытнай сыраэвіне, узрос з 3.025 да 5.583, г. зн. на 84,6 проц.

Гэтыя лічбы сьведчаць нам аб тым, што кіруючыя органы саматужна-прамысловай каапэрацыі заместа грунтоўнай работы па аб'яднаньню шырокіх мас саматужнікаў-адзінак у вытворчыя арцелі пайшлі *па лініі найменшага супраціўленьня, па лініі задаваленьня дэфіцытнай сыравінай, адзінак-саматужнікаў, фармальна аб'ядняючы іх у арцелі.*

Каб характэрызаваць фармальны падыход да справы аб'яднаньня ў арцелі саматужнікаў, што працуюць на дэфіцытнай сыравіне, прывядзем толькі дзьве лічбы. На 1-Х—1927 г. было аб'яднана гэтым відам арцеляў у мястэчках толькі 227 чал., а на 1-Х—1928 г. ужо 2.039 чалавек. За год (трэба дадаць, што гэты год быў пэрыядам вострага недахопу сырцу на рынку), такім чынам, толькі ў мястэчку лік каапэраваных на дэфіцытнай сыравіне ўзрос на 789 проц., пры росьце ліку каапэраваных на недэфіцытнай сыравіне на 53 проц. Было-б сьмешна наогул казаць, што рост амаль на 800 проц. зьяўляецца нармальным ростам каапэрацыі і запісаць яго як дасягненьне.

Можна загадзя сказаць,—добрая палова такіх, што нарасьлі як грыбы пасьля дажджу, арцеляй распадзецца, як толькі зьнікне сыравінны голад і на рынку будзе досыць скуры, мануфактуры і інш. З гэтага вынікае, што арганізацыйная справа пастаўлена дрэнна. *Гэта—першая хвароба.*

## Вёска на задворках.

Другім пытаньнем, у якім ня ўсё добра, ёсьць каапэраваньне сялян-саматужнікаў у вёсцы.

Тут трэба прызнаць, што дырэктывы партыі выконваюцца вельмі слаба. Яшчэ Х зьезд КП(б)Б накіраваў увагу на неабходнасьць пашырэньня саматужна-прамысловай каапэрацыі ў вёсцы. ЦК КП(б)Б у лютым 1928 г. зусім ясна сказаў: „Белсаматужпрамсаюзу, працягваючы работу па разгортваньню каапэраваньня саматужнікаў у горадзе і асабліва ў мястэчках, больш аддаць увагі разьвіцьцю сеткі саматужнай каапэрацыі на вёсцы і каапэраваньня вясковых саматужнікаў, не абмяжоўваючы работу выключна ў горадзе і мястэчку“.

Гэта-ж самае ня раз было падкрэсьлена ў пазьнейшых пастановах кіруючых парторганаў.

Што-ж мы маем цяпер? Па некаторых дагадках і разважаньнях працаўнікоў Белсаматужпрамсаюзу можна думаць, што каапэраваньне сялян павялічылася за апошні год да 1.900 чалавек па ўсёй Беларусі (на 4 мл. сялянства). Але-ж паколькі гэта толькі дагадкі і разважаньні (бо ў Белсаматужпрамсаюза больш менш дакладных лічбаў няма), дык і гэтай лічбе цяжка паверыць. Таксама адсутнічае вучот па нацыянальнасьці. Можа гэта тлумачыцца настроямі некаторых таварышоў, якія лічаць што „саматужнікі—гэта толькі яўрэі“, таму работу трэба праводзіць толькі ў горадзе і ў мястэчку, можа яшчэ чым, ва ўсякім разе рашэньні партыі аб пашырэньні справы каапэраваньня сялян-саматужнікаў з вясковай беднаты, выконваюцца вельмі марудна, калі не сказаць ня выконваюцца зусім і ў гэтым напрамку трэба зараз націснуць. Партыя дае дырэктывы не для таго, каб аб іх „вольно“ ці „невольно“ забываліся. *Гэта другая хвароба.*

У напрамку каапэраваньня саматужніка-бедняка беларускай вёскі мы ў праве чакаць рэзкага пералому.

### Пра сацыяльны склад.

З боку грамадзкай думкі, за апошні час склаўся погляд, што ў саматужна-прамысловай каапэрацыі каапэруюцца гандляры, спэкулянты і г. д. У цэлым гэта, вядома, паклёп, неабгрунтаванае абвінавачаньне кіраўніцтва каапэрацыі і не адбівае сапраўднасьці, хаця таксама неабгрунтаванымі, зусім неправільнымі, *нават шкоднымі зьяўляюцца спробы паасобных кіраўнікоў сам.-прам. каапэрацыі ўсё паказаць у ружовым колеры.*

Ці маюць кіраўнікі сам.-прам. каапэрацыі магчымасьць сказаць, што сацыяльны склад саматужных арцеляй здавальняючы? *Не, ня маюць.* Ніякага дыфэрэнцыраванага вучоту пайшчыкаў да гэтага году не вялося. Пры арганізацыі і пры прыёме ў пайшчыкі быў адзін падыход „усе саматужнікі“. Зусім правільна кажуць некаторыя таварышы, што Белсаматужпрамсаюз—гэта „Загс“, які толькі займаўся рэгістрацыяй новых арцеляй, зусім не цікавячыся, хто ўваходзіць у гэтыя арцелі. У выніку таго вельмі часта можна знайсьці там буйнога і сярэдняга гандляра, моцнага кулака, моцнага саматужніка-ўласьніка і г. д. Ды гэта і зразумела. *Пры адсутнасьці кантролю і ўвагі ад органаў* каапэрацыі і пры наяўнасьці напору з боку заможных элемэнтаў часта ў арцелі арганізуюцца моцныя саматужнікі, без чаго ім недаступны сырэц. *У выніку такога становішча фонды дэфіцытнага сырцу* (якія далёка не задавальняюць усіх патрэб), *адпушчаемыя дзяржаваю, замест блізкага савецкай уладзе саматужніка-бедняка, часта пападаюць, дзякуючы ратазейству і нядбайнасьці з боку кіраўнікоў у лапы сацыяльна чужых і варожых нам элемэнтаў—гандляроў, моцных саматужнікаў і кулакоў.*

Аб тым, што пры арганізацыі арцеляй не праводзіцца клясавы адбор, сьцьвярджаюць галерэі фактаў зьмешчаных у друку.

Мы тут прывядзем толькі прыклад з работы Магілеўскага Саюзу. Арцель „Хімтруд“ налічвае ў сваім складзе 9 асоб, з якіх 4 асобы маюць маёмасьць каштоўнасьцю да 1500—2000 руб. кожны (лічбы і факты ўзяты з запоўненых *імі* анкет, а на справе яны больш багатыя, чым гэта паказана ў анкетах). Дзякуючы гэтаму складу, арцель замкнулася ў вузкае кола і ня мае імкненьняў да пашырэньня.

Арцельлю „Смалахім“ (там сама ў Магілёве), кіруюць уласьнікі былых смалакурных заводаў. На першым жа пасяджэньні праўленьня яны сабе прызначылі пэнсію ад 175 да 200 р. у месяц.

Тое самая наглядаецца ў цэлым шэрагу арцеляй ва ўсіх акругах.

Характэрныя заявы паасобных кірункаў камуністаў з поваду гэтага: „у гэтым асаблівага нічога няма“ (т. Айзенштат—Магілёў), альбо што „у савецкім саюзе ўсе павінны мець працу“ (тав. Зельдовіч—Менск); „гандляроў, спэкулянтаў зусім нязначная праслойка, савецкая грамадзкасьць (друк і насельніцтва) маюць няправільны погляд на каапэраваньне“ (т. Брыскін—Белсельматужпрамсаюз) і інш.

Факты, асобныя заявы і адсутнасьць лічбаў аб сацыяльным складзе, аб дыфэрэнцыяцыі яго, аб засьмечанасьці апарата сац. чужым элемэнтам гавораць нам, што ў кіраўніцтве саматужна-прамысловай каапэрацыі ня ўсе добра. Паасобныя таварышы, замазваючы сапраўднае становішча, не даюць магчымасьці, ва ўсякім разе не садзейнічаюць выкрываць факты ці не называюць—факты сваімі імёнамі. Часта ў апаратах кіруючых органаў сам.-прам. каапэрацыі ў пераважнай большасьці сядзяць людзі, якія нічога агульнага ня маюць з савецкай уладай і савецкай гарамадзкасьцю.

*Гэта ёсьць трэцяю балячкаю сам.-прам. каапэрацыі, якая патрабуе безадкладнае апэрацыі.*

У гэтым артыкуле мы не закранаем ня менш важных пытаньняў, як, напрыклад, якасьць прадукцыі саматужна-прамысловых арцеляй, а якасьць вельмі нізкая, „кустарная“, як кажуць, неразьберыху ў зарплаце, дзе з аднаго боку наглядаюцца хістаньні ад 50 да 300 рублёў у месяц у розных арцелях, а з другога боку нічым несхаванае абіраньне спажыўца, калі сябры якое-небудзь арцелі бяруць на месяц да 250—300 р., ня зьніжаючы цэн на свае вырабы; ненармальнае снабжэньне сырцом; пытаньні шырокай арганізацыі ў вёсцы працаёмкіх арцеляй па вырабу будаўнічых матар'ялаў, асабліва цэглы.

Гэтыя пытаньні патрабуюць больш дакладнага і падрабязнага высьвятленьня ў асобным артыкуле.

У хуткім часе будзе праходзіць перавыбарчая кампанія органаў сам.-прам. каапэрацыі, таму перад усімі арганізацыямі і савецкай грамадзкасьцю паўстае задача рашучай ачысткі, у першую чаргу выбарчых органаў, ад сацыяльна-чужых і клясава-варожых элемэнтаў.

У другую чаргу неабходна прачысьціць зьверху да нізу ўвесь каапэратыўны апарат і склад пайшчыкаў.

*У перавыбарчую кампанію канечна патрэбна шырока разгарнуць самакрытыку, разварушыць блізкія да пралетарыяту пласты саматужнікаў і ўсіх працоўных.* Саматужнікам, што зарабляюць хлеб сваім мазалём, не ў дарогу з буйным гандляром, спэкулянтам, кулаком і моцным уласьнікам-саматужнікам.

*Толькі праз шырокую самакрытыку, падняўшы масы блізкіх нам саматужнікаў гораду, мястэчка і вёскі, можна будзе выявіць і вычысьціць тых, што папрымазваліся. Самакрытыка будзе за лекі хворай арганізацыі.*

Спробы набліжэньня нэпмана, былога гандляра, праз сам.-прам. каапэрацыю, да савецкае ўлады зьяўляюцца спробамі паслабіць дыктатуру пралетарыяту.

Таму тым, якія кажуць сёньня, што „ў Савецкім Саюзе ўсе павінны працаваць“ (жыві і жыць давай другім—*А. С.*), а заўтра скажуць, што ў Савецкім Саюзе ўсе павінны кіраваць, трэба моцна даць па руках.

---

# НАША ТРЫБУНА

М. КАРКЛІН.

## Зусім недапушчальнае вузкае месца.

(*З паказальнікаў гаспадарчае кан'юнктуры за кастрычнік—люты м-цы*).

I.

Адначасова з хуткім тэмпам росту ўсяе народнае гаспадаркі і асабліва яго сацыялістычнага сэктару мы маем і шэраг цяжкасьцяй, якія выкліканы, галоўным чынам, усё яшчэ нізкім тэхнічным узроўнем народнае гаспадаркі БССР з абвостранаю клясаваю барацьбою на пэўным этапе сацыялістычнага будаўніцтва і іншымі яшчэ нязжытымі гістарычнымі дыспрапорцыямі ў народнай гаспадарцы Беларусі.

Усё гэта зьяўляецца тымі аб'ектыўнымі момантамі, якія, дзякуючы энэргічнай рабоце і ўвазе ўсяе партыі, набылі значнае паляпшэньне. Вось як вызначае гэта XII зьезд КПБ:

„Сваечасовая ўвага з боку ЦК, энэргічная работа ўсяе КПБ па ўхіленьню гэтых цяжкасьцяў забясьпечыла значнае зьмякчэньне іх, перамогу над часткаю з іх і ў агульным нясупынны рост народнае гаспадаркі“ (з пастановы XII зьезду КПБ).

З гэтага мы бачым, што апошнім зьездам партыі было канстатавана, што ў агульным усе цяжкасьці былі значна памякчаны тэю работаю, якая праводзілася партыяй у цэлым, але, не ўважаючы на гэта, XII зьезд ні на хвіліну не паслабляе ўвагі і на далейшае на гэтыя цяжкасьці, а, наадварот, папярэджвае, што:

„адабраючы поўнасьцю ўсю прароблену ЦК работу па складаньню пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі Беларусі і ўлічваючы вялікую напружананасьць і цяжкасьці, якія будуцьісьці роўналегла з яго выкананьнем, XII зьезд КПБ заклікае ўсю партарганізацыю мабілізаваць увагу, усе сілы і ўвесь энтузіязм партыі і рабочае клясы на задачах гаспадарчага будаўніцтва“. (З пастанову XII зьезду КПБ па дакладу ЦК).

Выходзячы з гэтых дырэктыў партыі, неабходна сваечасова завастраць вузкія мясьціны нашае работы для таго, каб лепш зрабіць адпаведны ўдар для ўзмацненьня і мабілізацыі ўвагі вакол усяе партыі і рабочае клясы.

II.

Асноўныя вынікі гаспадарчага разьвіцьця БССР у першым квартале гэтага году як і ў студзені і ў лютым месяцах паказваюць у агульным прыкметны рост як супроць першага кварталу 1927-28 г., так і ў параўнаньні з сярэдня-квартальным узроўнем мінулага году.

Але затое па некаторых паказальніках важнейшых вучасткаў работы, мы маем справу з пагоршаньнем дынамікі паказальнікаў. Гэта асабліва рэзка адзначаецца па рэспубліканскай прамысловасьці і асабліва па частцы становішча *вытворчасьці і дысцыпліны працы.*

Рост валавое прадукцыі па рэспубліканскай прамысловасьці ВСНГБ:

| Рост, які меркаваўся па кантрольных лічбах на 1928—29 год | У %% да 1927-28 г. | Фактычны рост за першы квартал 1928—29 году | |
|---|---|---|---|
| | | У параўнаньні з 1-м кварталам 1927—28 г. | У параўнаньні з сярэд. кварт. вынікамі за 1927—28 г. |
| Па пераліч. прамысл. . . . | 118,5 | 113,2 | 88,0 |
| „ шкляной „ . . . | 105,8 | 129,3 | 113,4 |
| „ мэталёапр. „ . . . | 125,0 | 131,2 | 120,5 |
| „ ільнапрадз. „ . . . | 131,8 | 93,2 | 97,4 |
| „ кравецкай „ . . . | 195,0 | 261,5 | 149,5 |
| „ панч.-трыкатажн. прамысл. . . | 286,0 | 171,7 | 146,9 |
| „ скур.-абутковай „ . . | 154,0 | 166,0 | 140,8 |
| „ запалкавай „ . . | 158,3 | 145,6 | 124,7 |
| „ вытв. хэм. крэйды „ . . | 233,7 | 204,1 | 174,1 |
| „ харчовай „ . . | 119,8 | 88,7 | 108,4 |
| „ тытуновай „ . . | 93,0 | 131,3 | 121,9 |
| „ дрэваапрацовачнай „ . . | 110,2 | 129,3 | 111,2 |
| „ папяровай „ . . | 113,3 | 121,4 | 113,1 |
| „ акулярвай „ . . | 243,2 | 126,4 | 103,5 |
| „ друкарскай „ . . | 140,1 | 113,8 | 110,8 |

Такім чынам, мы бачым, што не ўважаючы на бясспрэчны рост валавое прадукцыі пераважнае большасьці галін у параўнаньні з 1-м кварталам 1927—28 году (за выключэньнем ільнапрадзільнае і харчовае) гэты рост усё-ж такі не дасягае па шмат якіх галінах вызначанага сярэдня-гадавога росту валавое прадукцыі па кантрольных лічбах.

Што-ж тычыцца студзеньскіх даных, дык вытворчыя вынікі даюць супроць сьнежаньскіх даных зьмены, якія ў агульным не паляпшаюць, а нават пагоршваюць становішча, як, напрыклад:

| | | |
|---|---|---|
| Ільнапрадзільная | дае рост валавое прадукцыі на . . | 2,7 проц. |
| Панчошна-трыкатажн. | „ „ „ „ „ . . | 19,2 „ |
| Запалкавая | „ „ „ „ „ . . | 2,4 „ |
| Харчовая | „ „ „ „ „ . . | 0,5 „ |
| Папяровая | „ „ „ „ „ . . | 1,8 „ |
| Шкляная | „ „ „ „ „ . . | 4 „ |
| Мэталяапрацовачная | дае скарачэньне валавое продукцыі на . | 5,3 проц. |
| Кравецкая | „ „ „ „ „ . | 18,5 „ |
| Скур-абутковая | „ „ „ „ „ . | 15,5 „ |
| Дрэваапрацовачная | „ „ „ „ „ . | 0,6 „ |
| Акулярная вытворч. | „ „ „ „ „ . | 14,3 „ |
| Шчацінная | „ „ „ „ „ . | 14,7 „ |

Лютаўткія дадзеныя ў параўнаньні са студзеньскімі ў агульным паказваюць далейшае пагоршаньне, напрыклад:

| | | |
|---|---|---|
| Мэталяапрацовачная дае рост валавое прадукцыі на . . . | 7,2 | проц. |
| Ільнапрадзільная „ „ „ „ „ . . . | 2,2 | „ |
| Кравецкая „ „ „ „ „ . . . | 17,9 | „ |
| Скурана-абутковая „ „ „ „ „ . . . | 6,4 | „ |
| Дрэваапрацовачная „ „ „ „ „ . . . | 8,2 | „ |
| Папяровая „ „ „ „ „ . . . | 2,5 | „ |
| Акулярная „ „ „ „ „ . . . | 26,4 | „ |
| Шчацінная „ „ „ „ „ . . . | 18,3 | „ |
| Вытворч. крэйды „ „ „ „ „ . . . | 2,7 | „ |
| Панчошн.-трыкатажная дае скарачэньне валав. прадукцыі на . | 2,0 | „ |
| Запалкавая „ „ „ „ „ . | 4,8 | „ |
| Тытуновая „ „ „ „ „ . | 2,9 | „ |
| Хлопка-папяровая „ „ „ „ „ . | 1,1 | „ |
| Броварная „ „ „ „ „ . | 12,3 | „ |
| Харчовая „ „ „ „ „ . | 12,3 | „ |

Што-ж тычыцца *дзеннага выработку* аднаго рабочага, які ў сярэднім па ўсёй прамысловасьці даў рост у кастрычніку і лістападзе, дык у сьнежні ён застаўся на ўзроўні лістападу, а ў студзені даў нават падзеньне супроць сьнежня на 3,4 проц. (вылічэньне ў даваенных цэнах); па асобных галінах гэта малюецца так:

| | | |
|---|---|---|
| па мэталяпрамысловасьці зьніжэньне на . . . | 2,7 | проц. |
| „ кравецкай „ „ „ . . . | 15,0 | „ |
| „ скураной „ „ „ . . . | 10,7 | „ |
| „ абутковай „ „ „ . . . | 2,7 | „ |
| „ дрожджавай „ „ „ . . . | 7,1 | „ |
| „ піваваранай „ „ „ . . . | 11,9 | „ |
| „ дрэваапрацов. „ „ „ . . . | 2,6 | „ |
| „ ільнапрадзільн. „ павышэньне на . . | 0,6 | „ |
| „ панчошна-трыкатажнай „ „ „ . . | 5,5 | „ |
| „ маслабойнай „ „ „ . . | 3,2 | „ |
| „ тытуновай „ „ „ . . | 4,9 | „ |
| „ папяровай „ „ „ . . | 2,9 | „ |
| „ шпалернай „ „ „ . . | 23,9 | „ |

Лютаўскія дадзеныя не выратоўваюць становішча, а ідуць па далейшаму пагоршаньню паказальнікаў росту вытворчасьці працы, прыкладна:

| | | |
|---|---|---|
| па мэталя-апрацовачнай прамысл. павышэньне на . . . | 8,8 | проц. |
| „ кравецкай „ „ „ . . . | 22,6 | „ |
| „ скур.-абутковай „ „ „ . . . | 16,4 | „ |
| „ піваваранай „ „ „ . . . | 4,3 | „ |
| „ дрэваапрацовачнай „ „ „ . . . | 5,2 | „ |
| „ ільнапрадзільнай „ „ „ . . . | 4,6 | „ |
| „ папяровай „ „ „ . . . | 6,7 | „ |
| „ шпалернай „ „ „ . . . | 14,4 | „ |
| „ абутковай „ зьніжэньне „ . . . | 0,4 | „ |
| „ дрожджавай „ „ „ . . . | 8,9 | „ |
| „ панч.-трыкатажнай „ „ „ . . . | 8,3 | „ |
| „ маслабойнай „ „ „ . . . | 2,7 | „ |
| „ тытуновай „ „ „ . . . | 5,3 | „ |

і гэта пры значна большым росьце зарплаты, чым запраэктавана па кантрольных лічбах прамысловасьці.

Такім чынам, мы бачым, што адзін з галоўнейшых вучасткаў работы знаходзіцца пад пагрозаю зрыву выкананьня плянавых меркаваньняў гаспадарчага пляну з усімі адсюль выцякаючымі вынікамі, г. зн. набываньнем меншага тэмпу росту ўдзельнае вагі прамысловае, валавое прадукцыі ва ўсёй народнай гаспадарцы, меншага выкідваньня прамысловых тавараў на рынах, меншага накапленьня ў самой прамысловасьці, меншай магчымасьці разгарнуць прамысловае будаўніцтва з меншым павялічэньнем—па тэмпу росту—рабочае клясы.

Выходзячы з такога становішча, ужо па кан'юнктуры 1-га квартала была дадзена цьвёрдая дырэктыва:

„ адзначаючы няспрыяючыя тэндэнцыі ў дынаміцы прадукцыйнасьці працы і зарплаты, якія ідуць у разрэз з плянавымі меркаваньнямі, даручыць Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі разгарнуць з удзелам прафэсыянальных саюзаў кампанію па павышэньню прадукцыйнасьці працы, як і перагляд норм расцэнкі, таксама і за большае падвышэньне эфэктыўнасьці правядзеньня рэканструкцыі і лепшага выкарыстоўваньня сыравіны, паставіўшы гэтыя пытаньні на вытворчых нарадах сярод шырокіх рабочых мас, а таксама і на старонках друку“. (З пастаноў па кан'юнктуры 1-га кварталу).

Але, не ўважаючы на тое, становішча яшчэ пагоршылася, што хоць часткова і тлумачыцца аб'ектыўнымі момантамі, але-ж у большай частцы выключна залежыць ад момантаў суб'ектыўнага характару.

XII зьезд партыі скончыў сваю работу ў сярэдзіне лютага, дзякуючы чаму ён здолеў ужо па гэтаму поваду значна вастрэй паставіць пытаньне і патрабаваў ад гаспадарнікаў і прафэсыянальных арганізацый, як і ўсяе партыі, ужыць шэраг захадаў да паляпшэньня якасных паказальнікаў прамысловасьці, у прыватнасьці павялічэньня прамысловае прадукцыі, падняцьця прадукцыйнасьці працы, дабіцца высокае працоўнае дысцыпліны ў вытворчасьці, зьніжэньня сабекаштоўнасьці прадукцыі, паляпшэньня якасьці і г. д.

Кажучы словамі зьезду: „Гэта магчыма дасягнуць пры ўмовах разьвіцьця самае шырокае і глыбокае масавае палітычнае работы сярод рабочых, самай шырокай, сьмелай і няшчаднай самакрытыкі, канцэнтрацыі ўвагі ўсяе рабочае клясы на барацьбе з недахопамі на вытворчасьці, рашучай барацьбе ўсіх масавых арганізацый і ўсіх рабочых з разгільдзяйствам, п'янствам, хуліганствам, рвацтвам і ўсялякімі непралетарскімі, несьвядомымі аносінамі да вытворчасьці, і самага жывога, актыўнага „ўдзелу мас у гаспадарчым будаўніцтве“.

А на самай справе, што мы маем? Мы маем па шэрагу паказальнікаў, наадварот, пагоршаньне пасьля такіх розных паказаньняў партзьезду.

Мы маем яснае паслабленьне працоўнае дысцыпліны і павялічэньне прагулаў. Мы ўсё яшчэ ня маем дастаткова разгорнутае крытыкі і самакрытыкі саміх рабочых мас і рабочых арганізацый для ўхіленьня гэтых недахопаў. Мы ня бачым па нашым пэрыядычным друку, каб ён сапраўды пабальшавіцку, папралетарску так разгарнуў-бы агонь бічаваньня *адсталых* заводаў, цэхаў і кіраўнікоў, як гаспадарнікаў, так і прафэсыянальных работнікаў,—за невыкананьне плянавых, гаспадарчых заданьняў. Мы нават маем такія зьявішчы, калі хто-кольвечы хоча ўсе гэтыя недахопы апраўдаць марозамі, адсутнасьцю сыравіны і г. д. Праўда, і гэтыя моманты трохі адбіліся, але толькі трохі і ня больш таго. Рэшту ў большасьці сваёй трэба аднесьці на няўмельства арганізаваць, сваячасова і ўмела нанесьці ўдар з боку саміх рабочых мас па хворых мясцох нашага будаўніцтва.

Арганізацыйная неналаджанасьць у некаторых выпадках дайшла ўжо да таго, што за апошнія месяцы ў ВСНГБ яшчэ ў першых лічбах

сакавіка амаль што ня мелася дадзеных ад прадпрыёмстваў і трэстаў аб становішчы зьніжэньня сабекошту па прамысловасьці, а тыя адрывачныя весткі, што былі, нічога добрага ілюстраваць не маглі.

Што-ж, выходзячы з усяго сказанага, застаецца рабіць? Ня больш як выканаць тое, аб чым гаворыцца ў рашэньнях парт'зьезду і дырэктывах, якія маюцца па гэтаму пытаньню:

1. Дамагчыся, каб у карацейшы час была яшчэ больш рэзка ўзьнята масавая пралетарская траўля супроць элемэнтаў расхлябанасьці, распушчанасьці і г. д., якія зрываюць працоўную дысцыпліну на вытворчасьці, з боку каго-б гэта ні было.

2. Паўней правесьці ў жыцьцё палажэньне аб самастойнасьці і адказнасьці дырэктароў заводаў і прадпрыёмстаў, змагаючыся жорстка супроць хвасьцізьму і прымірэнцтва да недахопаў, якія маюцца.

3. Зьдзейсьніць на справе прынятыя рашэньні ў роўназначнай адказнасьці за становішча прадпрыёмстваў і працоўнае дысцыпліны як гаспадарнікаў, так і прафэсыянальных работнікаў.

4. Фарсіраваным парадкам правесьці работу па перагляду ўстаноўленых норм выработку, як і арганізаваць пры дапамозе ўсіх арганізацый (прафсаюз, ЛКСМБ, вытворчыя нарады) вытворчы агляд нашых прадпрыёмстваў.

5. Шырэй паставіць увядзеньне ў жыцьцё так званых чорных дошчак, бясспрэчнага падпарадкаваньня аднэй асобе пры выкананьні працоўных працэсаў, аб якіх *Ленін* гаварыў яшчэ ў 1918 годзе.

6. Скараціць да мінімуму ўсялякія зьезды, нарады, камадыроўкі, якія адцягвалі-б ад справы ў часе вытворчае работы вялікую колькасьць рабочых і заводзкіх спэцыялістых.

7. Устанавіць бясспрэчную (асабовую) адказнасьць перад ВСНГБ трэстаў і заводаў, якія абавязаны пунктуальна падаваць веды ад ходзе выкананьня гаспадарчых дырэктыў.

8. ВСНГБ унесьці зараз-жа адпаведныя зьмены ў прамфінплян па тых галінах, якія адстаюць і таксама па тых, якія могуць больш даць, чым запраэктавана, маючы на ўвазе тое, што пры сучасным тэмпе сацыялістычнага будаўніцтва наогул ня можа быць напружаных тэмпаў росту ў народнай гаспадарцы, а тым больш па прамысловасьці.

9. Акрвыканком і РВК у бліжэйшыя дні як мага праверыць, што са справаю ў мясцовых і акрвыканкомаўскіх прадпрыёмствах, бо там гэта куды горш у параўнаньні з дзяржпрамысловасьцю, яны ў большасьці выпадкаў ідуць самацёкам, а ня шляхам плянавага рэгуляваньня і кіраўніцтва.

10. Аднагасова неабходна вывучыць і ўзмацніць усе тыя дробныя моманты, якія могуць уплываць на ўздым прадукцыйнасьці працы і працоўнае дысцыпліны, тут усялякія чаргі як у самім цэху, так і каля крам у часе перапынку работ недапушчальны, як і неабходна пераглядзець яшчэ раз (ад гэтага горш ня будзе) сетку крам і магазынаў, што гандлююць прадуктамі харчаваньня, яслёў, дзіцячых садоў і вінных крам,—першыя тры павінны быць пашыраны, апошнія-ж яшчэ больш скарочаны і аднесены ад заводзкіх раёнаў і прадпрыёмстваў.

---

Зразумела, што гэтыя мерапрыёмствы павінны быць яшчэ дэталізаваны і праведзены цьвёрдаю, пралетарскаю рукою. Наш усё яшчэ нізкі культурны ўзровень выкліча ў шмат якіх выпадках і супраціўленьне, да гэтага мы павінны быць гатовы, а адпаведна з тым больш узмацніць і культурную і агітацыйна-прапагандысцкую работу сярод шырокіх мас рабочых на самых прадпрыёмствах і ў клюбах па вышэйпаданых тэмах.

---

# НА МЯСЦОХ

*УЛ. НАРТЫШ-БЛУК.*

## Падрыхтоўчая работа да чысткі партыі.

Надыходзячая чыстка партыі ёсьць аднэй з важнейшых палітычных задач, што стаіць перад усёй УсеКП, павінна быць цьвёрда ўсьвядомлена ўсёй партыйнай масай і грунтоўна прапрацована для таго, каб да гэтае падрыхтоўчае работы падысьці з максымальнай сур'ёзнасьцю. Чыстка партыі дасьць свае станоўчыя вынікі толькі тады, калі да яе будуць прыцягнуты лепшыя перадавыя сілы арганізацыі і вакол яе будзе змабілізавана ўвага і актыўнасьць усяе партыйнае масы. Тады толькі разгорнецца шырокая крытыка і самакрытыка, калі вакол пытаньня чысткі партыі будзе змабілізавана ўвага шырокіх беспартыйных рабочых і сялянскіх мас, бо з правядзеньнем чысткі перад партыяй адначасна стаіць ня менш важная задача ўцягваньня ў партыю лепшых прадстаўнікоў прамысловых рабочых, батракоў і вясковае беднаты.

Што патрабуецца, каб выканаць гэтую адказную задачу?

Ці падрыхтаваны да гэтага партыйныя арганізацыі, ячэйкі і ўся партыйная маса?

Трэба сказаць, што падрыхтоўчая работа да надыходзячае чысткі партыі яшчэ толькі разгортваецца. Партыйныя арганізацыі, не ўважаючы на 4-х месячнае абгаварэньне гэтага пытаньня, пасьля рашэньня Лістападаўскага Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП, яшчэ масава і практычна не распачалі разгортваць падрыхтоўкі, а гэта трэба рабіць ужо цяпер.

Адгэтуль вынікаюць наступныя задачы: неадкладнасьць прапрацоўкі ва ўсіх арганізацыях і ячэйках пытаньня аб падрыхтоўцы да чысткі партыі, на падставе рашэньня XII Зьезду КП(б)Б, увязваючы чыстку партыі з пытаньнем рэгуляваньня росту яе і вербаваньня новых пралетарскіх кадраў у партыю. Для гэтага неабходна: паставіць папярэдне пытаньне на ўсіх адкрытых партыйных сходах ячэек, папярэдне правёўшы інструктыўныя нарады па раёнах з сакратарамі і членамі бюро ячэек, вызначыць асноўныя моманты (разгортваньне самакрытыкі, узьняцьце актыўнасьці мас, найстрогае захаваньне прынцыпаў унутрыпартыйнае дэмакратыі і г. д.). Трэба распачаць вывучэньне ячэек, іх дзейнасьці, паасобных членаў партыі, правільнасьці правядзеньня імі партыйнае лініі, іх дысцыплінавасьці, бальшавіцкае стойкасьці. Усе гэтыя матар'ялы сыстэматызаваць, падрыхтоўваючы характарыстыкі на ячэйкі і на паасобных членаў партыі, праверяючы асобныя моманты некамуністычных паводзін паасобных членаў партыі, выяўляючы чужы непатрэбны партыі элемэнт. Такі элемэнт павінен быць выяўлен у працэсе гэтае падрыхтоўчае работы, а дзеля таго, што пасьпяховасьць яе цалкам залежыць ад удзелу шырокіх працоўных мас, неабходна апрача сходаў ячэек ставіць пытаньні пра чыстку партыі і на сходах рабочых заводаў, фабрык, прадпрыемстваў, на сходах беднаты, сходах батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых. Уся гэтая маса ня мала ведае кожнага члена партыі і можа даць шмат

аштоўнага матар'ялу. Ёсьць выпадкі, калі парт'ячэйкі не заўсёды обра ведаюць сваіх членаў, а беспартыйная маса, спатыкаючыся ў штодзённым жыцьці, у быту, на фабрыцы, у вёсцы, ведае іх больш.

Неабходна правесьці нарады рабселькораў, насьценкораў і мабілізаваць іх увагу, прыцягваючы іх да ўдзелу ў гэтай справе.

Бяручы пад увагу асаблівасьць умоў гораду і вёскі і кожнага прадпрыемства і ўстановы паасобку (а асаблівасьці гэтыя ёсьць), неабходна мэтады работы па падрыхтоўцы прыстасоўваць у залежнасьці ад умоў, не даючы магчымасьці варожым партыі групам выкарыстаць чыстку партыі ў сваіх асабістых мэтах і ў мэтах дыскрэдытацыі партыі.

Наглядаюцца ўжо выпадкі, што кулацкія элемэнты вёскі пачынаюць зьбіраць свае закрытыя сходы і „прапрацоўваць" пытаньне пра чыстку партыі, каб выкарыстаць гэты момант у сваіх клясавых інтарэсах, з мэтаю дыскрэдытацыі партыі ў вачох сялянскага насельніцтва (Чачэрскі р. Гомельскай акр.).

Таксама трэба мець на ўвазе ўсім партарганізацыям і тыя акалічнасьці, што ў пэрыяд падрыхтоўкі да чысткі і ў працэсе самае чысткі могуць мець мейсца выпадкі асабістых разрахункаў, падсьцераганьня і склочныя тэндэнцыі паміж некаторай часткі партыйцаў. Таму партактыў і таварышы з кіраўніцтва павінны будуць з належнай асьцярогаю падыходзіць да розных абвінавачаньняў, заяў, прымаючы адначасна захады да праверкі фактаў, да ўважлівага выяўленьня такіх момантаў з тым, каб не рабіць памылак і не даваць неправераны матар'ял камісіі па чыстцы.

У аснову надыходзячае чысткі партыйных шэрагаў павінны быць пакладзены не асобныя ўчынкі членаў партыі (яны таксама павінны прымацца пад увагу і з імі павінна весьціся барацьба выхаваўчага характару), а агульная прыдатнасьць кожнага, хто носіць імя камуніста, для партыі, г. зн. насколькі ён аддаiы інтарэсам рабочае клясы, насколькі ён зацікаўлены партыйным жыцьцём і можа быць карысным для партыі. Для гэтага неабходна максымальна скарыстаць усе матар'ялы, якія характарызуюць стан данае парт'ячэйкі і паводзіны кожнага члена партыі.

У партарганізацыях на вёсцы трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на маёмаснае становішча членаў партыі, іх дачыненьні да пытаньня калектывізацыі сельскае гаспадаркі, наскольк яны прымаюць удзел у гэтым і як ажыцьцяўляюць дырэктывы партыі па калектывізацыі вёскі. Праверка маёмаснага становішча таксама павінна быць праведзена ў дачыненьні членаў партыі, якія працуюць у горадзе. Ёсьць шмат выпадкаў, калі члены партыі, якія знаходзяцца на сталай рабоце ў горадзе, маюць свае гаспадаркі ў вёсцы і гэтыя гаспадаркі вядуцца парадкам наёму працы, арэнды і іншымі эксплёататарскімі мэтадамі.

Былі выпадкі, калі такіх членаў партыі ў часе перавыбараў пазбаўлялі выбарчага права і толькі пасьля гэтага разглядалася пытаньне аб іх партыйнасьці.

Не заўсёды ячэйкі добра ведаюць сваіх членаў, асабліва нядаўна прышоўшых у горад і ў такіх выпадках неабходна наводзіць спраўкі, правяраць, а дзе ёсьць магчымасьць і асабова пабыць у вёсцы і высьніць, якая гаспадарка ў такога члена партыі, якім спосабам яна вядзецца, як адносіцца да яго мясцовае працоўнае насельніцтва і як ён паводзіць сябе ў вёсцы.

Правядзеньне падрыхтоўчае работы па чыстцы партыі ў кожнай арганізацыі павінна ў належнай меры мець сваё асьвятленьне ў мясцовай прэсе, у насьценгазэтах і ў парадку інфармацыі на сходах ячэек, на сходах рабочых і сходах мясцовае беднаты, з якімі павінна быць

наладжана сталая сувязь і ўстаноўлен парадак прыёму заяў на словах і на пісьме, са зьбіраньнем газэтных допісаў і карэспандэнцый, з праверкаю іх да пачатку чысткі.

Кожная арганізацыя паасобку павінна канцэнтраваць і зьбіраць гэты матар'ял, як па ячэйках, таксама і па райкомах.

Характарыстыкі на членаў ячэйкі, на аснове набытых матар'ялаў і вывучэньня, павінны складаць бюро ячэек з удзелам лепшае часткі актыву і канчаткова прымаць пажадана з удзелам прадстаўнікоў райкому. На вялікіх прадпрыемствах, дзе ёсьць цэхавыя ячэйкі, лепш за ўсё характарыстыкі канчаткова прымаць на бюро парткалектыву з удзелам сакратароў цэхавых ячэек і прадстаўніка райкому. У патрэбных выпадках характарыстыку можна даваць і ў прысутнасьці самое зацікаўленае асобы. Зразумела, што даваемыя характарыстыкі могуць быць не заўсёды поўнымі ці правільнымі, а іншы раз памылковымі і камісіі па чыстцы партыі не павінны цалкам грунтавацца на іх, а самі дакладна правяраць кожнага таварыша і выносіць сваю думку; у кожным выпадку даваць гэтыя характарыстыкі ячэйкамі неабходна.

Разгортваючы падрыхтоўчую работу па чыстцы партыі, неабходна зьвярнуць яшчэ ўвагу на недапушчальнасьць запужваньня адсталае партыйнае масы надыходзячай чысткай, як гэта дзе-ні-дзе наглядаецца. Напрыклад, некаторыя члены партыі пачынаюць аб'ясьняць наступаючую чыстку, як палітэкзаменоўку ў вузкім сэнсе гэтага слова, кажучы, што за палітняпісьменнасьць будуць выключаць з партыі, як баласт.

Канечне, палітпісьменнасьць патрэбна і партыя павінна патрабаваць і дамагацца, каб кожны камуніст быў палітычна пісьменны, але ня гэта-ж зьяўляецца асноўнай задачай чысткі партыі, а тыя моманты, аб якіх сказана вышэй. Партарганізацыі і ячэйкі павінны даць правільнае растлумачэньне партыйнай масе і не дапусьціць такіх няправільных тлумачэньняў, што скажаюць сапраўдны сэнс чысткі, у выніку чаго ёсьць выпадкі, што работніцы—члены партыі, адданыя справе рабочае клясы, падаюць загадзя заявы ў ячэйку аб іх выключэньні, як палітычна-слаба падрыхтаваных, разважаючы так, што лепш самой выйсьці з партыі, чым быць вычышчанай за палітняпісьменнасьць і тым скампрамэтавацца ў вачох сваіх таварышоў.

Супроць такога разуменьня чысткі партыі трэба зараз-жа павесьці разьясьняльную работу, падкрэсьліваючы, што партыя павінна ачысьціцца перш за ўсё ад непатрэбнага, гнілога, чужога элемэнту, які кампрамэтуе партыю сваімі паводзінамі, выкрыўляе лінію партыі, пярэчыць правядзеньню мерапрыёмстваў партыі па сацыялістычнаму будаўніцтву, падтрымлівае сувязь з кулаком і нэпманам, зусім ня цікавіцца жыцьцём партыі і не дае ёй ніякае карысьці, а часамі шкодзіць.

Прычым партарганізацыі ў дачыненьні да такіх асоб, пры наяўнасьці даных, зусім не павінны чакаць чысткі партыі, а ў штодзённай сваёй рабоце выкідаць з партыі гэтыя элемэнты, выносячы адпаведныя рашэньні.

Надыходзячая з 15 красавіка чыстка савецкага апарату некаторых ведамстваў павінна таксама быць выкарастана, як матар'ял для чысткі партыі. Няма сумненьня ў тым, што пры чыстцы савецкага апарату такія-сякія матар'ялы будуць датыкацца і членаў партыі данае арганізацыі (сувязь з чужым элемэнтам, пратэкцыянізм, замазваньне ўчынкаў, злоўжываньняў і г. д.).

І, нарэшце, апошняе пытаньне аб праверцы зноў прыбываючых у арганізацыі і аб выбываючых з яе Неабходна кожнага прыбываю-

чага з іншае арганізацыі, напярэдадні чысткі, дакладна праверыць, запытаўшы тую арганізацыю, адкуль ён узяўся і дакладна праверыць партыйныя дакуманты, яго ранейшую работу і прычыны яго выбыцьця адтуль. Гэта дае магчымасьць унікнуць памылак і промахаў пры чыстцы, як гэта мела мейсца ў мінулым, калі новапрыбываючага таварыша ніхто ня ведае ні са станоўчага, ні з адмоўнага боку і ён праходзіў чыстку, альбо праверку без заўваг; і толькі потым выяўлялася, што прыбыўшы даўно выключан з партыі ў тэй арганізацыі, дзе ён быў, або мае за сабою шмат кампрамэтуючых „хвастоў". Таксама неабходна зьвярнуць належную ўвагу ад'яжджаючым таварышам, г. зн. трэба дэтальна выясьніць, ці ня маецца за ім партыйных учынкаў і матар'ялу ў ячэйцы, прычыны яго ад'езду, яго запазычнасьць і інш., наводзячы патрэбныя даведкі і ў АК і ў АКК і толькі тады даваць яму пуцёўку і санкцыю на зьняцьце з вучоту.

Выкананьне паказаных мерапрыёмстваў па падрыхтоўцы да чысткі партыі дасьць магчымасьць з большым посьпехам і лепшымі вынікамі правесьці вельмі важную і адказную работу, як генэральная чыстка партыі.

---

*Д. ФІШБЭЙН.*

# Стан і работа ячэйкі КП(б)Б на Гомельскім заводзе с.-г. машын „Двигатель Революции“.

Партыйная і камсамольская праслойка за апошні час на заводзе значна вырасла, вырас і пашырыўся і сам завод да таго, што і не спазнаць яго. Лік рабочых значна павялічыўся. Завод, які ў гэты час ужо зьяўляецца буйнейшым прадпрыемствам на Гомельшчыне, у працягу бліжэйшых двух гадоў зробіцца сапраўды волатам Беларусі, які ўмесьціць ва ўноў пабудаваныя завадзкія карпусы, з лепшым амэрыканскім абсталяваньнем, каля 2000 чалавек. Ён зробіцца ў бліжэйшыя два гады сапраўды аграмаднаю фабрыкай па выбару сельска-гаспадарчых машын на Беларусі. Рост і разьвіцьцё гэтага заводу зьяўляецца лепшым канкрэтным паказальнікам таго, якія вялізныя посьпехі зрабіла Савецкая Ўлада ў сваім гаспадарчым разьвіцьці і паказвае, як мы сапраўды, на справе, індустрыялізуем нашу краіну. І сапраўды, завод, які да рэвалюцыі налічваў ад 35—50 рабочых, праз два гады будзе налічваць 2000 чалавек, з абсталяваньнем па апошніх словах навейшае тэхнікі. Ня меншыя посьпехі дасягнуты ў галіне росту зарплаты на заводзе, але, на-жаль, ня ўсе рабочыя заводу гэта ўсьведамляюць, як мае быць.

Партыйная ячэйка ў гэты час налічвае звыш 100 чалавек, толькі сама і камсамольскі калектыў, ёсьць досыць шырокі беспартыйны актыў, асабліва вытворчы, такім чынам, як база, таксама і ўмовы для разгортваньня партыйнае і палітычнае работы на заводзе бязумоўна здавальняючыя, але поруч з гэтымі дасягненьнямі ў гаспадарчым разьвіцьці заводу, у росьце актыўнасьці і палітычнае сьвядомасьці рабочых, у разьвіцьці партыйнага і камсамольскага калектываў трэба адзначыць выяўленыя ў апошні час найвялікшыя недахопы ў рабоце і вялікія памілкі ў кіраўніцтве на заводзе, якія тлумачацца, галоўным чынам, слабасьцю партыйнага актыву і вельмі слабым кіраўніцтвам ячэйкай.

Праверка, якая зроблена Райкомам, па пытаньнях як ажыцьцяўляюцца ў ячэйцы і на заводзе асноўныя дырэктывы партыі, па пытаньнях гаспадарчага і ўнутрыпартыйнага будаўніцтва, як выконваюцца ячэйкай дырэктывы Райкому, якія дадзены ёй пры апошнім абсьледваньні, паказалі, што ў кіраўніцтве ячэйкі маюцца вялізныя недахопы і памылкі, што ячэйка не разгарнула ў дастатковай меры сваёй работы. Вось галоўныя недахопы і памылкі ў рабоце ячэйкі: бюро ячэйкі не мабілізавала грамадзкасьць ячэйкі і рабочыя масы заводу па пытаньнях асноўных задач партыі і гаспадарчага будаўніцтва, як па пытаньнях узьняцьця вытворчасьці працы, барацьбе з прагуламі, барацьбе за якасьць прадукцыі, зьніжэньне сабекошту і г. д., бюро ячэйкі не

сканцнэтравала партыйна-камсамольскай і рабочай грамадзкасьці на барацьбе з выяўленымі злоўжываньнямі на заводзе, з праяўленьнямі антысэмітызму, іншымі шавіністычнымі настроямі і г. д.

Таксама бюро ячэйкі не завастрыла ўвагі ў дастатковай меры перад усёй ячэйковаю і рабочаю масай на пытаньнях барацьбы з праваю небясьпекаю і правым ухілам унутры партыі, асабліва маючы пад увагаю, што ў значнай частцы членаў ячэйкі няма яшчэ дастатковае яснасьці ў гэтых пытаньнях. Бюро ячэйкі ня здолела выхаваць членаў ячэйкі і накіраваць іх увагу на барацьбу з праваю небясьпекаю ў канкрэтных умовах практычнае работы на заводзе—*так бюро ячэйкі лічыла нямэтазгодным* мабілізацыю грамадзкае думкі рабочых і членаў партыі вакол злоўжываньняў, якія выяўляліся (частыя пажары, сыстэматычныя крадзяжы, імкненьне псаваць і зьніжэньне якасьці), на барацьбу з варожа настроенаю групкаю рабочых, *баючыся, што гэта перашкодзіць у рабоце „адпаведных органаў“*, гэта паказвае, што кіраўніцтва ячэйкі не зразумела значэньня і ролі шырокае рабочае грамадзкасьці ў гаспадарча-палітычным будаўніцтве краіне. Тут простая недаацэнка ролі рабочае клясы, рабочае грамадзкасьці і актыўнасьці ў барацьбе з нашымі адкрытымі і скрытымі ворагамі, і такія вурокі, як Шахцінская і Смаленская справа, як відаць, прайшлі бясьсьледна для ячэйкі, бо на практыцы гэта давяло да таго, што бюро ячэйкі, а таксама і заводзкая прафарганізацыя ня ўжылі захадаў барацьбы да раскрыцьця варожа-настроенае групы рабочых, (4—5 чал. заможных) у дачыненьні да партыі і савецкае ўлады і пагэтаму іх контр-рэвалюцыйныя дэмагагічныя частыя выпады, асабліва ў зьвязку з якімі небудзь цяжкасьцямі, ня мелі колькі-небудзь рашучага адпору з боку партыйных і прафарганізацый заводу. А яно трэба было паказаць рабочым дэмагагічныя выступленьні і гульню на цяжкасьцях з боку гэтае групкі, паказаць рабочым, як гэтыя рабочыя, якія прышлі на завод абадранымі, цяпер, папрацаваўшы ў працягу 5 год на заводзе, набылі сабе „жырныя“ гаспадаркі, трэба было выкрыць перад рабочымі іх кулацкую ідэалёгію. Бюро ячэйкі ня ўлічыла таго, што на заводзе ёсьць рабочыя, якія зьвязаны яшчэ з вёскаю, што работа на заводзе зьвязана з сялянствам наогул і пагэтаму магчымы прасяканьні сялянскіх настрояў сярод асобных рабочых і адгэтуль, адпаведная з гэтым пабудова сваёй варожае работы.

Ня былі ўжыты і дастатковыя захады да барацьбы з праяўленьнямі антысэмітызму і іншымі шавіністычнымі настроямі на заводзе. Увага рабочых заводу на барацьбе з гэтымі зьявішчамі ня была згрупавана. Ні партыйная, ні рабочая масы ня былі ўзрушаны, ня былі пастаўлены на ногі ў зьвязку з вышэйпаданымі найвялікшымі пытаньнямі. І ня дзіва, што сярод часткі членаў ячэйкі наглядаюцца прымірэнчыя адносіны да праяўленьняў антысэмітызму, агаварваючыся тым, што быццам у нас на заводзе няма такіх зьявішчаў, як гэта мела месца на „Чырвоным Кастрычніку“ і на Добрушскай ф-цы, і пагэтаму, няма чаго нам шмат гаварыць аб гэтым, бо гэта звычайнае бытавое зьявішча як вынік цямноты, або злосьці паасобных рабочых.

Наступны вялікі недахоп у рабоце ячэйкі гэта несваячасовае рэагаваньне бюро і заўкому на асобныя недарэчнасьці, непаразуменьні і неналаджанасьць у рабоце па асобных цэхах (кавальскі, дрэваапрацовачны), што выклікала частковыя нездавальненьні сярод асобных груп рабочых. Трэба таксама адзначыць вельмі маруднае рэагаваньне на артыкулы і допісы рабкораў.

Наяўнасьць склок і інтрыг сярод некаторае часьці партыйнага і профактыву, у пэўнай ступені паслала свой адбітак на практычнай дзела-

вой рабоце. Кіраўніцтва ячэйкі ня ў час і нерашуча ўскрыла і вяло барацьбу з гэтымі нездаровымі зьявішчамі ўнутры ячэйкі. Трэба адзначыць, што выхаваўчая работа ў ячэйцы знаходзіцца на досыць нізкім узроўні (з 70 чал. 27 чал. зусім нідзе ня вучацца). Значная частка з партыйнага прафактыву над узьняцьцем свайго культурна-палітычнага ўзроўню не працуе, унутрыпартыйныя пытаньні ў ячэйцы недастаткова прапрацоўваюцца, пэўная частка членаў ячэйкі прымацаваны па школах, частка з іх наведвае школу вельмі нерэгулярна.

Работа партарганізатараў, кіраўніцтва і інструктаваньне іх з боку бюро ячэйкі вельмі слабае, у выніку чаго члены і кандыдаты партыі па цэхах пры зьяўленьні тых ці іншых пытаньняў ці цяжкасьцяў ня маюць сваячаснае і рашучае ўстаноўкі ў такіх пытаньнях з боку бюро ячэйкі, як гэта паказалі дрэваапрацовачны і кавальскі цэхі. Адсутнасьць нарад парторгаў, на сходах партактыву праводзяць недастатковую прапрацоўку асобных пытаньняў ячэйкі.

Побач з вялікімі дасягненьнямі ў рабоце вытворчае камісіі і нарады, якія заваявалі значны аўтарытэт сярод рабочых, усё-ж яшчэ ёсьць значныя недахопы, значнае невыкананьне пастаноў апошніх, не інфармуюцца рабочыя аб ступені і прычынах невыкананьня, недастаткова завострана ўвага вакол пытаньняў якасьці, барацьбы з прагуламі, узьняцьці вытворчасьці працы. Недастатковая згода ў апошні час паміж кіраўнікамі вытворчае камісіі і адміністрацыяй. Усе гэтыя недахопы павінны быць зараз-жа выпраўлены.

Вельмі слабы адбітак у рабоце ячэйкі за апошні час мела прапрацоўка пытаньняў прафэсыянальна-камсамольскай работы.

Рабкораўскі рух на заводзе, работа рэдкалегіі, насьценная газэта за апошні час далёка пасунуліся ўперад, але побач з гэтым трэба адзначыць вялізны недахоп у іх рабоце, які выявіўся ў тым, што насьценная газэта вельмі слаба завастрыла ўвагу грамадзкасьці заводу вакол вышэйпаданых пытаньняў, а паасобныя вялікія пытаньні, як напрыклад: барацьба з прагуламі, якасьць прадукцыі, барацьба з антысэмітызмам, варожай групкаю рабочых, ня мелі колькі-небудзь здавальняючага асьвятленьня.

Райком рашуча асудзіў лінію партчасткі адм.-тэх. пэрсаналу і іншых таварышоў з кіраўнікоў завкому, што выявілася ў прыцясьненьні і дыскрэдытаваньні рабкора Крыштафука. Бюро ячэйкі і тут ня было на сваім месцы, каб у час і рашуча асудзіць гэтых таварышоў, ужываючы ў дачыненьні да асобных з іх суровыя партыйныя спагнаньні.

Вось тыя асноўныя буйныя недахопы і памылкі ў рабоце і кіраўніцтве ячэйкі і фракцыі завкому. Прынятыя захады Гаррайкомам КП(б)Б забясьпечваюць нам магчымасьць выправіць памылкі і ўзмацніць работу ячэйкі. Гэта будзе дасягнута тады, калі партыйны і камсамольскі калектывы возьмуцца актыўна за выпраўленьне адзначаных недахопаў. Ячэйцы і завкому трэба зараз-жа на аснове дырэктыў і вынікаў досьледу ячэйкі выправіць лінію сваёй работы і зьнішчыць яе недахопы.

---

*М. Шапіра.*

# Недахопы парткіраўніцтва на заводзе „Прафінтэрн“.

*(Барысаў).*

Пададзеныя ніжэй факты з жыцьця партячэйкі папяровай ф-кі „Прафінтэрн“ выяўлены пры аглядзе ячэйкі інструктарскай групай Барысаўскага гаркому, у якой удзельнічалі 4 пазаштатных інструктары і адзін работнік гаркому.

Гэтае абсьледваньне жыцьця і работы партячэйкі на прадпрыемстве мае куды большая значэньне, чымся звычайны матар'ял агляду ячэйкі.

Можна без памылкі сказаць, што кожны сакратар ячэйкі, кожны партыец, успамінаючы практыку работы свае ячэйкі, бясспрэчна знойдзе кавалак ф-кі „Прафінтэрн“ і ў сябе ў ячэйцы.

„Грунтоўнае цяпер—у праверцы выкананьня, а паглядзім як яно выконваецца? Ці так ужо мала ў нас парт'ячэек, якія вылучаюць бясканцовыя і бязьлікавыя камісіі, якія ўсе дырэктывы вышэйшых парторганаў прымаюць „да ведама, кіраўніцтва і выкананьня“ і выносяць пастанову „зьнішчыць усе недахопы“, добра ведаючы, што з гэтага практычна нічога ня зьменіцца?“ (Ленін).

### 1. Агульная характарыстыка ф-кі „Прафінтэрн“.

Фабрыка вырабляе абгортачную паперу пры аднэй папермашыне. Рабочых і служачых усяго 180 ч. Спэцыялістаў адзін інжынэр-папернік.

Сталых рабочых 159 ч., з якіх беларусаў—87, яўрэяў—32, палякаў—11 і іншых—29. Па мейсцу жыхарства рабочыя разьмеркаваны наступным чынам: у Н-Барысаве—124 ч., у бліжэйшых вёсках за—3—4 вярсты—24, у горадзе—11 ч. З усіх рабочых свае хаты маюць—51 ч. (32 проц.). З іх партыйцаў—7 (16,6 проц. да ўсіх партыйцаў рабочых). Маюць уласную сельскую гаспадарку (ад 1-й да 5-ці дзесяцін зямлі, карову, каня)—11 ч. у тым ліку 3 партыйцы. Партпраслойка сярод рабочых складае 26 проц., а сумесна з камсамольцамі—37 проц. Новых рабочых, якія маюць вытворчы стаж менш за 5 г. на фабрыцы 109 ч. (54 проц.), рабочых з 10 гадамі больш—18 ч. (11 проц.).

Грунтоўны цэх фабрыкі працуе на 3 зьмены, нясупынна цэлы год, без выходнога дню, што выклікае шэраг цяжкасьцяй для вядзеньня масавай работы сярод рабочых.

### 2. Кіраўніцтва ячэйкі гаспадарчым жыцьцём прадпрыемства.

За мінулы (1927—28) гаспадарчы год вытворчая праграма недавыканана на 9 проц. Прадукцыйнасьць працы зьменшылася на 2,08 проц., а заработная плата вырасла на 14,1 проц., тым ня менш сабекошт прадукцыі зьнізіўся на 9,44 проц. Выпярэджваньне зарплатаю прадук-

цыйнасьці працы, стаўся ў выніку няправільна ўстаноўленых норм і расцэнак. Улетку 1928 г. праводзілася капітальнае пераабсталяваньне і рамонт фабрыкі, на што патрачана 180.000. Рамонт цягнуўся 1 м-ц і 10 дзён, але належных вынікаў ня даў. За першы квартал 28/29 г., недавыкананьне вытворчай праграмы выразілася ў 10 проц. Прастой папер-машыны, за квартал, склаў 369 гадзін, што дае ў параўнаньні з 1-ым кварталам леташняга году павялічэньне на 23 гадз. (на 6,6 пр.). У сьнежні м-цы былі ўведзены новыя нормы і расцэнкі для зьдзельшчыкаў, што дало рост вытворчасьці ў сярэднім 16,6 проц., калі параўнаць з леташнім гаспадарчым годам, і 47 проц. у параўнаньні з першым кварталам 1928—29 гасп. году; зарплата складае 111,8 проц. да сярэдняй зарплаты за мінулы год, і 94,9 проц. да 4-га квартала 1927/28 г. Сабекаштоўнасьць у 1-м квартале 1928—29 г. *павялічылася на 7 проц*. Прагулы па няўважлівых прычынах з 1-га квартала 28/29 г. вырасьлі на 122 проц.

Увядзеньне новых норм і расцэнак цягнулася амаль што 10 м-цаў, дзякуючы таму, што старшыня Завкому вёў хвасьціцкую лінію на „абарону інтарэсаў рабочых“ і таксама таму, што з боку ЦП саюза ня была дадзена ясная лінія па гэтаму пытаньню. У выніку ўсяго гэтага практычнае ўвядзеньне новых норм сустрэла супярэчнасьці з боку асобных рабочых і асобных груп іх. У адным цэху дайшло да фактычнага байкоту новых норм (паккамера), калі рабочыя перайшлі на некаторы час ад зьдзельнай работы на падзённую і наўмысьля зьменшылі свой вырабатак у 3 і 4 разы. І толькі пасьля таго, як Гарком, Райпрафбюро і ЦП папернікаў умяшаліся, байкот быў спынены.

Кіраўніцтва ячэйкі гаспадарчым жыцьцём праводзілася фармальна. Ячэйка шмат разоў абгаварвала гаспадарчыя пытаньні, ня выносячы па заслуханых дакладах ніякіх канкрэтных прапаноў, альбо вынасіліся пастановы дробна-тэхнічнага зьместу.

Напрыклад, пытаньне аб пераабсталяваньні фабрыкі ячэйка разглядала на пасяджэньні бюро 3 разы і на агульных сходах 2, прычым сход ячэйкі па гэтаму пытаньню нічога не вырашаў. 11/VII—28 г. сход ячэйкі заслухаў даклад аб пераабсталяваньні і пастанавіў вылучыць камісію для апрацоўкі рэзалюцыі, але гэтая камісія нічога не рабіла і, такім чынам, ніякае пастановы па пытаньню няма. 26/IX—29 г. ужо пры сканчэньні рамонту, зноў слухаецца даклад дырэктара аб рамонту і зноў вылучаецца камісія з 3-х асоб, якая таксама рэзалюцыі не падрыхтоўвае.

Бюро ячэйкі выносіла наступныя пастановы: 2/VII: „Інфармацыю прыняць да ведама, але канстатаваць, што маецца затрымка ў працы, ад несваячасовай прысылкі машынных частак, з прычыны чаго тармазіцца праца“. Прапаноўваюць партыйцам з адміністрацыі тэрмінова высьветліць гэтае пытаньне перад Папертрэстам, аб тэрміновым дасланьні неабходных частак машын і аб астаноўцы фабрыкі.

7/VII—28 г. бюро зноў слухае інфармацыю т. Войтава (дырэктара) па таму самаму пытаньню і пастанаўляе: „даручыць т. Войтаву дамовіцца з Фракцыяй Фабкома аб пастаноўцы пытаньня на сходзе рабочых“. 8/IX—28 г. бюро ячэйкі слухае інфармацыю т. Войтава аб выніках пераабсталяваньня і пастанаўляе: „Даручыць т. Войтаву і Крупцу давесьці да ведама Гаркома аб тых недахопах, якія маюцца на ф-цы, у сувязі з рамонтам“.

Такім самым парадкам „вырашаліся“ і іншыя гаспадарчыя пытаньні. Так 15/II—28 г. сход ячэйкі слухаў даклад дырэктара аб зьніжэньні сабекошту і рацыяналізацыі. Пасьля дакладу была вылучана камісія па апрацоўцы рэзалюцыі і камісія рэзалюцыю праз некаторы час апра-

цавала, але ніхто гэтую рэзалюцыю не зацьвярджаў і яна проста прышыта да пратаколу сходу ячэйкі. У гэтай рэзалюцыі маюцца такія пункты: „Дрова должны механиком приниматься не с вагонетки, а с плаца, у кочегара при подвозке туда таковых“. „Проверить вопрос о парке ели, в смысле достаточности таковой или нет“ і т. п. 27/VI—28 г. сход ячэйкі заслухаў даклад аб зьніжэньні 20% накладных расходаў па фабрыцы і пастанаўляе: „Канстатаваць, што зьніжэньне выдаткаў згодна дырэктывы не праведзена, прапанаваць Заводакіраўніцтву прыняць усе меры да зьніжэньня выдаткаў і к канцу году ўкласьціся ў сьмету“.

Тым часам трэба адзначыць, што дырэктывы партыі і ўраду аб 20% зьніжэньні адм.-упр. выдаткаў ня выкананы к канцу году. Заміж скарачэньня выдаткаў, ёсьць перавыдатак па каштарысу на 3.158 р., альбо на 13,4%, а ў параўнаньні з фактычнымі выдаткамі леташняга гаспадарчага году маецца зьніжэньне на... 1%.

28/VII—28 г. бюро ячэйкі слухае інфармацыю аб загадзе ВСНГБ пра зьніжэньне сабекошту і пастанаўляе: „Прыняць да ведама і кіраваньня (загад), пацьвердзіць ранейшую пастанову бюро аб зьніжэньні сабекошту“. Неабходна адзначыць, што ніякай пастановы бюро аб зьніжэньні сабекошту бюро ня было.

Па шэрагу іншых пытаньняў гаспадарчага зьместу вылучаліся пасьля дакладаў камісіі ад бюро і ад агульнага сходу ячэйкі, але ў большасьці выпадкаў гэтыя камісіі не працавалі і аб іх забывалі як самыя камісіі, так і ячэйка.

### 3. Уцягненьне рабочых у работу па падняцьцю вытворчасьці.

Прыцягненьне рабочых мас да пытаньняў палепшаньня вытворчасьці, да зьнішчэньня дрэнных адносін да працы і падняцьця вытворчай дысцыпліны не знайшло адбітку ў рабоце ячэйкі. Пытаньне работы вытворчай нарады і камісіі ў ячэйцы не абгаварвалася. У сувязі з дырэктывай гаркому аб аглядзе вытворчых нарад, бюро ячэйкі 8/XII—28 г. вынесла наступную пастанову: „Даручыць т. Крупцу азнаёміцца з матар'яламі і паставіць на наступнае пасяджэньне бюро“. Але гэтае даручэньне нявыканана да гэтага часу. Нядзіва, што вытворчая нарада і камісія працуе надта дрэнна. У работу вытворчай нарады амаль што ня ўцягнуты рабочыя пры папермашыне, бо вытворчая камісія і нарада пачынае сваю работу ня ў 2 гадзіны, калі праводзіцца зьмена рабочых папернікаў, а ў 4 гадз., калі канчае працаваць мэханічны цэх і вядома, што рабочы-папернік ня будзе сядзець 2 гадзіны і чакаць вытворчай нарады. Вытворчая камісія надта дрэнна ставіцца да прапаноў рабочых. Часткі пратаколаў камісіі і нарад няма, з прычыны таго, што былы старшыня Фабкому іх няведома куды палажыў, частка прышыта да спраў заводакіраўніцтва. Паведамленьня рабочым аб выкананьні іхных прапаноў няма. Ды і самыя прапановы носяць нерэальны характар, напрыклад: „Слухалі: аб пераабсталяваньні ф-кі. Пастанавілі: „усе паказаныя дэфектыізжыць“, альбо „слухалі: аб выдатках на рамонт. Пастанавілі: вылучыць камісію для вывучэньня“. Паміма таго, што вытворчая нарада не павінна вылучаць камісіі, бо на гэтае маецца вытворчая камісія, якая абавязана падрыхтоўваць усе пытаньні да нарады, трэба адзначыць, што вылучаная камісія дагэтуль нічога не зрабіла, не ўважаючы на тое, што з часу яе вылучэньня прайшло ўжо 7 м-цаў.

Колькасьць удзельнікаў вытворчай нарады з працягам часу зьмяншаецца. Функцыі вытворчай камісіі і нарады звужаюцца.

Пытаньне падняцьця вытворчай дысцыпліны не знайшло дастатковага адбітку ў рабоце ячэйкі. З агульнай колькасьці 42 партыйцаў, якія працуюць ля варштату, падпалі пад адміністратыўныя ўзысканьні, як вымова з папярэджаньнем, 15 чал. (36%), за прагулы, выхад на работу п'янымі, невыкананьне распараджэньняў адміністрацыі, халатныя адносіны да вытворчасьці і т. п.

Ніводзін з гэтых партыйцаў ня быў выклікан на пасяджэньне бюро і гэтае пытаньне ня было завострана перад усёй ячэйкай. Зразумела, што такое становішча выклікала тое, што асобныя беспартыйныя рабочыя казалі: „раз камуністы могуць піць, лаяць адміністрацыю матам (а такія выпадкі былі, прыклад, партыец Румбін), чаму гэта нам ня можна?

### 4. Унутрыпартыйная работа ячэйкі.

Ячэйка працуе бяз пляну. У ячэйковым пакоі на сьцяне вывешаны ліст паперы, на якім напісана: „каляндарны плян". Але там ёсьць такія заўвагі: „Нядзеля—выхадны дзень. Панядзелак—дзень партвучобы, сэрада—партдзень, субота—бюро ячэйкі" і т. п. Ніякіх указаньняў аб тым, якія пытаньні будуць разглядацца, няма і як бюро, так і агульны сход ячэйкі працуюць няплянава. Пытаньні ставяцца на пасяджэньнях і сходах непадрыхтаваныя і пагэтаму, альбо зусім не вырашаюцца, альбо вырашаюцца няправільна.

Прыкладам непадрыхтоўкі пытаньняў да бюро могуць служыць наступныя вытрымкі з пратаколаў бюро ячэйкі:

— Слухалі: аб пьянстве Хвашчэўскай. Пастанавілі: выклікаць на пасяджэньне бюро (13/X—28 г.).

Аб падрыхтоўцы да зьезду рабселькораў. Пастанавілі: даручыць т. Гінзбургу падрыхтаваць матар'ял к наступнаму пасяджэньню бюро (25/VIII—28 г.).

Дырэктывы Гаркому, РПБ і КСМ аб абглядзе вытворчых нарад.

Даручыць т. Крупцу азнаёміцца з матар'ялам і паставіць на будучае пасяджэньне бюро (8/XII—28 г.).

Трэба адзначыць, што пасьля такога „вырашэньня" справу скончалі і да яе больш не варачаліся.

Пасяджэньні бюро, сходы ячэйкі і пасяджэньні бюро сумесна з актывам праводзіліся больш-менш рэгулярна, але па вышэй паказаных прычынах, уся праяўляемая асобнымі партыйцамі актыўнасьць і большасьць прапаноў радавых партыйцаў трацілася дармова. Праверка выкананьня пастаноў адсутнічае і шэраг пастаноў з прычыны агульнасьці і неканкрэтнасьці („зьнішчыць усе недахопы") праверыць нельга.

Сталага вучоту нагрузкі членаў ячэйкі не вядзецца і праверкі выкананьня нагрузкі ў штодзеннай рабоце не вядзецца. Маецца 15 членаў ячэйкі большай часткай з маладых партыйцаў і работніц, якія ніякае нагрузкі не нясуць. З другога боку, наглядаецца перагрузка асобных актывістаў.

Для арганізацыі работу ў цэху былі вылучаны яшчэ ўлетку 28 г. 6 цэхзьменоргаў і 6 памоцнікаў да іх. Для кіраваньня іхнай работай АПА—камісія ячэйкі апрацавала „схему", якая зьяўляецца перакладам асобных пунктаў „часовага палажэньня ЦК КП(б)Б аб працы групоргаў". Гэтая „схема" была дадзена на рукі партыйцам-цэхоргам. Цэхоргі ў практычнай рабоце не інструктываваліся, іх справаздачы на бюро ячэйкі ні разу не заслухоўваліся, самі яны не інфарміраваліся аб

важнейшых пытаньнях, якія цікавяць рабочых. Пры праверцы аказалася, што апрача асобных спроб правадзіць галосную чытку газэт у цэху, высьвятляць у рэдкіх выпадках недахопы вытворчасьці, з боку 2-х цэхоргаў, яны ўсе ніякай работы не праводзілі і існавалі фактычна на паперы.

Рост ячэйкі праходзіў ад кампаніі да кампаніі. З кастрычнікавага прызыву—г. з. з лістападу 1927 г. да верасьня 1928 г. (9 м цаў) у ячэйку не паступіла ніводнай заявы аб уступленьні ў партыю. Тым ня менш, ячэйка гэтага пытаньня не абгаварвала і толькі 17/XI—28 г. пастаўлена на бюро і намечаны мерапрыемствы па правядзенью вярбоўкі рабочых у партыю. Гэтыя мерапрыемствы шырокай масе партыйцаў недастаткова растлумачаны і яны ў большасьці засталіся на паперы. За апошнія поўгода пададзена 7 заяў аб уступленьні ў партыю, з іх ад камсамольцаў—1 заява, ад беспартыйных актывістаў—4, ад іншых рабочых—2. Ячэйкай прынята 5 чал., апрача аднаго, які не зацьверджаны Гаркомам.

Суадносіны паміж адкрытымі сходамі ячейкі і закрытымі нармальныя (72% адкрытых і 22 закрытых сходаў), але наведваньне беспартыйнымі адкрытых сходаў надта нязначнае, у сярэднім партсходы наведваюць ад 2-х да 8 беспартыйных. Сталага кадру такіх беспартыйных няма.

### 5. Партвучоба.

Дрэннае становішча з партвучобай у ячэйцы. У адзіную партшколу запісалася ад пачатку навучальнага году 41 ч., але цяпер засталося 20 ч., з якіх наведваюць акуратна заняткі 12 ч. У вячэрняй Савпартшколе запісалася 13 ч., а наведвае 2 і тыя неакуратна. На самаадукацыю было запісана 17 ч., але пры праверцы засталося 12 чал., з якіх ніводзін ні разу не наведваў кансультанта па самаадукацыі. Ячэйка ў працягу году разглядвала пытаньне аб партвучобе 3 разы на пасяджэньні бюро і 4 разы на агульных сходах ячэйкі, прычым пастанова выносілася кожны раз тая самая „абавязаць усіх партыйцаў наведваць партшколу“ інагды з дабаўкамі: „бюро яч. прыцягваць да адказнасьці партыйцаў, якія не наведваюць партшколы“ і т. п. Але ўсе гэтыя пастановы засталіся на паперы і інача і не магло быць, бо пастановы вынасіліся і ніхто іх не правераў і не праводзіў у жыцьцё. Як адмоўны факт у працы партасьветы, неабходна адзначыць частую зьмену кіраўнікоў партшкол (за зіму 4 разы) і адсутнасьць беспартыйных у сетцы партасьветы (усяго наведвае адзіную партшколу 1 бесп. рабочы).

### 6. Работа сярод жанчын.

Работа сярод жанчын праводзіцца слаба. Жанарганізатар сваімі паводзінамі ў цэху падрывае свой аўтарытэт. (Лаянка з работніцамі з-за разьмеркаваньня браку для сартыроўкі). На фабрыцы распаўсюджана 50 экз. часопісі „Работніца і сялянка“. У актыўную работу фабкому, Гарсавету і грамадзкіх арганізацый уцягнута 5 работніц (з 32-х) і жанок рабочых (з 99). У вытворчай камісіі і нарадзе работніцы зусім ня ўдзельнічаюць. З абраных 10 дэлегатак наведваюць дэлегацкія сходы 2, прычым дэлегаткі не прымацаваны да камісій фабкомаў і наогул ня маюць практычнай нагрузкі. За апошняга паўгода праведзена 4 сходы жанчын работніц і жанок рабочых, на якіх прапрацаваны пытаньні аб перавыбарах дэлегатак, аб 10-годзьдзі жанаддзелу, аб нацпалітыцы і аб удзеле работніц, жонак рабочых у перавыбарах

Гарсавету і аб гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі. Дэлегаткі і работніцы ня ўцягваюцца на адкрытыя партсходы. Бюро ячэйкі на ўсе гэтыя недахопы ў рабоце рэагавала недастаткова і практычнае кіраўніцтва ў гэтым напрамку кульгала, таксама як і па другіх галінах работы.

### 7. Кіраўніцтва камсамолам.

Кіраўніцтва камсамолам таксама кульгае і былі выпадкі скрыўленьня кіраўніцтва. З агульнай колькасьці рабочай моладзі на фабрыцы ў 40 ч., у камсамольскую ячэйку ўцягнута 23 ч., за апошнія 6 м-цаў ячэйка не расла. Прынята толькі адна дзяўчына, не работніца, а дачка рабочага. Партасяродак у камсамоле складаецца з 5 ч., з якіх некаторыя ня прымаюць ніякага ўдзелу ў камсамольскай рабоце. Вытворчая дысцыпліна сярод моладзі кульгае, маецца шэраг адмоўных зьявішч сярод камсамольцаў. Ёсьць камсамольцы, якія па году і больш не плацілі членскіх узносаў.

Парткіраўніцтва камсамолам праводзіцца праз партпрымацованага, які дапускаў скажэньне партлініі па гэтаму пытаньню.

Цяпер партпрымацованы да камсамолу вылучаны сакратар партячэйкі т. Крупец, але практычнай дапамогі ад партпрымацованага камсамольская ячэйка не адчувае.

Кіраўніцтва бюро ячэйкі камсамолам выразілася ў абгаварэньні дакладаў ячэйкі КСМ на бюро. 17/III—28 г. па справаздачы сакратара ячэйкі КСМ была прынята рэзалюцыя, якую неабходна як характэрную, падаць цалкам:

„Заслушав доклад секретаря комсомольской ячейки, бюро яч. КПБ считает, что линия взята правильная и здоровая. В дальнейшем необходимо провести следующие мероприятия:

1) Обратить внимание на техническую постановку в ячейке.

2) Обратить внимание на политучебу, стараясь втянуть всех членов ячейки КСМ и беспартийную молодежь.

3) Ликвидировать задолженность членских взносов среди членов КСМ.

4) В дальнейшем заслушивать отчеты комиссий при ячейке и отдельных поручений членов КСМ.

5) Обратить внимание на втягивание КСМ в общественную работу, как-то: Авиахим, МОПР и т. п.

6. Подготовить лучших комсомольцев, для вступления в партию.

7. Обратить внимание на втягивание партядра в комсомольскую работу.

8. Обратить внимание на комсомольцев, которые ведут себя не этично“.

Па гэтай рэзалюцыі можна мець уяўленьне аб характары дырэктыў парт'ячэйкі ня толькі па гэтаму пытаньню, але і па шэрагу іншых пытаньняў. Тут маецца шэраг указаньняў, што трэба рабіць і ні слова ў дапамогу камсамольскай ячэйцы, па пытаньню як трэба рабіць. Зараз гэтая рэзалюцыя забыта як парт'ячэйкай, так і камсамольскай ячэйкай ніякай праверкі выкананьня дырэктыў па гэтай рэзалюцыі ні партпрымацованым, ні бюро не праводзілася.

28-I—29 г. бюро парт'ячэйкі абгаварвала пытаньне работы камсамольскай ячэйкі і вынесла наступную пастанову: „Бюро яч. даручае Лабунскаму (Сакратару Камсамольскай яч.) паставіць справаздачу ячэйкі КСМ на бюро парт'ячэйкі ў канцы лютага м-ца. Бюро прапануе ўсім членам і кандыдатам партыі—камсамольцам прынімаць актыўны ўдзел у працы камсамольскай ячэйкі“.

## 8. Кіраўніцтва фабкомам.

Кіраўніцтва ячэйкі фабкомам неабходна прызнаць нездавальняючым. Агульная справаздача фабкому стаяла на сходзе парт'ячэйкі 1-II—28 г., пасьля дакладу была вылучана камісія для прапрацоўкі рэзалюцыі. Але гэтая камісія не працавала і да пратаколу прыложана рэзалюцыя, якая нідзе не зацьверджана. Рэзалюцыя надрукавана на 5-ці аркушох паперы і ўключае ў сябе агульную ацэнку: сьпіс дасягненьняў і плян работы на бліжэйшы год ці 2 гады ня толькі па фабкому, але і па ўсіх камісіях фабкому. Вядома, што такая рэзалюцыя нерэальна і нічога не дае.

Бюро ячэйкі і агульны сход разглядалі і асобныя пытаньні прафработы, але яны не вырашаліся, як сьлед. Так даклад аб выніках перазаключэньня калумовы „прыняты да ведама“ агульным сходам ячэйкі.

2-IV—28 г. бюро ячэйкі заслухала даклад аб працы фракцыі фабкома і вынесла пастанову: „лічыць працу фракцыі слабай, і для складаньня рэзалюцыі вылучыць камісію ў складзе 5 асоб“. Камісія ніякай рэзалюцыі не прапрацавала да гэтага часу.

Аднача́сова ячэйка займалася шэрагам дробных прафэсыянальных пытаньняў, якія павінны былі вырашацца ў фабкоме і нават РКК. Так, напрыклад: бюро ячэйкі ўлетку 1928 г. 3 разы разглядала пытаньне аб брака-сартыроўцы і вынесла наступныя пастановы:

7-I—28 г. „Прапанаваць Фракцыі Фабкому ў тыднёвы тэрмін дагаварыцца з заводакіраўніцтвам аб нормах і расцэнках для брака-сартыроўкі і паставіць на пасяджэньне бюро ячэйкі“.

24-III. „Прапанаваць Фракцыі Фабкома дамовіцца з адміністрацыей аб выплаце работніцам брака-сартыроўкі за скідку за ўлагу“.

А 2-VI бюро ячэйкі вынесла пастанову, заменяючы РКК. „Работніцам брака-сартыроўкі выплаціць за май па старых расцэнках“.

Паколькі на фабрыцы востра стала пытаньне аб нормах вырабатку, асабліва ў паккамеры, цікава праверыць, як ячэйка кіравала фабкомам у гэтым пытаньні. Ячэйка дала наступныя пастановы.

17-V—28 г. „Бюро ячэйкі з пераглядам норм і расцэнак зьдзельных прац згаджаецца. З нагрузкай цалком рабочага дню, на падставе сахраненьня той сярэдняй зарплаты, якая існавала апошнія 6 м-цаў. Даручыць Фракцыі Фабкому ў тыднёвы тэрмін распрацаваць нормы і расцэнкі і прадставіць к наступнаму пасяджэньню бюро ячэйкі“.

З таго часу прайшло ўжо не адно „наступнае пасяджэньне бюро“, а цэлых 8 і на 9-ым пасяджэньні бюро ад 21-VII—28 г. па гэтаму пытаньню прымаецца наступная пастанова: „Даручыць парт. частцы адміністрацыі і Фракцыі Фабкому вывучыць і падрыхтаваць гэтае пытаньне к наступнаму пасяджэньню бюро, аднача́сова Фракцыі Фабкому прытрымлівацца, каб не пайсьці на паніжэньне зарплаты“.

І зноў праходзіць 4 „наступных пасядж. бюро яч.“ і пытаньне не вырашаецца, на 5 пасяджэньні, ад 4-VIII—28 г. тав. Войтаў інфармуе бюро, што з боку Фракцыі Ф-му няма жаданьня пераглядзець нормы і справа зацягваецца. Бюро ячэйкі вырашае: „Прапанаваць другі раз (ня другі, а трэці) Фракцыі Фабкому да наступнай суботы скончыць і аформіць нормы і расцэнкі“.

Зноў праходзяць 3 „суботы“ і па пытаньню аб нормах бюро ячэйкі пастанаўляе: „З арыентыровачнымі лічбамі, але прапанаваць Фракцыі Ф-му дамовіцца з адміністрацыяй і абгаварыць пытаньне на агульным сходзе рабочых“.

Пасьля чаго заводзіцца цяганіна ўва ўсіх канфліктных інстанцыях і ячэйка гэтую справу забывае на доўгі час. Ужо 15-XII—28 г. (праз

7 месяцаў пасьля пастаноўкі гэтага пытаньня ўпяршыню на пасяджэньні бюро) на бюро ставіцца інфармацыя аб нормах і ячэйка пастанаўляе: „Даручыць Драздову (Старшыня Фабкому) і Войтаву ў хуткім часе падрыхтаваць канчатковыя лічбы і прадставіць на бюро ячэйкі“. У выніку ўсяе гэтае цеганіны 21-XII—28 г. падаецца рабочымі заява з патрабаваньнем старой нормы, пачынаецца валынка, умешваецца гарком, райпрофбюро, ЦП саюзу, трэст і пытаньне вырашаецца.

Так ячэйка кіравала фабкомам.

### 9. Кіраўніцтва рабкораўскім гуртком і насьценгазэтай.

Па гэтаму пытаньню маецца некаторае скажэньне партлініі. Маюцца такія пастановы:

2-VI—28 г. „Для рэагіраваньня на заметкі ў насьценгазэце вылучыць камісію ў складзе 3-х чал.“.

4-II—28 г. „Прапанаваць кіраўніку рабкораўскага гуртка зьвязацца з упаўнаважаным рабочай газэты (кім?). Рэдкалегіі пэрыядычна заслухоўваць расьсьледваць камісію і інфарміраваць бюро яч.“ Між іншым трэба адзначыць, што расьсьледваньне камісіі пры насьценгазэце няма і на бюро ячэйкі пасьля гэтага не стаяла пытаньне аб рэагаваньні на заметкі.

29-IX—28 г. „першую частку заметкі, пададзеную ў насьценгазэту на тав. Шаха лічыць нявернай, а другую частку зьмясьціць у газэту“.

25-VIII—28 г. па пытаньні аб падрыхтоўцы да рабселькораўскага зьезду было пастаноўлена: „Даручыць т. Гінзбургу (Старшыня Рабселькораўскага гуртка) к наступнаму пасяджэньню бюро падрыхтаваць і прадставіць матар'ял“, але гэтая пастанова ня выканана і пытаньне засталося без вырашэньня.

Толькі 15-XII—28 г. па справаздачы т. Гінзбурга пра работу насьценгазэты маецца больш-менш здавальняючая пастанова, якая дае напрамак у далейшай рабоце насьценгазэты.

Тым ня менш рабкораўскі гурток пры фабрыцы працуе ня дрэнна і таксама здавальняюча пастаўлена работа насьценгазэты. Але гэта-ж ня вынік правільнага кіраўніцтва ячэйкі.

### 10. Выкананьне дырэктыў вышэйшых парторганаў.

Ячэйка не навучылася праводзіць дырэктывы вышэйшых парторганаў у практыку, прыстасоўваючы іх да сваіх умоў. Атрыманыя ад гаркому і ад вышэйшых парторганаў дырэктывы рэгулярна разглядаліся на пасяджэньні бюро і некаторыя на агульных сходах ячэйкі, але ўсе яны прымаліся „да ведама і кіраўніцтва“ і гэтым ячэйка лічыла свае абавязкі выкананымі.

Напрыклад: адозва ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы разглядалася на адкрытым сходзе ячэйкі і вынесена пастанова: „Воззвание ЦК принять к сведению, руководству и исполнению“.

Такая-ж самая пастанова прынята па загаду ВСНГБ аб зьніжэньні сабекошту і па шэрагу іншых важнейшых практычных пытаньняў. А па дырэктыве ЦК УсеКП(б) аб спэцыялістах, бюро ячэйкі пастанавіла: „Поручить Фракцыі Фабкома отпечатать воззвание ЦК и вывесить на видном месте“ (7-VII—28 г.).

Вядома, што такая лінія прыводзіла да таго, што дырэктывы вышэйшых парторганаў ніякага ўплыву на практычную работу на прадпрыемстве ня мелі, і яны разглядаліся як неабходны рытуал.

### 11. Рэагаваньне ячэйкі на балючыя зьявішчы сярод рабочых.

Сярод партыйцаў ёсьць шэраг адмоўных зьявішч. Апроч паказаных дрэнных адносін да вытворчасьці (15 вымоў), пашырана п‘янства, няўжыўчывасьць з рабочымі, рэлігійныя абрады, адзін з партыйцаў нават абвінавачваецца ў вядзьмарстве. Тым ня менш па шэрагу пытаньняў ячэйка падыходзіла надта мякка. Некаторым партыйцам за п‘янства і лаянку адміністрацыі пастанаўлялі выклікаць на бюро і ня выклікалі (Румбік, Хвашчэўская). У шэрагу іншых выпадкаў абмяжоўваліся тым, што рабілі папярэджаньне і як самую максімальную кару—ставілі на від. Гэтая лінія расцэньвалася асобнымі членамі ячэйкі, як дазвол п‘янстваваць, і „п‘ючыя“ партыйцы агітавалі за мяккія пастановы ў адносіне да тых, якія „папаліся“ на п‘янцы.

Бюро ячэйкі сама вынесла пастанову: „Даручыць Войтаву і Фракцыі Заўкому дамовіцца з Трэстам ад водпуску 150 руб. для правядзеньня сямейнага вечара, з прычыны пуску ф-кі пасьля рамонту“. Як выясьнілася, т. т. мелі на ўвазе гэтыя грошы патраціць на піва і закускі, але т. Войтаў пытаньня аб водпуску грошай на гэтую мэту ня ўзьняў і вечар не адбыўся.

Разглядаючы абежнік ЦКК аб барацьбе з п‘янствам, бюро ячэйкі 13-X—29 г. пастанаўляе: „Принять циркуляр к сведению, руководству и исполнению, одновременно проработать этот вопрос и составить совместно с комсомольской ячейкой план борьбы с пьянством и поставить на общее партсобрание“. Пастанова гэтая засталася на паперы, таксама засталіся на паперы практычныя дырэктывы Гаркому аб антыалкагольнай працы, яны былі перададзены ў АПА камісію і там нават не разглядаліся.

Таксама нічога не было зроблена па выкананьні дырэктыў аб антырэлігійнай працы. Ячэйка бязбожнікаў не арганізавана і ніякай працы не вядзецца.

### 12. Масавая праца.

а) *Агульных сходаў рабочых* праведзена за год 18. Прычым у адным кастрычніку м-цы праведзена 6 сходаў, а з 22-II—28 г. да 15-VI—28 г. не праведзена ніводнага схода. Наведваньне сходаў пры ўмовах працы ф-кі трэба прызнаць здавальняючым. Абвестка дня агульных сходаў ахоплівала амаль усе важнейшыя пытаньні эканамічнага і палітычнага жыцьця. Але трэба адзначыць, што праверка выкананьня дырэктыў зусім не наладжана і рабочым ніякіх паведамленьняў аб выкананьні іх пастаноў ня робіцца.

Як недахопы, трэба адзначыць, што ў значнай меры сходы загружаюцца шэрагам такіх пытаньняў, якія не павінны абгаварвацца на сходах, а іх можна абгаварыць на мітынгах, або праводзіць у парадку гутарак па цэхах.

Толькі нядаўна пачалі практыкавацца сходы рабочых па зьменах, якія цалком сябе апраўдалі.

б) *Чырвоны куток.* Наяўны пры ф-цы чырвоны куток скарыстоўваецца для розных пасяджэньняў, нарад і часткова для заняткаў гурткоў. Жывой масавай работы, як, чыткі ўголас, палітсуды і г. д. не праводзіліся. Профвечары, якія растлумачвалі-б рабочым (асабліва новым пластам рабочых) мэты і задачы профсаюзаў, не праводзіліся і сярод шэрагу рабочых наглядаецца профняпісьменнасьць.

Гутаркі па цэхах амаль не праводзіліся і ніякага вучоту гэтае працы няма. Не скарыстоўваецца для гутарак перапынак і той паабедны час, калі рабочыя праводзяць на ф-цы, калі яны прыходзяць да пачатку працы.

З гурткоў маецца спартыўны ў 25 чал., з якіх жанчын 5, дарослых рабочых 5, а астатнія—моладзь.

Рабкораўскі гурток налічвае 22 чал., з якіх 5 жанчын. Гурток мае сувязь з РСІ і пракуратурай. Выдае газэту па мэтадзе „Ільлічоўкі“, у якой даюцца матар'ялы на беларускай, яўрэйскай, але пераважна на расейскай мове. Уведзен куток, прапаноў рабочых.

Бібліатэка пры кутку налічвае 1.500 кніг. Чытачоў 79 чал. (50 проц.). Беларускія кнігі чытае 12 чал., яўрэйскія—8. Бібліатэка слаба папаўняецца, новых кніжак купляецца ўсяго на 25 р. у м-ц. Да справы папаўненьня бібліатэкі не прыцягнуты актыў з чытачоў.

в) *Нацпраца.* Беларусізацыя як у ячэйцы, так і ў фабкоме, амаль што не адчуваецца. Справаводзтва ячэйкі і фабкому толькі часткова пераведзена на белмову. Белмова ня ўжываецца на сходах і пасяджэньнях. За 1928 г. праведзены адзін Інтэрнацыянальны вечар. У 1928 г. быў арганізаваны беларускі гурток, але паступова лік наведвальнікаў гэтага гуртку зьменшыўся і зараз гурток не працуе ўжо ў працягу 8 м-цаў. Пытаньне аб беларусізацыі стаяла на агульным сходзе рабочых, але паколькі ў кіруючых органах пераломy ў сэнсе беларусізацыі няма, гэты даклад ніякага ўплыву на палепшаньне беларусізацыі ня меў.

Выпіскай беларускіх газэт, у прыватнасьці „Зьвязды“, ячэйка займалася, але таксама як і ў іншых пытаньнях, наглядалася адсутнасьць канкрэтнасьці ў дырэктывах ячэйкі. За апошні год пытаньне аб узмацненьні падпіскі на „Зьвязду“ абгаварывалася на сходах ячэйкі 4 разы і ўсе разы вынасілася адна і тая-ж пастанова: „Прапанаваць усім членам ячэйкі ў абавязковым парадку выпісаць „Зьвязду“. Але паколькі ніякіх мер па папулярызацыі „Зьвязды“ не праводзілася, і падпіска рабілася пад прымусам ячэйкі, а праверкі выкананьня гэтага загаду ня было, з 52 членаў ячэйкі да апошняга часу выпісвала „Зьвязду“ 5 чал., а за апошнія месяцы выпісываецца на ф-цы 10 экз. „Зьвязды“.

Вылучаны ўпаўнаважаны, але практычных указаньняў у рабоце яму не давалася і праца сярод яўрэйскіх рабочых праводзіцца слаба. Кампанія за падпіску на яўрэйскія газэты дала 2 падпісчыкаў. У некаторай частцы рабочыя фабрыкі „Прафінтэрн“ уцягнуты ў работу пры Нова-Барысаўскім рабочым клюбе, але вучоту яе няма.

Маюцца асобныя моманты антысемітызму сярод рабочых і асобных членаў партыі (Федасееў). Ячэйка слаба завастрыла ўвагу ўсіх рабочых на неабходнасьці барацьбы з антысемітызмам і шавінізмам.

г) *Ваянізацыя і сувязь з Чырвонай Арміяй*—наладжана ня дрэнна. Рэгулярна працуе вайсковы гурток, якім ахоплена каля 20 рабочых і работніц. Наладжана ўзаемнае наведваньне рабочых чырвонаармейскіх казарм і чырвонаармейцамі фабрыкі. У казармах арганізаваны вытворчы куток, а на фабрыцы вайсковы куток. Абменьваюцца матар'ялы ў насьценгазэтах. Рабочыя дабраахвотна адлічылі на карысьць Чырвонае Арміі 2 проц. месячнага заработку.

д) *Дабрахвотныя арганізацыі:* ячэйкі ТДАвіяхіму, шэфская і МОПР ахапляюць усе разам 136 чал., пры чым асобныя т. т. зьяўляюцца членамі 2-х і 3-х арганізацый. У Т-ва АЗЭТ уцягнута 32 чал.

Плянава працуе ТДАвіахіма. Шэфскае Т-ва ніякай грамадзкай работы не праводзіць. Калі і праведзена за апошні год 12 выездаў у вёску, дык трэба адзначыць, што яны арганізоўваліся партячэйкай, якая непасрэдна праводзіла ўсю шэфскую работу, уводзіла і выводзіла членаў бюро ячэйкі шэф. т-ва і т. п.

Як агульную характарыстыку масавай работы ячэйкі, трэба адзначыць, што тыя цяжкасьці для масавай работы, якія выклікаюцца

ўмовамі непарыўнай працы фабрыкі, паралізавалі жаданьне ячэйкі прыстасаваць сваю работу да гэтых умоў. Работа не праводзілась і як апраўданьне, прыводзіліся гэтыя ўмовы. Далёка ня вычарпаны ўсе магчымасьці наладзіць гэтую работу і пры цяперашніх умовах.

## 13. Агульныя вывады пра работу ячэйкі.

Самае характэрнае для работы партячэйкі, гэта тое што была— беганіна, шум, але бяз тых практычных вынікаў, якія павінны быць ад парт-работы. Па прычынах усіх вышэйпаказаных недахопаў, актыўнасьць асобных партыйцаў і беспартыйных рабочых, добрае жаданьне кіраўнікоў ніякага ўплыву на практычную работу ня мелі. Праца фабрыкі ішла альбо стыхійна альбо па тым напрамку, які даваўся асобнымі партыйнымі і беспартыйнымі. Арганізуючай ролі ячэйкі не адчувалася.

Адказным за гэтае становішча неабходна прызнаць усю ячэйку, у першую чаргу членаў бюро ячэйкі, якія ніколі ня ставілі пытаньня аб мэтадах работы ячэйкі, аб яе бязвынікавых паперах узяць на сябе кіраўніцтва жыцьцём прадпрыемства.

Значную частку віны неабходна ўскласьці на кіраўніцтва Гаркому, які слаба даваў практычную дапамогу ячэйцы і праглядзеў такое становішча. Неабходна грунтоўная зьмена, ў мэтадах работы ячэйкі з тым, каб замiж агульных дырэктыў пачаць кіраваць жыцьцём прадпрыемства, праводзячы практычную праверку сваіх дырэктыў.

---

*І. ГРУШНЕЎСКІ*

# Шэфработа, як яна ёсьць.

*(Фрунзэнскі раён, Менск).*

Пэрыяд ад XV партзьезду зьяўляецца асабліва характэрным у рабоце шэфскіх арганізацый. За гэты час больш чым калі завастралася ўвага партыйна-савецкай грамадзкасьці на пытаньні шэфскай работы.

Задачы партыі на вёсцы, пастаўленыя XV партзьездам: калектывізацыя сельскай гаспадаркі, рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі—супраціўленьне гэтых элемэнтаў правядзеньню ў жыцьцё паказаных задач і ўзмацнеўшая на гэтай падставе клясавая барацьба асабліва ў вёсцы—патрабавалі ад шэфскіх арганізацый усямернага ўзмацненьня свае работы, зьмяненьня форм і мэтадаў шэфработы ў падшэфных вёсках.

Але становішча шэфскіх таварыстваў пад час XV партзьезду было такім, што яны неадкладна пасьля зьезду не маглі ўзяцца за выкананьне тых задач, што стаяць перад імі—дапамагчы партыі „ажыцьцявіць задачу калектывізацыі сельскае гаспадаркі". Шэфскія таварыствы перажывалі тады вялікія цяжкасьці ў рабоце: памяншэньне колькасьці членаў, развал некаторых т-ваў і г. д. У часткі шэфработнікаў у зьвязку з гэтымі цяжкасьцямі вынiклі ліквідатарскія настроі аб мэтазгоднасьці далейшага існаваньня самастойнае шэфскае арганізацыі. Такія настроі мелі мейсца і ў шэрагах Фрунзэнскай шэфарганізацыі.

Прычыны заняпаду ў шэфрабоце заключаліся ў недастатковай масавасьці і ў адсутнічаньні зусім здавальняючага парткіраўніцтва і дапамогі шэфтаварыствам з боку профарганізацый.

Каб шэфарганізацыі змаглі справіцца з тымі вялізнымі задачамі, якія перад імі паўсталі пасьля XV партзьезду, неабходна было партыйным і прафарганізацыям узмацніць сваё кіраўніцтва і дапамогу шэфарганізацыям у іх рабоце. Гэтага якраз ня было зроблена ня толькі шэрагам нізавых арганізацый (ячэйкі ФЗМК), але і большасьцю ЦП Саюзаў.

Вось чаму Сакратарыят ЦК КП(б)Б у саёй ліпеньскай пастанове (глядзі „Зьвязду" ад 22 ліпеня 1928 г.) правільна адзначыў, што „XV зьезд УсеКП(б) і XI зьезд КП(б)Б ня ўнесьлі пералому ў работу шэфскіх таварыстваў БССР" і на гэтай падставе прызнаў „работу шэфскіх арганізацый у БССР нездавальняючай".

Гэта агульная ацэнка становішча шэфработы па БССР была цалкам правільнай у адносіне шэфарганізацыі Менску і ў прыватнасьці Фрунзэнскага раёну (былы гарадзкі раён), але ўсё-ж за апошні год у большасьці шэфтаварыстваў Фрунзэнскага раёну маецца прыкметны пералом у рабоце, асабліва па часьці непасрэднай работы ў падшэфных вёсках.

## Работа ў вёсцы.

Уплыў і ўдзел шэфаў у гаспадарчым і грамадзкім жыцьці вёскі значна ўзмацніліся. Найважнейшыя гаспадарча-палітычныя кампаніі ў вёсцы праходзілі пры актыўнай дапамозе і ўдзеле шэфарганізацый. У сваёй рабоце шэфы, як правіла, перажылі „чысты культурніцкі ўхіл", які да гэтага часу прыкмячаўся з боку значнай часткі шэфарганізацый. Шэфы бліжэй падыйшлі да сваіх задач, якія перад імі стаяць у справе дапамогі партыі і ўладзе ў перабудове сельскай гаспадаркі па сацыялістычнаму шляху.

*Жывая сувязь* шэфарганізацый, што ажыцьцяўляецца шляхам выездаў прадстаўнікоў шэфтаварыства ў падшэфныя вёскі, за апошні год па Фрунзэнскаму раёну значна ўзмацнілася.

Лічбы аб колькасьці выездаў:

| Год | Колькасьць шэф. т-ваў | Колькасьць выездаў | % | Колькі выяждж. чалав. | % |
|---|---|---|---|---|---|
| 1927 . . . . . . | 22 | 193 | 100 | 388 | 100 |
| 1928 . . . . . . | 22 | 281 | 145,9 | 538 | 141 |

Гэтыя лічбы паказваюць аб значным росьце колькасьці выездаў у 1928 г. у параўнаньні з 1927 г. (на 45 проц.), а таксама і колькасьць выяжджаўшых чалавек (на 41 проц.). Акром таго трэба адзначыць, што выезды ў 1928 г. таксама палепшыліся па сваёй якасьці: выяжджалі лепш падрыхтаваныя т. т. і на больш доўгі тэрмін з канкрэтнымі заданьнямі.

## Арганізацыйна-гаспадарчая работа шэфаў.

Асяродак увагі шэфтаварыстваў па рабоце ў вёсцы пасьля XV партзьезду павінен быў пераносіцца на арганізацыйна-гаспадарчую дапамогу вясковым арганізацыям у справе ажыцьцяўленьня задач па перабудове сельскай гаспадаркі. Гэтую задачу значная частка шэфтаварыстваў Фрунзэнскага раёну пачала выконваць у мінулую вясеньнюю кампанію. Сіламі шэфтаварыстваў на час пасяўное кампаніі былі пасланы ў с.-с. 3 паходныя кузьні для рамонту сельска гаспадарчага інвэнтару ў першую чаргу беднякоў падшэфных вёсак. У той час таксама было шэфамі завезены ў розныя с.-с. зерна-ачышчальныя машыны: трыераў—3, сарціровак—2. Пры садзейнічаньні шэфтаварыстваў арганізаваны шэраг прасьцейшых калектываў. Акрамя таго, асобнымі шэфтаварыствамі ў час вясеньняе пасяўное кампаніі давалася дапамога беднаце праз КСУ грашыма на насеньне.

Таксама значную масавую работу правялі шэфтаварыствы ў часе распаўсюджваньня „пазыкі ўзмацненьня сялянскай гаспадаркі".

На падставе ўсяго гэтага, пленум гаррайкому ў сваёй пастанове па справаздачы фракцыі райшэфпраўленьня ў чэрвені 1928 г. адзначыў, „што пасьля 15 партзьезду райшэфпраўленьне па дырэктывам Бюро РК часткова перабудавала сваю работу ў бок аказаньня дапамогі мясцовым арганізацыям у выкананьні пастаноў зьезду аб калектывізацыі сельскай гаспадаркі".

Але тут-жа трэба з усёю яскравасьцю падкрэсьліць, што тыя асобныя станоўчыя моманты ў шэфрабоце, якія ёсьць на падставе правядзеньня ў жыцьцё пастаноў партзьезду, не зьяўляюцца агульнымі для ўсіх шэфтаварыстваў, значная частка іх яшчэ праводзіць сваю работу ў падшэфных вёсках пакампанійскаму.

## Удзел шэфтаварыстваў у перавыбарах с.-с.

Кампанія перавыбараў с.-с. у гэтым годзе зьявілася генэральнай палітычнай праверкай шэфтаварыстваў у іх здольнасьці дапамагчы партыі і Савецкай уладзе ў рабоце на вёсцы.

Маючыяся зьвесткі аб рабоце шэфаў у пэрыяд справаздачна-перавыбарчай кампаніі с.-с. і отзыў аб гэтай рабоце з боку вясковых Райкомаў КП(б)Б гавораць аб тым, што шэфскія таварыствы гэты экзамен поўнасьцю вытрымалі. Разгорнутая работа ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі мае важнейшае значэньне ня толькі з пункту гледжаньня палітычнай важнасьці тэй рэальнай дапамогі, якую далі шэфтаварыствы партыі і Савецкай уладзе ў гэтай кампаніі, а таксама з боку таго, што на вопыце гэтае кампаніі яскрава відаць як шэфтаварыствы пад кіраўніцтвам парт'ячэек і з дапамогаю ад прафсаюзаў могуць справіцца з тымі вялікімі задачамі, што стаяць перад імі.

Шэфтаварыствы ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі разгарнулі здавальняючую работу. Толькі нельга не адзначыць аднаго, што пасылка „рабочых брыгад“ з Менску для ўдзелу ў перавыбарах с.-с. зусім непрактычна ўвязвалася з шэфтаварыствамі. У гэтай справе існаваў поўны паралелізм, на адным і тым самым прадпрыемстве ФЗКом рыхтаваў „рабочую брыгаду“, а шэфтаварыства рыхтавала свае выезды. Сустракаючыся з гэткімі зьявішчамі, некаторыя шэфработнікі, не зразумеўшы ў чым справа, думалі, што паколькі высылаюцца рабочыя брыгады ад іх прадпрыемстваў, дык ім можа зусім нічога ня трэба рабіць у перавыбарчай кампаніі.

Гэты момант неабходна адзначыць, бо трэба, каб адпаведныя органы ўзялі пад увагу на далейшае.

## Паліт. і культасьветная работа шэфтаварыстваў.

Шэфтаварыствы, паставіўшы ў цэнтры свае ўвагі арганізацыйна-гаспадарчую работу, разам з тым таксама не паслабілі паліт. і культасьветную работу ў сваіх падшэфных вёсках.

Пры дапамозе шэфаў пашыраецца сетка палітасьветустаноў на вёсцы: хаты-чытальні і чырвоныя куткі. Толькі 17 шэфтаварыствамі выпісваецца 132 газэты і часопісі. Шэфы прымаюць актыўны ўдзел у розных палітычных кампаніях і рэвалюцыйных сьвятах. Возьмем, напрыклад, 11-цігодзе Кастрычнікаўскай рэвалюцыі. Па 20 шэфтаварыствах выяжджала з дакладамі 34 чал., якія пабылі ў вёсцы па 2 дні. Асобныя шэфтаварыствы да гэтага сьвята паслалі сваім школам падручнікі для бядняцкіх дзяцей (1-я друкарня), літаратуру, плякаты для абсталяваньня чырвонага кутка (ВБ) і г. д. Акром таго гэтымі шэфтаварыствамі былі запрошаны дэлегацыі з падшэфных с.-с. на сьвята ў горад 35 чалавек.

Шмат увагі ў палітасьветрабоце шэфарганізацый было аддадзена на пашырэньне аграпрапаганды. З гэтай мэтай кампанія „Дзень ураджаю“ была шэфамі разгорнута як масавая кампанія.

Па 22 шэфтаварыствах брала ўдзел у выездах па гэтай кампаніі 81 чалавек, пры чым у складзе выяжджаўшых у кожны с.-с. быў аграном. Трэба падкрэсьліць, шсо аграномы ахвотна адклікнуліся на прызыў аб паездцы на 3 дні ў вёскі, для правядзеньня „Дню ўраджая“.

Шэфтаварыствы арганізавалі сялян для ўдзелу ў сельска-гаспадарчых раёнsupported выстаўках. За апошні час шэфтаварыствы павялічылі пасылку літаратуры. Напрыклад, закуплены для сваіх хат-чытальняў і чырвоных куткоў камплекты сельска-гаспадарчых плякатаў. (На суму больш за 120 р.).

Недахопы ў паліт. і культасьветнай справе шэфтаварыстваў заключаюцца ў тым, што навокал кожнага паасобнага мерапрыемства ў гэтай галіне не арганізоўваецца вясковы бядняцка-серадняцкі актыў, ня вельмі завастраецца ўвага на правядзеньні такіх мерапрыемстваў па падняцьцю культузроўню масы працоўнага сялянства. Напрыклад, за малым нічога не рабілася па антырэлігійнай прапагандзе. Сіламі шэфаў ня зроблена ніводнага антырэлігійнага дакладу, літаратуры антырэлігійнай для хат-чытальняў шэфтаварыствы ня выпісваюць (за некаторым выключэньнем). Шэфы таксама мала робяць для прасоўваньня газэт і часопісяй у сялянскую масу за сродкі саміх сялян, каб павялічыць і задаволіць культурныя патрэбы селяніна. Пад час якое эпідэміі дык шэфы выяжджаюць з дактарамі, мэдыкамэнтамі, а рэгулярным распаўсюджваньнем санітарнай асьветы, прышчэпваньнем культурных навыкаў шэфтаварыствы мала займаюцца. Нам трэба зьнішчыць такія зьявішчы, калі шэфы трацяць грошы на ўтрыманьне хаты-чытальні, а яна стаіць пад замком, таму што ніхто не паклапаціўся пра апал.

Праблемы перабудовы сельскае гаспадаркі, падвышэньне ўраджайнасьці павінны быць у цэнтры ўвагі шэфтаварыстваў, але пры гэтым трэба памятаць, што задача падняцьця культузроўню ўваходзіць у гэтую цэнтральную праблему, як неадрыўная частка.

### Шэфтаварыствы і вясковыя савецкія і партыйныя арганізацыі.

Шэфтаварыствы ўсю сваю работу на вёсцы ў 1928 годзе больш чым да гэтага праводзілі пры поўнай узгодненасьці з мясцовымі арганізацыямі (ячэйкі і с-с.) і па непасрэдных указаньнях вясковых райкомаў партыі.

Па важнейшых пытаньнях шэфработы на вёсцы (пасеўная кампанія, с/г. падатак, перавыбары с/с) склікаліся нарады шэфтаварыстваў у паасобных раёнах пры ўдзеле прадстаўніка ад райкому партыі. Гэтакім мэтадам мы дабіліся таго, што шэфы і ў падшэфных вёсках праводзілі работу ў поўнай адпаведнасьці з тымі задачамі, што стаялі перад партыйнай арганізацыяй у канкрэтных умовах кожнага раёну і с/с. Па-другое, мы гэтакім чынам зьнішчалі „гастралёрства“, якое раней заўважвалася з боку шэрагу шэфтаварыстваў. Выезды праводзіліся больш падрыхтавана, з канкрэтнай мэтай.

Але, нажаль, жаданьне шэфтаварыстваў увязаць сваю работу з мясцовымі арганізацыямі не заўсёды сустракае адпаведныя адносіны апошніх. У асобных вясковых арганізацыях праявілася нездавальненьне тым, што шэфы гэтулькі шуму ўзьнялі вакол перавыбараў с/с—„Непатрэбна было вам прыяжджаць, самі справіліся-б з работай па перавыбарах“. (Сакратар ячэйкі Старасельскага с/с). Ці другі факт. Будучы ў с/с шэфпрадстаўнік хацеў дапамагчы падрыхтаваць справаздачу ў рабоце каапэрацыі і гэтакім чынам дасканальна азнаёміцца з ёю, дык на гэта каапэратар партыец адказаў: „Не патрэбна, самі справімся з работай“ (Бліскі с/с).

Такія зьявішчы заўважаюцца ня толькі ў паасобных вясковых работнікаў, а нават і ў паасобных кіраўнікоў цэлых райарганізацый.

Напрыклад, сакратар Пухавіцкага РК так сказаў: „Наша партарганізацыя моцная, таму мы ня вельмі нуждаемся ў дапамозе шэфтаварыства. І далей, калі-б мы былі слабы, дык самі прыляцелі-б у горад за дапамогай“. А на справе выявілася, што ў часе перавыбараў с/с частка камуністаў ня бачыла кулакоў, ацэньвалі кулацкія выступленьні як толькі „хуліганскія“ (на ітогавай райнарадзе аб перавыбарах с/с).

Такія адносіны з боку вясковых арганізацый да шэфработы зьяўляюцца аднэю з перашкод на шляху разьвіцьця шэфработы. Вясковыя арганізацыі, асабліва партыйныя, павінны глядзець на шэфработу як на неабходную і важную частку ўсяе сыстэмы работы партыі на вёсцы, сваечасова рэагаваць на выпадкі пакрыўленьня, няўмелага падыходу да пытаньняў перабудовы сельскае гаспадаркі.

## Становішча і работа шэфтаварыства ў горадзе.

Калі пра работу шэфтаварыства ў вёсцы можна было разам з шэрагам яшчэ ня зьнішчаных недахопаў, прывесьці паасобныя прыклады станоўчага парадку, дык гэтага нельга зрабіць па шэфрабоце ў горадзе.

Праўда, у 1928 г. на некаторых прадпрыемствах (Меншвей, Белдзяржбуд.) пачалі працаваць шэфтаварыствы, якія да гэтага фактычна цэлы год не існавалі і ў некаторых прадпрыемствах і ўстановах, дзе дасюль ня было іх, за апошні час арганізаваліся (п./к. Абутнікаў, Мэталёўстаноў, Камгас). Але ўсё гэта не гаворыць аб агульным паляпшэньні работы шэфтаварыства ў горадзе. Склад шэфтаварыства параўноўваючы з 1927 г., не палепшыўся, а часам наадварот. Напрыклад, на 26 шэф. т-ваў райёну было ў 27 г.—4120 членаў, а ў пачатку 1929 г. 3400—памяншэньне на 720 чал. або на 18 проц.

Агульны склад шэфтаварystваў па раёну:

| Усяго чл. шэфт-ваў. | Па сац. становішчу | | Па партыйнасьці | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Рабочых | Служач. | КП(б)Б | ЛКСМБ | Б. П. |
| 3405 | 1558 | 1847 | 670 | 379 | 2456 |
| у %% | 45% | 55% | 19% | 11% | 70% |

Гэтыя лічбы паказваюць, што ў складзе шэфтаварystваў нязначная партпраслойка (19 проц.) Партасяродак у актыве складае 40 проц. (зьвесткі па 20 шэфтаварystвах).

## Кіраўніцтва ячэек шэфработай.

Некаторае палепшэньне работы шэфтаварystаў у вёсцы зьяўляецца вынікам таго, што ячэйкі за апошні пэрыяд прызначалі ім вялікую ўвагу. Але ўсё-ж такі кіраўніцтва ячэек яшчэ трымала кампанейскі характар. На бюро ячэек абгаварваліся пытаньні, зьвязаныя з правядзеньнем тае ці тае кампаніі, вынікі паездак у вёску і г. д.

Пры тым ячэйкамі не аддавалася як сьлед увага на пастаноўку шэфработы ў горадзе сярод самое шэфскае масы, на масаваць шэфработы. Так, напрыклад, перавыбарчая кампанія с.-с.—ячэйкі шмат увагі аддалі гэтай кампаніі непасрэдна ў вёсцы: вылучылі таварышоў для выездаў, інструктавалі іх, а пастаноўкай масавасьці ў горадзе навакол гэтай кампаніі ячэйкі амаль не займаліся.

## Шэфтаварыства і ЛКСМБ.

Камсамол абвясьціў „паход за ўраджай“, паставіў у цэнтры ўвагі свае работы пытаньні перабудовы сельскае гаспадаркі на сацыялістычным грунце. У ясьвятленьні гэтых задач цікава праверыць, як

справа з удзелам КСМ у рабоце шэфтаварыстваў, якая яго ўдзельная вага, якую ён ініцыятыву праяўляе ў шэфрабоце на прадпрыемстве.

З 3405 членаў шэфтаварыства членаў ЛКСМБ—379 чал., або 11 проц. Сярод кіруючага складу шэфработнікаў (старшыні В. Б.) вельмі мала камсамольцаў, сярод вытворчага шэфактыву іх зусім амаль няма. Вылучаныя прадстаўнікі камсамольскіх ячэек у шэфтаварыствы ніякай ініцыятывы не праяўляюць. Культпаход, які быў праведзены КСМ, слаба ўвязаўся з шэфтаварыствам. У самым райпраўленьні доўгі час таксама ніякай работы сярод моладзі не праводзілася, ня было юнацкай сэкцыі (цяпер ужо арганізавана). Гэтыя факты ніяк ня вяжуцца з вышэй памянёнымі задачамі, якія стаяць перад КСМ. „Паход за ўраджай“, „культпаход“ і шмат якія большыя кампаніі ў вёсцы вымагаюць ад камсамолу гораду ў першую чаргу большага ўдзелу ў шэфтаварыстве. На гэтую дробязь камсамольскімі органэмі, у тым ліку і друкам, ня было прызначана дастаткове ўвагі.

### Шэфтаварыствы і прафарганізацыі.

Аб тым, што паміж прафсаюзамі і шэфтаварыствамі ўзаемаадносіны ненармальныя, шмат пісалася ў нашых газэтах („Зьвязда“, „Рабочий“). Характэрна тое, што ніводзін з закранутых прафсаюзаў у друку ня лічыў для сябе патрэбным даць растлумачэньне па сутнасьці. Ня толькі на выклікі ў друку прафсаюзы не рэагавалі, на райгрупавых партсходах, на партканфэрэнцыях нікто з прафработнікаў ня лічыў неабходным застанавіцца на тым, чаму прафсаюзы ня цікавяцца шэфтаварыствамі. Усё гэта зьяўляецца ў вышэйшай меры ненармальным. Па Менску нам вядомы толькі 2 факты, калі ЦП ставілі ў сябе справаздачы шэфтаварыстваў (Працасьветы і Мастацтва), пры чым адзін з іх пасьля таго, як аб ім напісалі ў газ. „Зьвязда“.

ЦП саюзу Нархач у асобе старшыні на просьбу шэфтаварыства дапамагчы ЦП адказвае так: „Я табе даю саюзную масу, рабі з ёю што хочаш, а больш нічога не магу вам зрабіць“. Калі фабзаўкомы ўстаўляюць у каштарыс некаторыя сумы для дапамогі шэфтаварыству ў рабоце на вёсцы, дык вышэйшыя прафорганы выкрэсьліваюць. Пастанова XII-га Зьезду КП(б)Б па гэтым пытаньні гаворыць: „Зьезд падкрэсьлівае асаблівую неабходнасьць актыўнага ўдзелу ўсіх саюзных арганізацый па разгортваньню працы па культурнаму шэфству рабочых над вёскаю“. Трэба, каб гэта пастанова была шырока папулярызавана сярод прафарганізацый з тым, каб дамагчыся перамогі ў адносінах прафсаюзаў да шэфработы, каб ёй прафарганізацыі прызначылі максімум увагі і патрэбную матар'яльную дапамогу.

---

# У ЦК КП(б)Б

## Аб выніках камплектаваньня і папярэдніх выніках работы сеткі партасьветы на 1928-29 г.

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б ад 22-III—1929 г.*

1. Адзначыць, што пры камплектаваньні сеткі партасьветы на 1928-1929 г. дабраахвотнасьць партвучобы сабе цалкам апраўдала, што пры камплектаваньні выявілася значная зацікаўленасьць партыйцаў, камсамолу і беспартыйнага актыву вучобай, што першапачатковае камплектаваньне партсеткі дало значнае павялічэньне колькасьці займаючыхся ў параўнаньні з мінулым годам, і што пры некаторым павялічэньні абсалютнай колькасьці партыйцаў, паменшыўся абхоп партыйцаў у адносіне да ўсяе партарганізацыі.

2. Разам з гэтым канстатаваць, што ў правядзеньні дабраахвотнасьці мелі мейсца цэлы шэраг скажэньняў. Ня толькі нізавыя кіруючыя парторганы, але раённыя і нават некаторыя акруговыя ня ўцямілі сабе як сьлед прынцыпаў дабраахвотнасьці партвучобы, то разумеючы яе абмяжована („свабодны выбар форм вучобы, а не вучобы"), то спрошчана (адмовіўшыся ад кіраўніцтва партыі). Недастаткова папулярызаваліся віды, формы і мэтады партвучобы, ня ўлічвалася падрыхтоўка асобных партыйцаў, а праводзіўся мэханічны запіс згодна заявы. Былі таксама факты прымусу, аўтаматычнага сьпісачнага залічэньня.

3. Значна большае мейсца ўзялі сярэднія ступені партасьветы. У горадзе ўзрасла колькасьць вечпартшкол, асабліва з двух-гадовым курсам; упяршыню арганізаваны савпартшколы ў большасьці вясковых раёнаў; разьвілося далей і пашыралася завочнае навучаньне, асабліва праз Гомельскую завочную савпартшколу. Разам з гэтым канстатаваць недастатковае разьвіцьцё прадметных гурткоў, асабліва па самаадукацыі, слабое распаўсюджаньне гурткоў бягучай палітыкі і амаль што поўнае адсутнічаньне эпізодычных гурткоў, гурткоў па вывучэньню асобных праблем і г. д.

4. Канстатаваць, што значны адсеў, зрывы заняткаў, і недастатковая наведваемасьць апрача аб'ектыўных прычын (перагрузка грамадзкай работай і інш.) зьявілася вынікам памылак камплектаваньня (слабы вучот падрыхтоўкі, запатрабаваньняў партыйца, недастатковае прыстасаваньне партвучобы да асобных партыйцаў) і невыстарчальнай увязкі партвучобы з вырашэньнем практычных задач партыі ў даны пэрыяд.

5. Канстатаваць, што з выхадам „У дапамогу партвучобе" створана магчымасьць для забясьпячэньня прапагандыста неабходнымі для работы матар'яламі і мэтодычнай дапамогай, але што да гэтага часу бюлетэнь „У дапамогу партвучобе", дзякуючы спазьненьню некаторых матар'ялаў, а таксама цэламу шэрагу тэхнічных памылак, яшчэ мала здавальняе прапагандыста.

6. Адзначыць усё яшчэ слабую тэорытычную і мэтадычную падрыхтоўку пераважнай большасьці прапагандыстаў і адсутнічаньне сыстэматычнай плянавай работы па падвышэньню іх кваліфікацыі ў працэсе работы.

Ня гледзячы на тое, што рабочы-прапагандыст праяўляе сябе на прапагандысцкай рабоце цэлым шэрагам станоўчых бакоў (сувязь з вытворчасьцю, знаёмства з асяродзішчам, а таксама большая сумленнасьць у падрыхтоўцы да заняткаў), лік рабочых прапагандыстаў вельмі нязначны, ня створаны таксама спрыяючыя ўмовы для росту іх колькасна і для падвышэньня кваліфікацыі ўжо працуючых.

У далейшай рабоце па камплектаваньню сеткі партасьветы і палепшаньню яе работы зьвярнуць асаблівую ўвагу на наступныя задачы:

1. Дамагчыся больш плянавасьці, як у разгортваньні сеткі партвучобы, так і выданьня падручнікаў, падрыхтоўкі прапагандыстаў і кіраўніцтва ўсёю сеткаю партвучобы.

2. Пашырыць сетку партасьветы, асабліва для поўнага абхопу рабочых уноў уступаючых у партыю.

3. Дамагчыся поўнай увязкі партвучобы з практычнымі задачамі партыі да прадпрыёмства і вёскі ўключна.

4. Паляпшэньне ідэёвага зьместу партвучобы, барацьбу з ухіламі ад ленінскай лініі ў партыі і спрашчэнствам, паляпшэньні якасьці ўсяе работы па партвучобе, дзеля чаго.

1) Адразу пры сканчэньні 1928-29 навучальнага году пачаць шырокую растлумачальную работу па партвучобе, папулярызуючы ўсе віды і формы і мэтады партвучобы, скарыстоўваючы партсходы, сходы рабочых, сельска-гаспадарчых рабочых, беднаты, калгасьнікаў, друк, насьценгазэты, арганізуючы асобныя вечары прапаганды вучобы ў клюбах, хатах-чытальнях і г. д., растлумачыўшы прынцып добраахвотнасьці.

2) З будучага году праводзіць камплектаваньне ў працягу ўсяго навучальнага году, ствараючы школы і гурткі для ўноў завербаваных на вучобу, прычым асаблівую ўвагу зьвярнуць на максымальны абхоп беспартыйных рабочых сеткай партасьветы, на значнае

павялічэньне абхопу жанчын, на стварэньне новых школ і груп для ўноў уступаючых у партыю рабочых, с.-г. рабочых, калгасьнікаў, а таксама для беспартыйных рабочых, с.-г. рабочых і беднаты. АПА ЦК распрацаваць пытаньне аб стварэньні асобных школ палітграматы пры саўгасах і калгасах, а таксама стварыць асобныя каротка-тэрміновыя школы для раскіданых партыйцаў на вёсцы, с.-г. рабочых, батракоў і беднаты, забясьпечыўшы іх інтэрнатам, харчаваньнем, аслабаняючы іх ад працы. Прыблізіць партвучобу да прадпрыемства, розных зьмен і г. д. Пры камплектаваньні рашуча праводзіць прынцып дабраахвотнасьці; камплектаваць сетку самаадукацыі адначасова з сеткай партвучобы.

3) Улічваючы, што да гэтага часу прапагандыстыя ў справе камплектаваньня мала ўдзельнічалі, лічыць неабходным усю папярэднюю растлумачальную і арганізацыйную работу, а таксама ўсю работу па камплектаваньню ячэйкам праводзіць пры актыўным удзеле прапагандыстаў.

4) Канстатаваць, што ў вёсцы сетка партасьветы амаль што цалкам пераведзена на беларускую мову, у горадзе-ж ў большасьці выпадкаў перавод на беларускую мову носіць толькі фармальны характар. З будучага году правесьці поўнасьцю дырэктыву ЦК аб пераводзе ўсяе сеткі партвучобы ў горадзе на беларускую мову, адначасова забясьпечыць умовы для партвучобы на мовах нацменшасьцяй, у прыватнасьці стварыўшы рухомыя школы для іх на дзяржаўным бюджэце.

5) Улічваючы вялікую зацікаўленасьць у агульна-адукацыйных прадметах партыйцаў, а таксама разнабой у гэтай справе, прапанаваць АПА ЦК распрацаваць пытаньне аб увядзеньні агульна-адукацыйных прадметаў у сетку партвучобы ў 2 месяцы і аб увязцы гэтых прадметаў з партвучобай, адначасова распрацаваць мерапрыемствы па палепшаньню пас аноўкі грамадазнаўства і палітграматы ў агульна-адукацыйных школах для дарослых.

6) Пры камплектаваньні ўзяць асаблівую ўвагу на стварэньне эпізодычных гурткоў па вывучэньню асобных праблем, а таксама на стварэньне адпаведных умоў, пры якіх была-б забясьпечана ўвязка работы школ і гурткоў з практычнымі задачамі партыі, ліквідаваньне зрыву заняткаў (пасяджэньні і сходы у часе заняткаў і г. д.). Прапанаваць АПА Акругкому забраніраваць ня менш 2-х дзён у тыдзень на партвучобу.

7. Прапанаваць АПА ЦК і рэдакцыі бюлетеню „У дапамогу партвучобе“ своечасова забясьпечыць сетку партасьветы адпаведнымі матар'яламі, мэтодраспрацоўкамі і заданьнямі, асабліва па бягучых пытаньнях; прыняць неабходныя меры да своячасовай рассылкі бюлетеню і ліквідацыі тэхнічных памылак у яго выданьні.

8) Лічачы ахоп партактыву вучобай нездавальняючым, прапанаваць АПА і Аргаддзелу распрацаваць меры па стварэньню ўмоў для вучобы партактыву, у прыватнасьці дамагчыся патрэбнай разгрузкі завочнікаў, забесьпячэньня марксыцка-ленінскай літаратурай раёнага актыву, асабліва забясьпечыўшы ўмовы для вучобы вылучаных для падрыхтоўкі 150 таварышоў.

9. Канстатуючы, што АПА—габінэты ў акругах за апошні год лепш сталі абслугоўваць сетку партасьветы (падбор мясцовага матар'ялу, пастаноўка кансультацый і г. д.), лічыць неабходным зрабіць іх цэнтрам лябараторнай праработкі пытаньняў, кіраўніцтва партработай, падбору матар'ялаў і інструктаваньня ў гэтым пытаньні раёнаў.

10. АПА і БДВ у працягу 1929-30 нав. году выдаць марксыцка-ленінскую бібліотэчку на беларускай мове (10-12 назваў—для раённага актыву) АПА і БДВ не пазьней мая месяца прыступіць да падрыхтоўкі падручнікаў (асабліва для АПШ), прыстасаваных да ўмоў БССР, у тым ліку агрограмату, гісторыю КП(б)Б з тым, каб друкаваньне іх было скончана не пазьней 15 жніўня.

11. У мэтах падрыхтоўкі прапагандыстаў лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы: а) склікаць цэнтральныя курсы штатных прапагандыстаў на 2 месяцы, на 100 чал., забясьпечыўшы іх неабходнымі кіраўнікамі, літаратурай, інтэрнатамі і харчаваньнем. На курсах выдзяліць групу таварышоў для падрыхтоўкі ў якасьці кіраўнікоў самаадукацыяй, забясьпечыўшы ў праграме дастатковую ўвагу пытаньням самаадукацыі. Наркамасьветы забясьпечыць сродкамі; б) Прапанаваць Акругкомам зараз-жа высунуць рабочых ад варштату на прапагандыскую работу, а таксама с.-г. рабочых і батракоў на вёсцы, з курсантаў ВПШ, вячэрніх і нядзельных камвузаў, сеткі самаадукацыі, распачаўшы з імі зараз-жа падрыхтоўку, вызваліўшы ад грамадзкай нагрузкі, а таксама вызваліўшы іх на час летняй падрыхтоўкі ад працы, арганізаваўшы 2-хмесячныя летнія курсы прапагандыстаў; в) падрыхтаваць арганізацыю з восені 1929 г. больш працяглых вячэрніх курсаў па падрыхтоўцы рабочых прапагандыстаў (5-6 месяцаў), а таксама праводзіць завочную падрыхтоўку з дадатковымі курсамі-канфэрэнцыямі для высунутых рабочых прапагандыстаў; г) забясьпечыць рабочага прапагандыста магчымасьцю падрыхтоўкі да заняткаў і падвышэньня яго кваліфікацыі, вызваліўшы 50 чал. за кошт сродкаў партасьветы на адзін дзень у тыдзень ад работы, наладзіўшы рэгулярную работу пропкалектываў, забясьпечыўшы яго літаратурай і інш.

12. Прымаючы пад увагу, што ў цэлым шэрагу вясковых раёнаў меў месца зрыў партвучобы, і разгортваньне яе пачалося толькі ў студзені—лютым месяцы, Акругкомам заслухаць даклад аб становішчы партвучобы і прыняць меры для забясьпячэньня найбольш нармальнага ходу заняткаў да канца навучальнага году.

## Аб рабоце сярод сэзонных рабочых.

*Пастанова сэкратарыяту ЦК КП(б)Б ад 1/IV—1929 г.*

Ня гледзячы на рад дырэктыў партыі аб рабоце сярод сэзоньнікаў, вынікі мінулага году сьведчаць аб зусім недастатковай увазе гэтай задачы як з боку прафэсыянальных, гаспадарчых і партыйных арганізацый. Таму надыходзячы сэзон 1929 г. павінен быць максымальна выкарыстаны для поўнага абхопу рабочых-сэзоньнікаў эканамічнай і палітычнай працай і пастаноўкай правільнага культурна-палітычнага іх выхаваньня. Масавая работа сярод сэзоньнікаў па свайму зьместу і форме на кожным паасобным прадпрыемстве павінна быць пабудавана так, каб у кожным сэзоньніку-рабочым выхоўвалася клясавае разуменьне задач сацыялістычнага будаўніцтва наогул і ў прыватнасьці, каб тыя сэзоньнікі, якія пасьля заканчэньня работ варочаюцца ў вёску, станавіліся там сапраўднымі праваднікамі нашай палітыкі ў вёсцы. У справе адносін сэзоньніка да прадпрыемства, масавая работа павінна быць накіравана ў бок актывізацыі адносін усяе рабочае масы да падняцьця працоўнае дысцыпліны, рашучае барацьбы з прагуламі, п'янствам, хуліганствам, рвачаствам і г. д. і да ўсямернага патаненьня і палепшаньня якасьці як будаўнічых, так і іншых сэзонных работ.

На падставе гэтага Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе:

1. АК і РК, прафсаюзам і гаспадарчым органам зараз-жа прыступіць да намячэньня канкрэтных мерапрыемстваў па стварэньню адпаведных умоў і па шырокаму абслугоўваньню сэзоньнікаў эканамічнай палітычна-масавай і культурна-асьветнай работай, як прыстасаваньне памяшканьняў пад жыльлё, асабліва ў вясковых мясцовасьцях, забесьпячэньне рабочых вытворчым адзеньнем, мэддапамогаю, харчамі і акуратнай іх дастаўкай, абсталяваньне бібліятэк, чырвоных куткоў, кіно-перасовак, прызначэньне работнікаў для прымацаваньня і г. д.

2. Па магчымасьці на ўсіх пабудовах і іншых сэзонных работах у горадзе і вёсцы арганізаваць самастойныя парт'ячэйкі, накіраваўшы туды для работы сакратарамі, партарганізатарамі, агітпроп-арганізатарамі, жанарганізатарамі моцных, падрыхтаваных партыйцаў, выкарыстаўшы для гэтага і прыяжджаючых у акруговыя арганізацыі на летнюю практыку студэнтаў камвузаў, савпартшкольцаў і г. д. Работу пэрт'ячэек сэзонных прадпрыемстваў узмацніць шляхам жывога кіраўніцтва і практычнай дапамогі з боку райкомаў. Парткомы, у раёне якіх маюцца вялікія сэзонныя работы, для работы сярод рабочых гэтых прадпрыемстваў павінны практыкаваць выдзяленьне пазаштатных інструктароў. Перад парт'ячэйкамі паставіць задачу стварэньня кадраў беспартыйнага рабочага актыву, у мэтах уцягненьня лепшых перадавых, сапраўды праверaных на грамадзкай рабоце рабочых і работніц у партыю. Камсамолу прыняць меры да ўзмацненьня камсамольскіх ячэек на сэзонных прадпрыемствах, асабліва накіроўваючы туды прапагандыстаў.

3. АК і РК забясьпечыць выкананьне ячэйкамі дырэктыў ЦК КП(б)Б ад 29 кастрычніка 1928 г. па рабоце сярод жанчын-сэзоньніц. Жанаддзелу ЦК на падставе вопыту мінула году распрацаваць мерапрыемствы па палепшаньню работы дэлегацкіх сходаў сэзоньніц.

4. Прафорганам для работы на сэзонных прадпрыемствах вылучыць лепшых работнікаў, дамагаючыся ўцягненьня ў актыўную прафэсыянальную і грамадзкую работу і самых сэзоньнікаў. Для палепшаньня работы сярод сэзоньнікаў, ЦСПСБ абгаварыць пытаньне адносна забесьпячэньня актыўнай дапамогі ў гэтай справе з боку усіх прафсаюзаў. У прыватнасьці мець на ўвазе як вопыт і над буйнымі сэзоннымі прадпрыемствамі ўвесьці практыку шэфства.

5. Як асноўныя элементы, у праграму палітычнай і культурна-асьветнай работы сярод сэзоньнікаў павінны быць уключаны пытаньні інтэрнацыянальнага выхаваньня і барацьбы з антысэмітызмам, клясавага разуменьня сэзоньнікам інтарэсаў вытворчасьці, пытаньні барацьбы з рэлігійнымі забабонамі, барацьбы з алкагалізмам і г. д.

Культурна-масавая работа з праграмаю рабочага дню рабочага-сэзоньніка павінна быць увязана так, каб гэтым было забясьпечана яму найлепшае правядзеньне адпачынку, таму, напрыклад, клюбная работа павінна быць набліжана да рабочага перанясеньнем яе на вытворчасьць – у чырвоныя куткі, агульныя памяшканьні з падборам больш лёгкіх форм яе ажыцьцяўленьня, як пасылка ў перапынку на полудзень на эстрады гармоні, радыё і кіно-перасоўкі, арганізацыя спорту, чыткі літаратуры і насьценгазеты, справачная работа і г. д.

6. Нацыянальны склад рабочых сэзоньнікаў заўсёды зьяўляецца вельмі стракатым; таму парт'ячэйкам і праforганам сваю ўвагу неабходна сканцэнтраваць на вядзеньні шырокай растлумачальнай работы сярод рабочых па пытаньнях нацыянальнай палітыкі і яе практычных задач, сутнасьці змаганьня з антысэмітызмам і шавінізмам, вядучы з ім барацьбу, узмацніўшы інтэрнацыянальнае выхаваньне рабочых, забясьпечыўшы правядзеньне сярод рабочых будаўнікоў і сэзоньнікаў работы на мовах іх нацыянальнасьцяй.

7. АПАД ЦК у 2-х тыднёвы тэрмін распрацаваць праграму заняткаў палітгурткоў на сэзонных прадпрыемствах.

Наркамасьветы забясьпечыць на сэзонных прадпрыемствах арганізацыю школ лікбеза, а таксама снабжэньне апошніх належнымі падручнікамі і прыладамі.

ЦП саюзу сельгасрабочых забясьпечыць абслугоўваньне культурна-масавай работай плытагонаў, шляхам арганізацыі на плытох чырвоных куткоў, а на беразе—на мясцох стаянак плытоў—скарыстаньне хат-чытален і раздачы газэт і літаратуры.

8. Наркамаховы здароўя, Галоўсацстраху і гаспадарчым органам забясьпечыць на сэзонных прадпрыемствах рашучае палепшаньне як вытворчых, так і сацыяльна-бытавых умоў рабочага сэзоньніка (вытворчае адзеньне, мэддапамога з належным лячэньнем і папярэджаньнем праф. хвароб, лазьня, пральня, сушыльня адзеньня на торфа-распрацоўках, дзіцячыя ясьлі, пляцоўкі, каапэрацыйнае абслугоўваньне, жыльлёвыя ўмовы і г. д.).

9. У мэтах больш пасьпяховай барацьбы з канкрэтным злом сярод сэзонных рабочых—п'янствам, гульнёй у карты і інш.,—адмоўнымі зьявішчамі, узьнікаючымі на гэтай глебе,—прафсаюзы, апрача агульна-культурных мерапрыемстваў, павінны дабіцца поўнага ўцягненьня рабочых сэзоньнікаў у касы ашчаднасьці. Галоўкіраўніцтву, Дзяржаўнай Касе Ашчаднасьці распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы, якія-б наблізілі касы ашчаднасьці да сэзоных прадпрыемстваў.

10. Прафсаюзам і гаспадарчым органам прыняць усе меры да ажыўленьня работы вытворчых камісій і нарад, больш прыцягваючы да ўдзелу ў іх рабочых і адміністрацыйна-тэхнічны пэрсанал, ставячы на гэтых камісіях і нарадах практычныя пытаньні палепшаньня работы данай вытворчасьці, заахвочваючы сапраўдныя дзелавыя прапановы рабочых у справе палепшаньня данай вытворчасьці, сыстэматычна робячы справаздачы перад рабочымі аб іх выкананьні з тым, каб сапраўды ўся рабочая маса была прыцягнута да шырокага кантролю за ўсім ходам сэзонных работ. Адначасова праforганы павінны аказваць усямернае садзейнічаньне мерапрыемствам гаспадарчых органаў, накіраваных да падняцьця вытворчай дысцыпліны і вытворчасьці працы. Асаблівую ўвагу ў гэтых адносінах зьвярнуць на грамадзкія і шляхова-будаўнічыя работы, дзе рацыяналізацыя вытворчых працэсаў, падняцьцё вытворчай дысцыпліны і вытворчасьці працы наогул хранічна кульгае.

11. У мэтах стварэньня кваліфікаванай рабочай сілы з беспрацоўных і батракоў у вясковых мясцовасьцях, Саюзу Сельскагасп. рабочых узяць курс на арганізацыю арцеляй рабочых на тарпяных, меліярацыйных, лесазагатоўчых і інш. сэзонных рабочых. Лесбелу з прафсаюзамі абмеркаваць пытаньне аб падрыхтоўцы новых кадраў сплаўных дубавікоў з беднякоў і батракоў.

12. Ажыцьцяўленьню гэтых важнейшых задач павінна садзейнічаць у максымальнай меры шырока разгорнутая сярод рабочых здаровая самакрытыка. Парт'ячэйкам стварыць для гэтага адпаведныя ўмовы як унутры самых ячэек, так і сярод рабочых.

13. Акругкомам і райкомам, асабліва ў тых раёнах, дзе прадбачацца найбольш буйныя будаўнічыя работы, правесьці спэцыяльныя нарады, заслухоўваючы даклады фракцый адпаведных саюзаў і гаспадарчых органаў для практычнага правядзеньня гэтых дырэктыў у жыцьцё.

14. Па сканчэньні сэзону работ, партарганізацыям і праforганам адпаведным чынам падсумаваць вопыт работы, з адначасовай распрацоўкай практычных мерапрыемстваў па рабоце з сэзоньнікамі ў час зімовага перапынку, устанаўляючы сувязь і кіраўніцтва імі з боку адпаведных партыйных і прафсаюзных арганізацый і ўцягваючы іх у грамадзкае і палітычнае жыцьцё.

---

# У ЦКК КП(б)Б.

## Пастановы II-га Пленуму ЦКК КП(б)Б.

(*Красавік 1929 г.*).

### Аб ходзе падрыхтоўчай работы да чысткі партыі.

1. Заслухаўшы даклад аб ходзе падрыхтоўчай работы да чысткі, Пленум ЦКК КП(б)Б канстатуе: што ў выніку праведзенай растлумачальнай работы, пастановы лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і XII Зьезду КП(б)Б аб чыстцы партыі ўспрыняты арганізацыямі КП(б)Б, як важнейшая і неадкладная задача, бяз правільнага вырашэньня якой партыя ня зможа ачысьціць свае шэрагі ад некамуністычных элемэнтаў і тым самым ня зможа ўзмацніць ідэёвай падрыхтаванасьці ўсяе КП(б)Б да правядзеньня задач сацыялістычнага наступленьня, ня зможа яшчэ больш узмацніць давер'я да партыі і аўтарытэту яе, прыцягнуць на яе бок новыя пралетарскія і батрацкія пласты гораду і вёскі.

2. Адначасова з гэтым Пленум ЦКК КП(б)Б адзначае, што арганізацыйна-падрыхтоўчая работа да чысткі партыі, не ўважаючы на шэраг дырэктыў ЦКК УсеКП(б) і ЦКК КП(б)Б, праходзіць марудна, а ў некаторых мяйсцох і нездавальняюча. Мерапрыемствы, вызначаныя ў дырэктыўным лісту ЦК і ЦКК КП(б)Б, у большасьці акруг у тэрмін ня выкананы—таварышы ў склад праверачных камісій яшчэ ня ўсімі АК вылучаны і ЦКК не дасланы; складаньне ячэйковых характарыстык праходзіць вельмі марудна пры недастатковым кіраўніцтве з боку АКК і АК. У паасобных мяйсцох наглядаецца некаторае захапленьне пытаньнем распрацоўкі архіўных матар'ялаў і мала зварочваецца ўвагі вывучэньню членаў і кандыдатаў партыі ў штодзённым партжыцьці.

Пленум адзначае, што яшчэ ня ўсімі АК і РК разгорнута дастатковая работа па шырокому ўцягненьню і мабілізацыі грамадзка-партыйнае думкі парт. арганізацыі навакол падрыхтоўкі да праверкі і чысткі партыі асабліва ў вясковай партарганізацыі. Адзначаюцца недапушчальныя настроі з боку некаторых работнікаў у тым, што чыстка партыі—гэта справа толькі кантрольных камісій.

3. Работа па ідэёва-палітычнай падрыхтоўцы да чысткі партыі беспартыйных рабочых масс і працоўнага сялянства, асабліва батрацтва і беднаты, праходзіць недастаткова, а ў шэрагу мейсц яшчэ і зусім не разгорнута. Дырэктыўныя ўказаньні з лісту ЦК і ЦКК КП(б)Б аб тым, каб „неадкладна арганізаваць шырокае абгаварэньне гэтага пытаньня (чысткі партыі) на адчыненых сходах ячэек з прыцягненьнем рабочых, батракоў і беднаты"—у большасьці мейсц яшчэ не праламіліся. Пры гэтым Пленум ЦКК КП(б)Б адзначае, што ў шэрагу вясковых арганізацый наглядаецца замкнутасьць і боязкасьць ставіць пытаньне аб чыстцы на адчыненых сходах і боязкасьць у некаторае часткі партыйцаў, асабліва ў вёсцы, выкрываць свае недахопы. У паасобных рабочых ячэйках маюцца шкодныя настроі скарыстаць чыстку партыі для націску на гаспадарнікаў з мэтай паслабленьня выкананьня дырэктыў партыі аб падняцьці працоўнай дысцыпліны і нарміраваньня працы.

4. Пленум адзначае, што асьвятленьне пытаньняў падрыхтоўкі да чысткі ў цэнтральных і акруговых газэтах яшчэ дастаткова не разгорнута, асабліва адстаюць насьценныя газэты, як на прадпрыемствах, так і ў вёсцы. Асьвятленьне ў друку, галоўным чынам, вядзецца ў напрамку папулярызацыі чысткі і выяўленьня паасобных фактаў хворых зьявішч і зусім мала зьвяртаецца ўвагі пытаньням арганізацыйнай падрыхтоўкі і яе недахопам; амаль нічога не праводзіцца на старонках газэт (цэнтральных і акруговых) у сэнсе абмену вопытам паасобных арганізацый. Падрыхтоўка да чысткі вайсковай партарганізацыі зусім не асьвятляецца ў цэнтральных і акруговых газэтах.

5. Пленум ЦКК КП(б)Б адзначае, што чыстка партыі можа быць пасьпяховай з найменшай колькасьцю памылак пры тых толькі ўмовах, калі будзе праведзена добрая арганізацыйна-ідэёвая падрыхтоўка да чысткі, як усе масы партыйцаў, так і беспартыйных шырокіх мас рабочых і працоўнага сялянства, з шырокім разгортваньнем крытыкі і самакрытыкі ў друку (у цэнтральных, акруговых і насьценгазэтах), на партыйных адчыненых сходах з шырокім удзелам рабочых, батракоў, беднаты і лепшай серадняцкай

часткі; з шырокім растлумачэньнем запатрабаваньняў, якія прад'яўляе партыя кожнаму члену і кандыдату партыі і тымі беспартыйнымі, якія будуць прыцягнуты ў дапамогу партыі пры праверцы і чыстцы яе шэрагаў.

Пленум цалкам ухваляе тэзісы да аб'яднанага Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) аб чыстцы і праверцы членаў і кандыдатаў партыі і пастанаўляе:

а) Усім АКК, Акругкомам і Райкомам партыі неадкладна арганізаваць прапрацоўку тэзісаў да аб'яднанага Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) аб чыстцы на агульных адчыненых сходах ячэек.

АКК разам з АК і РК КП(б)Б прыняць усе меры да неадкладнага выкананьня раней дадзеных дырэктыў па пытаньню падрыхтоўкі да чысткі партыі, у прыватнасьці, выкананьня дырэктыўнага лісту ЦК і ЦКК КП(б)Б ад 6/III—29 г.

АКК і АК узмацніць інструктаваньне, жывое кіраўніцтва і практычную дапамогу раёнам у справе падрыхтоўкі да чысткі, папярэджваючы і праводзячы рашучую барацьбу з праявамі ў паасобных мейсцах боязкасьці адкрыта і рашуча ставіць пытаньне аб генэральнай частцы партыі, а таксама і з настроямі скарыстаць чыстку з мэтай націску на гаспадарнікаў паслабіць выкананьне дырэктывы партыі аб падняцьці працоўнай дысцыпліны і нарміраваньні працы.

б) АКК, АК і РК КП(б)Б асаблівую ўвагу зьвярнуць на ідэёва-арганізацыйную падрыхтоўку ўсяе КП(б)Б да чысткі, а таксама шырокіх беспартыйных рабочых мас, батрацтва, беднаты і лепшай серадняцкай часткі, шляхам празядзеньня адчыненых сходаў ячэек з шырокім запрашэньнем беспартыйных рабочых у горадзе, а ў вёсцы—сел.-гасп. рабочых, батрацтва, беднаты і лепшай серадняцкай часткі. Пры разгортваньні гэтай работы Пленум ЦКК КП(б)Б абавязвае: „ні ў якім разе не абарачваць адчыненыя сходы ў мейсцы дэмагагічнай дыскрэдытацыі партымі чужымі пралетарыяту элементамі і не дапушчаць на гэтыя сходы непрацоўныя і клясава-чужыя элементы; ні ў якім разе ня ісьці ў хвасьце беспартыйнай масы там, дзе справа ідзе аб правільнасьці партлініі таго ці іншага партыйца; скарыстаць адчыненыя сходы для растлумачэньня лініі партыі і ўцягненьня ў шэрагі партыі лепшай часткі з беспартыйных рабочых, батрацтва і сялян-беднякоў“ (з тэзісаў т. Яраслаўскага).

в) Узмацніць ва ўсіх цэнтральных, акруговых і насьценных газэтах асьвятленьне пытаньняў падрыхтоўкі да чысткі партыі, не абмяжоўваючыся пры гэтым агульнымі разважаньнямі аб чыстцы і выяўленьнем паасобных хваравітых зьявішч, а зьвярнуць галоўную ўвагу на асьвятленьне арганізацыйна-ідэёвай падрыхтоўкі і яе недахопаў, на большае асьвятленьне практычных прапаноў ячэек і паасобных партыйцаў,—на абмен арганізацыйным вопытам паасобных арганізацый, на высьвятленьне падрыхтоўкі да чысткі вайсковых партарганізацый.

Прэзыдыуму ЦКК і акруговым КК сачыць за тым, каб у цэнтральных і акруговых газэтах „было забясьпечана ўпаўне вытрыманае прынцыповае асьвятленьне задач чысткі, каб увесь час падтрымоўваць палітычны ўзровень абгаварэньня пытаньняў чысткі, каб побач з асьвятленьнем фактаў бязьлітаснага выкідваньня з шэрагаў партыі ўсяго непатрэбнага, у друку было дастаткова шырока адзначана ўсё каштоўнае, станоўчае ў рабоце правераемай арганізацыі. Б'ючы ўсе нягодныя элемэнты, друк ні ў якім разе не павінен тэрарызаваць і цкаваць таварышоў, якія ўтвараюць тыя ці інш. памылкі выпадкова, дзякуючы сваёй несьвядомасьці“.

г) Вылучаных таварышоў у склад камісій па праверцы і чыстцы партыі, абгаварэньне сьпісаў арганізаваць так, каб улічыць думку ўсяе партарганізацыі, для чаго АК і АКК па кожнай акрузе зьмясьціць кандыдатуры вылучаных у акруговых газэтах, а па тых акругах, дзе няма газэт, у цэнтральных, абгаварыць сьпісы на сходах ячэек і прадставіць у ЦКК не пазьней 1 мая.

Даручыць Прэзыдыуму ЦКК дасканала праверыць вылучаныя кандыдатуры ў склад Праверкомаў і абвясьціць у друку не пазьней 10/V.

д) Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б своечасова ўлічыць патрэбнасьць сіл для чысткі паасобных акруговых і вайсковых п/арганізацый, разьмеркаваўшы гэтыя сілы з такім разьлікам, каб забясьпечыць бесперабойнасьць работы па чыстцы. Па атрыманьні з ЦКК УсеКП(б) інструкцыі аб чыстцы, Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б скласьці плян чысткі па ўсёй КП(б)Б (чарговасьць, тэрміны), а АКК такія-ж пляны па сваіх акругах. Разам з гэтым, на падставе інструкцыі, правесьці інструктаваньне членаў камісій па чыстцы.

е) Да 15-га мая правесьці пробную чыстку ў аднэй ячэйцы па кожнай акрузе і такую-ж пробную чыстку правесьці ў 3-х вайсковых партячэйках.

## Аб чыстцы савецкага апарату.

1. Пэрыяд узмоцненага разгортваньня будаўніцтва сацыялізму ва ўсіх галінах работы савецкай краіны і рашучага наступу сацыялістычных форм на капіталістычныя элементы народнае гаспадаркі БССР патрабуе ад усяго адміністрацыйнага, гаспадарчага і гандлёвага апарату як асаблівай клясавай вытрыманасьці, так і найбольшай чоткасьці, гібкасьці і поўнай прыстасаванасьці да задач рэканструкцыйнага пэрыяду. Паміж тым, наш апарат засьмечаны чужымі і разлажыўшыміся элементамі, якія ў сваёй рабоце скрыўляюць пралетарскую клясавую лінію, займаюцца шкодніцтвам і дыскрэдытацыяй савецкай улады.

2. Выходзячы з гэтага і на падставе рашэньняў XII Зьезду КП(б)Б, Пленум ЦКК КП(б)Б ухваляе рашэньне Прэзыдыуму ЦКК аб правядзеньні стараннай і рашучай масавай праверкі і чысткі асабістага складу адміністрацыйнага, гаспадарчага і гандлёвага апарату.

Падцьвердзіць тэрмін пачатку чысткі—з пачатку мая.

Даручыць Прэзыдыуму ЦКК распрацаваць цэлы шэраг мерапрыемстваў, не дапушчаючых далейшага засьмечаньня савецкага апарату.

Таксама лічыць неабходным правесьці частковую праверку і чыстку беспрацоўных разумовай працы.

Прэзыдыуму ЦКК даручыць распрацоўку канкрэтных паказаньняў па гэтаму пытаньню.

3. Чыстка павінна вызваліць апарат ад усіх клясава-варожых нам элемэнтаў, а таксама і ад усіх тых элемэнтаў, работа якіх па сутнасьці зьяўляецца шкоднай—як злачынцы, бюракраты, хабарнікі і г. д.

4. Чыстка апарату павінна праводзіцца адкрыта з максімальным уцягненьнем у гэтую справу ўсяе савецкае грамадзкасьці і шырокіх мас працоўных, праводзячы чыстку ў першшую чаргу сіламі вытворчых рабочых, якія абіраюцца на рабочых сходах.

Асаблівую ўвагу органы КК-РСІ, сумесна з парт. і праф. органамі, павінны зьвярнуць на справу асьвятленьня і растлумачэньня сярод шырокіх мас працоўных мэтаў і задач чысткі з тым, каб дамагчыся поўнага разуменьня характару і мэтавай устаноўкі чысткі і пазбавіцца апашленьня яе, ці зьвядзеньня асабістых рахункаў пры чыстцы.

5. Сапраўднае аздараўленьне апарату і прыстасаваньне яго да задач сацыялістычнага будаўніцтва можа быць праведзена пры аднача́совым рашучым папаўненьні савецкага апарату сьвежымі кадрамі рабочых батракоў, сялян-беднякоў і серадднякоў.

Органы КК-РСІ сумесна з усімі партыйнымі, савецкімі і праф. органамі павінны прыняць неадкладныя меры да арганізацыі работы па вылучэньню і да найбольш хуткай кваліфікацыі вылучэнцаў і падрыхтоўкі іх да работы ў апараце.

Даручыць Прэзыдыуму ЦКК сумесна с ЦСПСБ распрацаваць у тэрміновым парадку мэтады і парадак правядзеньня ў жыцьцё адпаведных мерапрыемстваў.

6. Пленум ЦКК адзначае, што чыстка зможа быць праведзена пасьпяхова і дасьць належныя вынікі толькі пры самай стараннай падрыхтоўцы да яе і пры сталым і неаслабным кіраўніцтве чысткай з боку органаў КК-РСІ.

Канстатаваць, што падрыхтоўчая работа па БССР, ня гледзячы на блізасьць тэрміну чысткі, яшчэ ня досыць разгарнулася, у асаблівасьці зусім слаба разгорнута работа адпаведных устаноў па зьбіраньню, афармленьню і праверцы матар'ялаў, патрэбных для чысткі, асабліва ў раёнах.

Адзначаючы вышэйпаказанае, Пленум ЦКК даручае Прэзыдыуму ЦКК і ўсім АКК безадкладна прыняць усе належныя меры, каб гэта работа атрымала адпаведны тэмп, шырока ўжываючы мэтад жывога інструктажу і прыцягваючы да падрыхтоўчай работы і яе праверкі ўсіх членаў КК і работнікаў РСІ.

7. Даручыць Прэзыдыуму ЦКК прыняць самыя жорсткія меры ў адносінах да тых цэнтральных устаноў, якія да гэтага часу ня выканалі дырэктыў ЦКК-РСІ аб распрацоўцы пытаньня па падрыхтоўцы вылучэнцаў.

Адказны рэдактар *Я. Гамарнік.*

Рэдкалегія { *Б. Стасевіч.* *А. Сянкевіч.*

## ЗЬМЕСТ



### Наша трыбуна



### На мяйсцох



### У ЦК КП(б)Б



### У ЦКК КП(б)Б



---